КАРАЛЕЎСКАЯ ГАРОДНЯ

АВІЯЦЫЯ БНР

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 5 (22) — 2020

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

СВЯТАПОЛК-МІРСКІ: ЯК ЛІЦВІН СТАЎ АБАРОНЦАМ «РУСКАГА СВЕТУ»

КВЕТНІК БЕЛАРУСКІ

АСОЧНІКІ

КРЫВІЧЫ, БУЖАНЕ І ЯЦВЯГІ XIX СТАГОДДЗЯ

## ЯК ПРЫ МОЦНЫМ КАРАЛЮ РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ АСЛАБЛА

16+










# Падпісны індэкс 00469

## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 786
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

Наша Гісторыя
5/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — конная статуя Аўгуста II Моцнага ў Дрэздэне, званая «Залаты коннік».

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 14.05.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0254/20.
Наклад 4194.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

У гэтым нумары «Нашай гісторыі» мы звяртаемся да нашай гісторыі першай паловы XVIII стагоддзя. Нагодай для гэтага стаў 350-гадовы юбілей Аўгуста II Моцнага — караля Рэчы Паспалітай паходжаннем з Саксоніі, які стаяў на чале краіны больш за тры дзесяцігоддзі, з 1697 года па 1733-і (з перапынкам у 1706–1709). А пасля Аўгуста II яшчэ амаль 30 гадоў, з 1734-га па 1764-ы, кіраваў ягоны сын Аўгуст III. Таму перыяд кіравання манархаў з Саксонскай дынастыі (Сасаў) стаў у гісторыі Рэчы Паспалітай цэлай эпохай.

Толькі вось ведае большасць з нас пра гэту эпоху, як правіла, зусім няшмат. Так сталася, што калі тры дзесяцігоддзі таму беларусы нарэшце атрымалі магчымасць сур'ёзна заглыбляцца ў тэмы, якія тычыліся палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, то цікавасць у іх выклікалі перадусім тыя перыяды, з якімі звязваліся найбольш слаўныя старонкі айчыннай гісторыі. А XVIII стагоддзе да такіх не адносілася, яно асацыюецца больш з заняпадам, калі дзяржава, у якой тады жылі беларусы, няўхільна кацілася да прорвы.

Калі гэта стагоддзе ў гістарычнай свядомасці беларусаў і прадстаўленае, то хіба толькі другой сваёй паловай. На тыя дзесяцігоддзі прыпалі вельмі прыкметныя і яскравыя, па-сапраўднаму лёсавызначальныя падзеі, якія прадвызначылі нашу гісторыю на наступныя стагоддзі. Пасля выбрання ў 1764 годзе на каралеўскі трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага рабіліся істотныя спробы рэфармавання Рэчы Паспалітай. Яны, праўда, не заўсёды былі паслядоўнымі і эфектыўнымі, але ўсё ж такі пакінулі пасля сябе сляды. Было і непрыхаванае ўмяшанне ва ўнутраныя справы краіны з боку суседніх манархій, што мела вынікам тры яе падзелы. Спробы актыўнага супраціву гэтым падзелам выклікалі паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі, які сёння заняў сваё месца і ў гераічным пантэоне беларусаў.

А вось папярэднія дзесяцігоддзі для большасці з нас — суцэльная чорная дзірка. З падзеяў ад канца XVII да 1760-х хіба толькі пра Паўночную вайну 1700–1721 гадоў чулі ўсе, ды і тое праз пасярэдніцтва расійскіх гістарыяграфіі і літаратуры. Каралі-саксонцы, што кіравалі ў той час Рэччу Паспалітай, у выніку ўспрымаюцца як далёкія ад мясцовых спраў нягеглыя чужынцы, што нічога карыснага тут не зрабілі, ды і рабіць не збіраліся.

Але ці на самай справе ўсё было так проста і адназначна? Якімі людзьмі і палітыкамі насамрэч былі тыя манархі? Які вынік пакінула кіраванне «немцаў на троне»? Якія высновы мы можам зрабіць з таго досведу? Чытайце пра гэта на **старонках 4–26**.



4



11



20



32


68


56


80


















НАПЕРАД, ЗА ГЕДЫМІНАВЫ СЛУПЫ!
92

**Партрэт Аўгуста II Моцнага. Невядомы мастак, 1750-я гады.** На блакітнай стужцы і на мантыі перад каралём — зоркі ордэна Белага Арла. Стварэнне гэтай узнагароды Рэчы Паспалітай у 1705 годзе было яшчэ адной перамогай Аўгуста II. Пра гэта марылі яго папярэднікі Уладзіслаў IV Ваза і Ян III Сабескі, але не здолелі ажыццявіць праз супрацьдзеянне шляхты, якая ганарылася сваёй фармальнай роўнасцю. Кароль выяўлены ў вайсковым мундзіры. За ім бачны разлік саксонскай артылерыі, якая была моцна рэфармаваная падчас панавання Аўгуста II і лічылася адной з перадавых. Арганізацыя і ўніформа войска Кароны і Літвы таксама была створаная на саксонскі ўзор.

# Як пры МОЦНЫМ каралю Рэч Паспалітая аслабла

**«Кароль, які мог сагнуць падкову», Аўгуст II Моцны стаў манархам-міфам. Але, калі адкінуць легенды, які след пакінуў у нашай гісторыі чалавек, 350-гадовы юбілей з даты нараджэння якога мы сёлета адзначаем? Што прынесла і да чаго прывяло яго кіраванне? Піша Кірыл Карлюк.**

Прымаўка «*За караля Саса еш, пі і папушчай паса*» хадзіла ў народзе спачатку як успамін пра «стабільнасць» аўгустаўскіх часоў. Але пасля для інтэлектуалаў яна стала ўвасабленнем маральнага ўпадку эліт ды слабасці самой дзяржавы.

Саскую эпоху — час каралявання Аўгуста II і яго сына Аўгуста III — традыцыйна лічаць найбольшым заняпадам Рэчы Паспалітай. Саміх гэтых каралёў доўга лічылі найгоршымі: выпадковыя, распушчаныя, чужынцы, якія не цікавіліся дзяржаўнымі справамі Кароны і Літвы, а дбалі адно пра сваю нямецкую айчыну.

Сапраўды, той жа Аўгуст II пасля выбрання на трон Рэчы Паспалітай больш часу праводзіў у Дрэздэне, сталіцы Саксоніі, і радзей бываў у Варшаве і Гародні, не кажучы пра Вільню. Але ўвогуле Сасы былі нічым не горшыя і не лепшыя за сваіх папярэднікаў на пасадзе, а ў крызісе Рэчы Паспалітай надта павярхоўна вінаваціць адно манархаў.

### Мара пра карону

Фрыдрых Аўгуст паходзіў з дынастыі Ветынаў (наша назва «Сасы» паходзіць ад польскага *Sasi* — «саксонцы») і з'явіўся на свет 12 мая 1670 года ў сям'і курфюрста Ёгана Георга III. Як другі сын, ён не павінен быў стаць наступным уладаром Саксоніі, і з дзяцінства яго рыхтавалі да вайсковай кар'еры. За незвычайную фізічную дужасць ён атрымаў мянушку Моцны.

Але раптоўная смерць старэйшага брата ад воспы нечакана зрабіла Фрыдрыха Аўгуста ўладаром аднаго з самых заможных нямецкіх княстваў. Асабістых амбіцый Аўгуста цалкам хапіла, каб не толькі адпавядаць новаму тытулу, але і прэтэндаваць на большы, каралеўскі.

**Раптоўная смерць старэйшага брата нечакана зрабіла Аўгуста ўладаром аднаго з самых заможных нямецкіх княстваў**

І хутка магчымасць з'явілася — у сувязі са смерцю ў 1696 годзе Яна III Сабескага і выбарамі новага манарха ў Рэчы Паспалітай. Канкурэнтныя магнацкія групоўкі падчас выбараў у залежнасці ад бягучай кан'юнктуры рабілі свае стаўкі на розных кандыдатаў, сярод якіх звычайна былі і прадстаўнікі манаршых дамоў Еўропы (падрабязней пра гэта гл. у артыкуле «Выбары караля: як функцыянавала нязвыклая для тагачаснай Еўропы мадэль Рэчы Паспалітай» у № 1/2018 «Нашай гісторыі»).

Па выніках гэтых выбараў адбылася падвойная элекцыя, калі меншая частка шляхты абвясціла каралём саксонца, а большая — французскага кандыдата, прынца Канці. Але, скарыстаўшыся тым, што пераможца выбараў доўга адсутнічаў у Рэчы Паспалітай, Фрыдрых Аўгуст сабраў саксонскае войска і рушыў на Кракаў.

Каранаваўшыся ў Кракаве пад іменем Аўгуста II, новы манарх злучыў Саксонію і Рэч Паспалітую пад адным скіпетрам, што стварыла цалкам новую канфігурацыю сіл у рэгіёне. Адно што толькі трон дзяржавы, дзе з каралём ніхто надта не лічыўся, мала задавальняў Аўгуста II.

### Аўгусцейшыя планы

Таму амбітнай мэтай Аўгуста II былі ўсебаковыя рэформы, праект якіх кароль назваў «Як ператварыць Польшчу ▸

**Саксонія**
адна са шматлікіх нямецкіх дзяржаў, якая вяла сваю гісторыю з VII стагоддзя. Спачатку яна была герцагствам, а з 1356 года — курфюрствам у складзе Святой Рымскай імперыі. Курфюрстамі называліся імперскія князі, за якімі з XIII стагоддзя было замацавана права абрання імператара. Сталіцай Саксоніі з XVI стагоддзя быў горад Дрэздэн. Дынастыя Ветынаў кіравала ў Саксоніі з 1422 года, і пры іх яна стала адной з наймацнейшых і найбуйнейшых нямецкіх дзяржаў. У XVIII стагоддзі Саксонія была ўцягнутая ў канфлікты Аўстрыі і Прусіі. Пасля ліквідацыі Напалеонам у 1806 годзе Святой Рымскай імперыі Саксонія стала каралеўствам і фармальна заставалася ім да 1918 года, хоць былой моцы ўжо не мела, а пасля Венскага кангрэсу 1815 года была на дзве траціны зменшана тэрытарыяльна. У 1871 годзе Каралеўства Саксонія стала часткай Германскай імперыі.
Цяпер Свабодная дзяржава Саксонія — федэральная зямля ў складзе Федэратыўнай Рэспублікі Германія, яе цэнтрам па-ранейшаму з'яўляецца Дрэздэн.




## Рэч Паспалітая ў Саскую эпоху (1697–1763)

- тэрыторыя Рэчы Паспалітай і Саксоніі ў персанальнай уніі пад уладай Ветынаў
- тэрыторыі, залежныя ад Рэчы Паспалітай
- уладанні Габсбургаў
- уладанні Прусіі разам з далучанымі ў першай палове XVIII ст. тэрыторыямі
- ДРЭЗДЭН — сталіцы дзяржаў
- Гародня — месцы пасяджэння вальнага сойма Рэчы Паспалітай
- Менск — іншыя гарады
- асноўныя шляхі паміж Дрэздэнам, Варшавай і Гародняй
- дзяржаўныя межы
- іншыя межы
- мяжа Святой Рымскай імперыі
- 1 — Пільтэнскі павет

*Аўтар К. Карлюк*

▸ ў квітнеючы і паважаны суседзямі край». Ён прапаноўваў пашырыць каралеўскую ўладу, адмяніць *liberum veto*, стварыць флот, развіваць гандаль і мануфактуры, спрыяць навуцы і адукацыі, павялічыць і мадэрнізаваць армію, стварыць сістэму сучасных фартыфікацый уздоўж межаў.

Аднак праект праваліўся. Магнаты не пажадалі дзяліцца сваімі правамі з каралём. Не спрыяла рэформам і рэпутацыя самога Аўгуста Моцнага, які не трымаўся свайго слова, адступаў ад абяцанняў і часта змяняў свае погляды.

Тады Аўгуст II паспрабаваў узмацніць сваю ўладу праз замежнапалітычныя манеўры. І ў першыя гады дамогся пэўных поспехаў. Так, у 1698 годзе прайшла кампанія войскаў Саксоніі, Кароны і Літвы супраць татар. Па Карлавіцкім міры 1699 года ў склад Рэчы Паспалітай нарэшце вярнуўся Камянец-Падольскі, захоплены туркамі

за чвэрць стагоддзя да таго. Сойм 1699 года фармальна адзначыў замірэнне караля з апазіцыяй.

### «Саксонскі Геркулес» супраць «Паўночнага Льва»

У 1697 годзе на шведскі пасад узышоў пятнаццацігадовы Карл XII. Юнацкі ўзрост манарха стварыў ілюзію, нібыта раней магутная Швецыя стане лёгкай здабычай для суседзяў. Расія і Данія марылі павялічыць свае тэрыторыі яе коштам. Уласныя планы меў і Аўгуст II: Інфлянты, пярлінай якіх быў багаты партовы горад Рыга, маглі б стаць спадчынным валоданнем



WIKIMEDIA COMMONS

**Партрэт Аўгуста II Моцнага. Гравюра Петэра Шэнка, каля 1697 года.**
Падчас выбараў 1697 года прадстаўнікі прынца Канці, канкурэнта Аўгуста II, шчодра асыпалі шляхту падарункамі і грашыма. У адказ саксонская дыпламатыя таксама не пашкадавала сродкаў і абяцанняў. Фрыдрых Аўгуст не спыніўся нават перад тым, каб змяніць веру, — перайшоў з лютэранства ў каталіцызм. Прапаганда жвава працавала, імкнучыся прадставіць яго ў вобразе сармата — «свайго» па духу для мясцовай шляхты.

Ветынаў і больш шчыльна звязаць дынастыю з Рэччу Паспалітай.

Шляхта не выказвала ніякай зацікаўленасці ў новай рызыкоўнай вайне, і кароль не атрымаў на гэта згоды сойма. Таму ён узяў саксонскае войска і самастойна ўварваўся на тэрыторыю Інфлянтаў, узяўшы ў аблогу Рыгу. Гэты крок прынёс драматычныя для зямель Рэчы Паспалітай вынікі.

Саюзнікі Аўгуста Расія і Данія таксама выступілі супраць Швецыі. Але юны шведскі кароль аказаўся не такі і слабы. Высадка шведаў на востраве Зеландыя вымусіла выйсці з вайны Данію. У лістападзе 1700 года Карл XII разграміў расійскую армію, якая трымала ў аблозе Нарву. Летам 1701-га шведы разбілі саксонска-расійскі корпус у бітве на Дзвіне. Вайна зацягнулася і прынесла значныя страты.

### Адны — да Саса, другія — да Ляса

Паколькі напад на Рыгу адбыўся з тэрыторыі Рэчы Паспалітай, Карл XII лічыў, што мае поўнае права ўвесці на яе войскі. На шведскі бок перайшлі Сапегі, якія імкнуліся да аднаўлення сваіх пазіцый у ВКЛ, а рэспубліканцы пачалі ўскладаць надзеі на дапамогу Расіі.

Але заняцце Варшавы і перамога над польска-саксонскім войскам у бітве пад Клішавам у ліпені 1702 года не дапамаглі Карлу XII атрымаць поўны кантроль над Рэччу Паспалітай. Тады шведскі кароль галасамі часткі шляхты абвясціў аб дэтранізацыі Аўгуста II і абранні каралём познанскага ваяводы Станіслава Ляшчынскага. Іншая частка шляхты з гэтым не пагадзілася. У выніку для нашых зямель вайна набыла характар грамадзянскай, а праціўнікі наўпрост выкарыстоўвалі рэсурсы



STAATLICHE KUNSTSAMMLUNGEN DRESDEN

**Зламаная падкова. 1711 год.**
Адна з цікавостак дрэздэнскай кунсткамеры — падкова і сертыфікат з тлумачэннем: падкову зламаў кароль 15 лютага 1711 года падчас святкаванняў. Аналіз металу ў 1988 годзе выявіў, што падкова была спецыяльна выраблена з крохкай руды для жартаўлівай дэманстрацыі моцы Аўгуста II. Пазней з'явіўся гістарычны анекдот. Нібы аднойчы кароль, вядомы сваёй фізічнай сілай, завітаў да каваля, каб падкаваць каня. Калі каваль зрабіў падкову, кароль узяў і зламаў яе, сказаўшы, што тая няякасная. Так паўтарылася колькі разоў, пакуль забаўка не надакучыла манарху, і ён заплаціў кавалю талер. Каваль узяў манету і пагнуў яе, адзначыўшы, што тая таксама няякасная.

краіны для дасягнення сваіх мэт. Як казалі, «адны — да Саса, другія — да Ляса» (Ляшчынскага).

Уварванне шведскай арміі ў Саксонію ў верасні 1706 года вымусіла Аўгуста II фармальна адрачыся кароны Рэчы Паспалітай і выйсці з вайны. Але ён проста чакаў зручны момант. ▶

Такі момант наступіў пасля разгрому шведаў пад Палтавай у 1709 годзе. Аўгуст II вярнуўся да ўлады, але вялікая частка палітычнай эліты дэкларавала лаяльнасць расійскаму цару Пятру I. Той знайшоў да яе падыход, абвясціўшы сябе абаронцам «залатых вольнасцяў». Расійскія войскі не спяшаліся пакідаць тэрыторыю Рэчы Паспалітай.




**Трон для аўдыенцый. Перад 1719 годам.**
Шыкоўны барочны трон для аўдыенцый Аўгуста II. Зверху змешчана выява сонца — сімвал Апалона, які любіў кароль і неаднойчы выкарыстоўваў. Гэта алюзіі на французскі абсалютызм, і яны не выпадковыя. Менавіта гэтую палітычную мадэль Аўгуст II бачыў як ідэальную. Улада курфюрста пэўны час была абмежавана мясцовым ландтагам. Але, у адрозненне ад Рэчы Паспалітай, дзяржаўныя рэформы (напрыклад, стварэнне ўрада — Таемнага кабінета) пераўтварылі Саксонію ў абсалютную манархію. Аўгуст II і яго сын Аўгуст III у кіраванні моцна абапіраліся на меркаванне каралеўскіх дарадцаў.

**Паўночная вайна, у якую ўвязаўся Аўгуст, прынесла Вялікаму Княству жахлівыя спусташэнні. Насельніцтва скарацілася больш чым на траціну**

Паўночная вайна прынесла краіне жахлівыя дэмаграфічныя і матэрыяльныя спусташэнні. Толькі з-за эпідэмій і голаду насельніцтва ВКЛ скарацілася больш чым на траціну.

### Зноў рэформы: апошні аргумент караля

У 1710 годзе адбылося фармальнае аднаўленне ўлады Аўгуста II. Ніхто са шляхты не пярэчыў, што менавіта ён можа прынесці стабільнасць і мір краіне. Толькі шляхта не хацела ніякіх рэформаў, на якіх настойваў кароль.

Аўгуст Моцны вырашыў дзейнічаць інакш. У канцы 1713-га саксонскае войска ўступіла ў межы Рэчы Паспалітай — кароль разлічваў сілай дамагчыся правядзення рэформаў. У 1715-м частка магнатаў і шляхты, незадаволеная спробамі Аўгуста II узмацніць каралеўскую ўладу, утварыла Тарнагродскую канфедэрацыю. Разгарнулася вайна, дзе саксонцы былі вымушаны дзейнічаць амаль без мясцовай падтрымкі.

Праз год канфедэраты звярнуліся па дапамогу да Пятра I. У выніку пад ціскам расійскіх войск Аўгуст II быў вымушаны пайсці на перамовы. У 1717 годзе пад дыктоўку Расіі адбыўся аднадзённы Нямы сойм — названы так таму, што рашэнні прымаліся без абмеркавання.







**Медаль Аўгуста II Моцнага. Генрых Паўль Гроскурт, паміж 1714–1717 гадамі.**
Медаль, які падкрэсліваў каралеўскія прэрагатывы Аўгуста II, быў выбіты падчас барацьбы з Тарнагродскай канфедэрацыяй. «Саксонскі Геркулес», як нярэдка алегарычна прадстаўлялі караля, перамагае гідру, адольваючы ўсе перашкоды. Аўгуст II надаваў вялікую ўвагу візуальнай прапагандзе: ён асабіста адабраў чатыры праекты медаля з сямнаццаці. У час яго панавання Дрэздэн ператварыўся ў адзін з сусветных цэнтраў мастацтва, не саступаючы па ўплыве Парыжу, Вене ці Рыму.

### Барацьба за кампраміс

Адным з галоўных рашэнняў Нямога сойма было ўвядзенне пастаяннага дзяржаўнага падатку на вайсковыя патрэбы. Упершыню ў гісторыі Рэчы Паспалітай з'явілася рэгулярнае войска і сталая сістэма палкоў. Да таго ж сойм падрэзаў уладу гетманаў, сената і функцыі соймікаў, карупцыя і свавольства якіх узрушала нават шляхту. Забараняліся канфедэрацыі.

## Шляхта і Расія разам працягнулі пункт пра моцна абмежаваны памер арміі

Але галоўным было тое, што шляхта і Расія працягнулі пункт пра моцна абмежаваны памер арміі: Рэч Паспалітая магла ўтрымліваць не больш за 16 тысяч жаўнераў. Лічба абсалютна не адпавядала патрэбам такой вялікай дзяржавы, і гэта рабіла яе безабароннай у геапалітычных гульнях магутных суседзяў.

Аўгуст II паспрабаваў знайсці выйсце. Самыя баяздольныя часткі кароннага і літоўскага войска колькасцю каля 10 тысяч жаўнераў былі часова выведзеныя з-пад улады гетманаў і перададзеныя пад камандаванне таленавітага саксонскага фельдмаршала Якаба Генрыха фон Флемінга. Усе яны былі фундаментальным чынам рэфармаваныя паводле саксонскага ўзору. Актыўна мадэрнізавалася ўзбраенне. Разам з саксонскім войскам гэта ўжо быў значны вайсковы патэнцыял. Прускі амбасадар у Варшаве адзначыў: «Закладзены выдатны фундамент пад абсалютную ўладу. Кароль... дамогся карысці ў такіх пунктах, якіх да яго ніводзін з польскіх каралёў аж да Жыгімонта Аўгуста не меў».

Актыўнай пазіцыя Аўгуста II заставалася і на замежнапалітычнай арэне. У 1714 годзе былі ўсталяваныя добрасуседскія адносіны з Турцыяй. З падтрымкай Аўстрыі ў 1720 годзе ўдалося дамагчыся канчаткова вывядзення расійскіх войскаў.

### Гульня без выніку

Адной з навацый Нямога сойма было недапушчэнне стварэння нейкага фармальнага саюзу паміж Саксоніяй і Рэччу Паспалітай (як, напрыклад, Люблінская унія). Кароль, які якраз марыў пра такі саюз, разглядаў гэта толькі як часовую перашкоду. Ён абраў тактыку мяккай сілы, імкнучыся стварыць цесныя сувязі паміж элітамі падуладных земель, спрыяў нарошчванню культурных сувязяў. Паралельна Аўгуст II спрабаваў выбудоўваць адносіны з рознымі магнацкімі групоўкамі Рэчы Паспалітай, прасоўваючы праз соймавыя працэдуры ідэю рэформаў.

Усё гэта не засталося без увагі суседзяў. У 1719 годзе Расія і Прусія патаемна дамовіліся, каб супрацьстаяць любым зменам у палітычным ладзе Рэчы Паспалітай. Аналагічных дамоўленасцей Расія дасягнула са Швецыяй і Аўстрыяй. Але галоўным хаўруснікам усходняй суседкі стала шляхта самой Рэчы Паспалітай: абсалютная большасць соймаў у саскія часы была сарваная праз *liberum veto*. З-за пазіцыі магнатаў нават вайсковыя рэформы Аўгуста II не далі жаданага доўгатэрміновага эфекту, і ў войску да сярэдзіны XVIII стагоддзя запанавала стагнацыя.

Палітычная «гульня ў доўгую» Аўгуста II, якую пасля смерці ў 1733 годзе працягнуў яго сын Аўгуст III, не дала плёну. Рэформы паспрабуе правесці ў апошняй чвэрці XVIII стагоддзя ўжо іншы манарх, але будзе ўжо запозна. ▶



**Конная статуя Аўгуста II Моцнага ў Дрэздэне.** Знаходзіцца на пляцы Нойштадэр Маркт і выкананая Закарыясам Лангелюнам у 1735 годзе па смерці караля. Манарх скіраваны ў бок Рэчы Паспалітай. У адрозненне ад пецярбургскага Меднага вершніка яе называюць Залатым вершнікам (*Goldener Reiter*).

**Менавіта Сасаў збіралася зрабіць спадчыннай дынастыяй Канстытуцыя 3 мая 1791 года. Будучы аточанымі Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй, творцы Канстытуцыі не бачылі ніякага іншага манаршага роду, на які можна было абаперціся.**

### 66 гадоў

Персанальная унія Рэчы Паспалітай і Саксоніі праіснавала амаль 66 гадоў, пакінуўшы істотны след у гісторыі Польшчы, ВКЛ і Саксоніі. Гэта былі вельмі розныя дзяржавы, інтарэсы эліт якіх часта не супадалі з палітыкай Аўгуста II і Аўгуста III. Больш глыбокім сувязям між краінамі не спрыялі і іншыя прычыны: адрозненні ў палітычным ладзе, рэлігіі, розны ўзровень эканамічнага развіцця, адсутнасць супольнай мяжы, а галоўнае — адданасць польска-літоўскай шляхты «залатым вольнасцям».

Увогуле ж, для Аўгуста II, як і для большасці іншых манархаў яго часу, галоўнымі былі дынастычныя інтарэсы і ўласныя велізарныя амбіцыі. У спалучэнні з заняпалай палітычнай сістэмай краіны абранне такога манарха не стала для Рэчы Паспалітай выратаваннем. Незалежна ад асабістых якасцей караля, які быў чалавекам надзвычай складанай і супярэчлівай натуры. ◆




**32 грошэна (двайны гульдэн) з выявай матылька. Дрэздэнская менніца, пачатак XVIII стагоддзя.**
Раней лічылі, што таямнічая манета прысвечана графіні Ганне Канстанцыі фон Козель, афіцыйнай фаварытцы Аўгуста II Моцнага. Разумная і адукаваная дзяўчына паспрабавала ўмешвацца ў дзяржаўныя справы і хутка настроіла супраць сябе ўплывовых міністраў, што прывяло да яе падзення і зрабіла пажыццёвай вязніцай замка Штольпен. Зараз лічыцца, што насамрэч манета выбітая пасля адрачэння Аўгуста II у 1706 годзе і была палітычным пасланнем: пераўвасабленне матылька з кукалкі азначае жаданне вярнуць карону, а незвычайныя тры пары крылаў — гэта Польшча, Літва і Саксонія. Больш крытычнага погляду вымагаюць і самі амурныя прыгоды манарха. Адносіны Аўгуста II з жонкай Крысціянай Эбергардзінай былі няпростыя: тая была адданай пратэстанткай і моцна перажывала пераход мужа (а пазней і сына) у каталіцтва, жыла асобна ад двара. Кароль сапраўды меў каханак, але нашмат менш, чым яму прыпісвалі. Як і дзяцей: Аўгуст Моцны меў толькі аднаго сына ад сваёй жонкі і восем пазашлюбных дзяцей, якіх ён афіцыйна прызнаў.




**Фрагмент саксонскага паштовага слупа ў Зенфтэнбергу. 1730 год.**
Гербы Рэчы Паспалітай і Саксоніі з каралеўскай манаграмай A.R. (лацінскае *Augustus Rex* — кароль Аўгуст) на паштовым слупе. Такія слупы з пазначэннем адлегласці былі ўсталяваныя па ўсёй Саксоніі падчас аднаўлення і будаўніцтва паштовых трактаў і сталі прыкладам для ўсёй Еўропы. Узорнай лічылася і сама саксонская паштовая служба. У эмблемах і назвах саксонскіх дзяржаўных устаноў у гэты перыяд шырока ўжываліся сімвалы Рэчы Паспалітай: так кароль жадаў падкрэсліць сувязь сваіх уладанняў. Нягледзячы на пастановы Нямога сойма, з'явіліся нават некаторыя інстытуты, якія звязвалі абедзве дзяржавы: саксонскі Таемны кабінет адзін раз на тыдзень (чацвер) разглядаў справы Кароны і Літвы, саксонская дыпламатычная служба ўзяла на сябе знешнія адносіны з замежнымі сталіцамі, супольнымі сталі таксама прыдворная гвардыя ды сам каралеўскі двор.

# Заўэрбратэн па-саксонску

Саксонскія каралі прынеслі ў Польшчу, Беларусь і Літву сярод іншага і ўплывы саксонскай кухні.

Адна з самых яскравых страў гэтай кухні — марынаванае кіслае мяса, «заўэрбратэн». У Саксоніі яго звычайна робяць з ялавічыны.

Прынцып гэтай стравы — мяса трэба браць загадзя і мінімум тры дні марынаваць у кіслым соусе. Кажуць, што ўвогуле гэтая страва прыйшла з часоў Рымскай імперыі, калі мяса вымочвалі ў кіслым віне.

Доўгае марынаванне дазваляла зрабіць мяккім любое мяса, нават самае цвёрдае.


SCHMECKTHIER.DE

Мяса па-саксонску.

Пры марынаванні мяса трымаюць у халадзільніку. Важна, каб яно было не ў металічным посудзе, а ў керамічным ці шкляным, бо кіслата ўступае ў рэакцыю з жалезам.

Класічны марынад — гэта адна частка вінаграднага воцату, адна частка чырвонага віна і дзве часткі вады. Аднак эксперыменты магчымыя розныя: пасуюць і яблычны воцат, і сідр, і розныя іншыя кіслыя марынады.

Спецыі: соль, перац, цыбуля, лаўровы ліст ды любыя іншыя, якія вам смакуюць з мясам. А вось што традыцыйна для саксонскага заўэрбратэну — ягады ядлоўца.

Змяшайце інгрэдыенты марынаду, давядзіце да кіпення. Калі астыне, пакладзіце туды мяса. Марынад мусіць добра яго пакрываць. Раз на дзень мяса пераварочвайце, каб марынад у яго прайшоў з усіх бакоў.

Перад тым як смажыць ці тушыць мяса, яго трэба добра прамакнуць, каб яно было сухім.

Для соусу вам спатрэбіцца прыкладна тры чвэрці соку з марынаду. Рэшту скарыстаеце, калі соус выкіпіць празмерна.

Асаблівасць традыцыйнага соусу ў тым, што ён гатуецца з дадаваннем салодкіх інгрэдыентаў. Гэта і надае яму непаўторны кісла-салодкі смак. Традыцыйна соус загушчалі не мукой і крухмалам, а цукровым сіропам ці пернікамі. Класіка-класіка — гэта калі загусціць марынад цёртым ці здрабнёным імбірным печывам. Прыкладна 10 хвілін паварыце соус на слабым агні, за гэты час размочаныя пернікі ператворацца ў густую соусную масу. Выпарваннем ці, наадварот, дадаваннем паніровачных сухароў, мукі ці цёртых пернікаў давядзіце соус да патрэбнай кансістэнцыі.

Класічны колер соусу — густа-карычневы.

Гарнір да такога мяса па-саксонску пасуе любы. У часы каралёў Сасаў яго найбольш елі з хлебам, тыпу кнэдлікаў. А цяпер у модзе розная гародніна.

Смачна есці! ◆


WIKIMEDIA COMMONS

Мяса ў марынадзе.


SÄCHSISCHES STAATSARCHIV, HAUPTSTAATSARCHIV DRESDEN

# Каралеўская Гародня

## Стары і Новы замак у часы Сасаў

**У XVIII стагоддзі аднаўлены гарадзенскі Стары замак разам з шыкоўным Новым замкам стварылі рэспектабельны палацавы комплекс, якому не сорамна было прымаць прызвычаеных да еўрапейскай раскошы каралёў. Пра бліскучае мінулае і сумнеўную будучыню замкаў піша Кірыл Карлюк.**

Яшчэ ў апошняй чвэрці XVI стагоддзя кароль Стэфан Баторый (гл. пра яго артыкул Андрэя Скурко ў № 4/2019 «Нашай гісторыі»), які любіў і часта наведваў Гародню, пачаў перабудову колішняга замка Вітаўта ў сучасны маньерыстычны, познерэнесансны палац. Праўда, давесці справу да канца не паспеў. У першай палове XVII стагоддзя замак актыўна дабудоўвалі Жыгімонт III і Уладзіслаў IV Вазы, што праводзілі тут нямала часу і нават прымалі паслоў.

Трынаццацігадовая вайна з Расіяй 1654–1667 гадоў не пашкадавала Стары замак, як і шматлікія іншыя мясціны тагачаснай Літвы. Сталічная Вільня таксама ляжала ў руінах, у тым ліку і палац вялікіх князёў, які ўжо ніколі не аднаўляўся. У такіх умовах менавіта Гародня стала адным з галоўных цэнтраў палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай. Што ўвасобілася ў рашэнні 1673 года, каб кожны «трэці сойм станаў Кароны і ВКЛ... адпраўляўся у ВКЛ, у горадзе Гародні».

**Разрэз Сенатарскай залы ў палацы Сапегаў у Гародні. Каля 1726 года.** Аўтарам праекту перабудовы палацаў Сапегаў на Рынку для патрэбаў двара і сойма быў Іаахім Даніэль Яўх. Большасць дабудаваных частак палаца былі драўляныя.

## Соймавае места

Першапачаткова горад быў зусім непрыстасаваны, каб прымаць такую колькасць шляхты і каралеўскі двор. У 1670-х гадах замак адрамантавалі, і ў наступныя два дзесяцігоддзі тут адбылося тры соймы. Але ўжо тады паслы жаліліся на «невыгоды мізэрнага і дрэнна забудаванага горада».

**У час сойма цэны на арэнду ў Гародні ўзляталі, таму кожны марыў пра ўласную нерухомасць**

Вялікая Паўночная вайна пачатку XVIII стагоддзя прынесла Гародні новыя спустошэнні. Стары замак быў цалкам разбураны, а яго аднаўленне вымагала значных сродкаў. У выніку ў 1710–1720-х гадах для каралеўскай рэзідэнцыі ды пасяджэнняў сената і пасольскай ізбы прыстасавалі палацавыя будынкі Сапегаў на Рынку. Тут прайшлі соймы 1718, 1726, 1729 і 1730 гадоў. Але памяшканні не задавальнялі ні каралеўскі двор, ні шляхту. Таму пасля 1726 года ў Аўгуста II нарадзілася ідэя ўзвядзення новага палаца.

Гэта супала з вялікай будаўнічай актыўнасцю магнатаў у 1720–1730-х гадах. У час сойма цэны на арэнду ў Гародні ўзляталі, таму кожны марыў пра ўласную нерухомасць. Пабудавалі ці перабудавалі старыя свае рэзідэнцыі Сапегі, Радзівілы, Бжастоўскія, Масальскія, Пацы, Агінскія, Сангушкі, Валовічы і іншыя. Палацы і двары ў горадзе тады былі збольшага драўляныя, а таму часта цярпелі ад пажараў. Квітнелі каталіцкія кляштары і іх гаспадарка.

Праўда, дэмаграфічнага і эканамічнага выбуху, як у тагачаснай Варшаве, не адбылося. Нават нягледзячы на пазнейшую гаспадарчую актыўнасць Антонія Тызенгаўза (гл. пра яе артыкул Андрэя Вашкевіча ў № 1/2018 «Нашай гісторыі»), напрыканцы стагоддзя насельніцтва Гародні складала ўсяго 5–6 тысяч чалавек.

## Каралеўскі баўамт

Маштабнае будаўніцтва ў Рэчы Паспалітай ініцыявалі не толькі магнаты, але і каралеўскі двор. Узорам дзяржаўнай мадэлі і крыніцай культурных уплываў для Аўгуста II і яго сына была Францыя. Не дзіўна, што менавіта па яе прыкладзе ў саксонскай сталіцы Дрэздэне стварылі адмысловую дзяржаўную ўстанову — *Обербаўамт*, што перакладаецца з нямецкай мовы як Галоўная будаўнічая служба.

Для Кароны і Літвы з 1710 года працавала філія гэтай установы — Каралеўскі баўамт у Варшаве (*Das Königliche Bauamt in Warschau*). Гэтая служба, узначаленая саксонскімі ▸




**План часткі горада Гародні. 1740-я гады.** Новы замак пасля будаўніцтва і Стары замак па аднаўленні. Пакуль яшчэ няма палацавай капліцы. Дарога да палаца ідзе па прэстыжнай Замкавай вуліцы, дзе знаходзіліся палацы Масальскіх, Сасноўскіх і Храптовічаў, каралеўскія стайні. У гэты час вуліца бачыла нямала ўрачыстых працэсій і раскошных экіпажаў.




**Урачысты ўезд Аўгуста III у Варшаву 25 лістапада 1734 года.**
Фрагмент карціны Ёгана Самуэля Мока, 1734–1735 гады.
Такія працэсіі можна было бачыць і ў Гародні: падчас пачатку працы сойма, дня нараджэння караля. Усе ролі былі старанна размеркаваныя. Улучанымі ў іх былі і гледачы — звычайныя гарадзенцы. Як у дзень нараджэння Аўгуста III у 1752 годзе: «А дзясятай гадзіне на Замкавай вуліцы… глядзелі на цудоўнае шэсце дыгнітарыяў, якія накіроўваліся да замка для таго, каб павіншаваць караля. Каля ста экіпажаў, акружаных шматлікімі аршакамі, у польскіх строях, з шумам і бляскам, праехалі перад нашымі вачыма».

▸ архітэктарамі, і займалася гарадзенскімі палацамі.

Першыя эскізныя праекты новага каралеўскага палаца паўсталі ў 1733–1736 гадах, напэўна, з удзелам Матэуса Даніэля Пёпельмана, архітэктара комплексу Цвінгер і іншых барочных жамчужын Дрэздэна. Але больш адпаведным каралю Аўгусту III, які ўзначаліў Рэч Паспалітую пасля свайго бацькі Аўгуста II і падхапіў яго ідэю з замкам у Гародні, падаўся маштабны праект сына Пёпельмана — Карла Фрыдрыха. Гэта быў уплывовы ў канцы 1730-х у Варшаве архітэктар, які ўзначаліў там самастойнае архітэктурнае бюро і фактычна атрымаў роўныя магчымасці з кіраўніком Баўамта Іаахімам Даніэлем Яўхам. 30 кастрычніка 1738 года праект пабудовы Новага замка быў зацверджаны, а заадно падпісаны кантракт на яго рэалізацыю ў наступныя чатыры гады.

## Новы каралеўскі палац

Асноўныя працы на Новым замку былі скончаныя ў 1742 годзе. Будынак змяшчаў сенатарскую і пасольскую залы ў левым крыле і каралеўскія пакоі ў правым —

## Бляск саксонскага двара

Вільгельм Шлемюлер, які наведаў Гародню падчас сойма 1752 года, так апісвае свае ўражанні ад багацця двара Аўгуста III: «Саксонскі двор адрозніваецца пышнасцю і раскошай. Утрымліваюць не менш за 50 кухараў, незлічоную колькасць пешых і конных слуг, а таксама лаўфараў... Двор валодае велізарнымі багаццямі срэбных сервізаў і крышталю». Не дзіўна, што кожны пераезд двара быў складанай лагістычнай аперацыяй, якая загадзя дэталёва планавалася: разлік колькасці экіпажаў, вазоў, багажу, падрыхтоўка пашпартоў, план паездкі, прыпынкі, харчаванне і інш. Двор дзяліўся на некалькі груп па службах, якія па чарзе выпраўляліся ў дарогу. Для разумення, наколькі дорага гэта было, згадаю, што толькі для транспартавання грузаў трох прыдворных харчовых службаў з Варшавы ў Гародню ў 1744 годзе спатрэбілася 20 вазоў з шасцю конямі кожны, а іх агульны кошт склаў 6610 тымфаў, ці 1322 талеры (для параўнання — чвэрць тушы найлепшай ялавічыны ў гэты час каштавала каля 1 талера).



ÖSTERREICHISCHE NATIONALBIBLIOTHEK

**Аўгуст III і Марыя Юзэфа Габсбург за партыяй у шахматы. Мініяцюра сярэдзіны XVIII стагоддзя.**
У адрозненне ад бацькі, Аўгуст III быў чалавекам сямейным і набожным. Марыя Юзэфа суправаджала мужа двойчы ў Гародню, як і дзеці Марыя Ганна і Марыя Юзэфа ў 1744-м, каралевічы Франц Ксаверы і Карл Крысціян у 1752 годзе. На час візіту ў Гародню прыпадалі асобныя сямейныя святы. Так, у 1744 годзе гэта былі дзень нараджэння караля, дні народзінаў і імяніны некаторых дзяцей караля і аўгусцейшых сваякоў з Вены, Мюнхена і Неапаля.

гэтак сімвалічна паядноўваліся дзве галіны ўлады. У цэнтры паміж імі знаходзіўся круглы італьянскі салон, на восі якога з боку саду ў 1752 годзе дабудуюць вялікую капліцу. Яшчэ два асобныя будынкі занялі маршалкоўская кухня і канцылярыя. На тэрасе за будынкам быў прадугледжаны невялікі сад з шырокімі праспектамі для пышных урачыстасцяў, так уласцівых саскаму двару.

Агароджа і канструкцыя брамы са скульптурамі сфінксаў і пуці* запазычана з дрэздэнскага Галандскага палаца, архітэктарам якога быў Пёпельман-старэйшы. Самі скульптуры, як і іншыя пластычныя элементы аздобы палаца, выканаў першы каралеўскі скульптар Ёган Георг Плерш.

### Другое жыццё Старога замка

У сувязі з будаўніцтвам Новага замка пачалося аднаўленне Старога, стан якога быў «крыху лепшым за кучу смецця» — прынамсі, так яго апісваў у 1706 годзе англійскі пасол у Расіі барон Чарльз Уітварт.

Праект адбудовы прыкладна ў 1740 годзе зрабіў усё той жа Карл Фрыдрых Пёпельман. Фасады Старога замка ўпрыгожылі пілястры з барочнымі картушамі, вокны набылі прамавугольную форму з фігурнымі ліштвамі, дах стаў высокім чатырохсхільным з трыма мансардавымі вокнамі, крыты хвалістай дахоўкай. Інтэр'еры аздобілі печы з распісной кафляй. Як згадваюць яшчэ інвентары сярэдзіны XVII стагоддзя, у замку існаваў італьянскі «садок пры браме», знішчаны пазней падчас ваенных дзеянняў. Пёпельман палічыў неабходным аднавіць яго на тым самым месцы.

Адбудаваны ў французскім стылі Стары замак склаў з Новым арганічны палацавы комплекс. Для яго было адведзена шэраг важных функцый. Яшчэ ў 1746 годзе кароль выдзеліў тут памяшканні для ▶

* **Пу́ці** — мастацкі вобраз маленькага хлопчыка, які сустракаецца ў мастацтве Рэнесансу, барока і ракако.

органаў улады Гарадзенскага павета: канцылярыі, гродскага і земскага судоў ды іх архіваў. Згодна з інвентаром 1769 года, у замку яшчэ размясціліся архіў Скарбовай камісіі ВКЛ, скарб і скарбніца, меўся пакой для скарбовага намесніка. Іншыя пакоі былі цалкам абсталяваныя для камфортнага жыцця службоўцаў. Гэта былі памяшканні дастатковага ўзроўню, каб у апартаментах пры неабходнасці мог спыніцца нават падканцлер літоўскі Яўхім Храптовіч.



**Новы замак у сярэдзіне XVIII стагоддзя.** Рэканструкцыя Мечыслава Яна Супрона.



**Стары замак у сярэдзіне XVIII стагоддзя.** Рэканструкцыя Мечыслава Яна Супрона.
Такі выгляд замка не толькі добра захаваўся, але яшчэ і найлепш дакументалізаваны: да нас дайшлі шматлікія тагачасныя графічныя планы і пісьмовыя крыніцы.

## Двор аднаго караля і трох дзяржаў у Гародні

Каралям з дынастыі Ветынаў ставяць у дакор, што тыя замала часу праводзілі ў Рэчы Паспалітай. Гэта тлумачылася складанай і дарагой лагістыкай. У 1740-х гадах толькі службовых асоб дрэздэнскага двара налічвалася больш за 700 чалавек, падзеленых на асобныя інстытуцыі: сакратарыят, кухня, паляванне, тэатр, варта і іншыя. Да іх яшчэ трэба дадаць амаль сотню прыдворных.

Два асноўныя шляхі з Дрэздэна ў Варшаву ішлі праз Уроцлаў і Познань, абодва каля 650 км. З Варшавы да Гародні — 280 км. Але каралеўская сям'я наведвала Рэч Паспалітую даволі рэгулярна, паколькі фармальна вырашаць яе дзяржаўныя справы манарх мог толькі тут. Агулам за сваё 29-гадовае панаванне Аўгуст III правёў у Рэчы Паспалітай каля 40% свайго часу. У Гародні кароль быў двойчы падчас соймаў: з верасня да канца лістапада 1744 года і з сярэдзіны верасня да пачатку лістапада 1752-га.



SÄCHSISCHES STAATSARCHIV, HAUPTSTAATSARCHIV DRESDEN

**План фасада палаца Старога замка. Карл Фрыдрых Пёпельман, каля 1740 года.**
Наяўнасць вялікай колькасці праектаў для Новага і Старога замкаў сведчыць, што Аўгуст III браў актыўны ўдзел у іх абмеркаванні з архітэктарамі Баўамта. Некаторыя з планаў маюць уласнаручную візу караля.

**Аўгуст III ужо самім палацавым комплексам нібы казаў, што прыйшоў час узмацніць манархію**

Пасля прыбыцця кароль з каралевай займалі пакоі

першага паверха правага крыла Новага замка. Прыдворныя мелі апартаменты на другім паверсе: пакоі ў левым крыле займаў першы міністр, наступныя тры — прыдворны капелан, у галоўным корпусе — каралеўскія дзеці і іх слугі, у правым крыле — «фраўцымер» (пакоі прыдворных дам) на чале з ахмістрыняй графіняй Калаўрат. У памяшканнях кухні маршалкоўскай — саксонскі обер-гофмаршал, кухмістр і лоўчы. Частку мэблі, посуду і іншага начыння на гэты час прывозілі з Дрэздэна і Варшавы.

Жыццё прыдворнай супольнасці было насычанае падзеямі. Найбольш значнымі з'яўляліся адкрыццё сойма і дзень нараджэння караля з параднымі працэсіямі, аўдыенцыямі, абедамі і балямі. Святкавалі дзень нараджэння караля звычайна два дні. У банкеце маглі ўдзельнічаць часам да 150 з лішкам гасцей: мясцовыя магнаты, саксонскія прыдворныя і замежныя паслы. Стол сервіравалі срэбным посудам. Банкет цягнуўся некалькі гадзін з трыма зменамі страў і грандыёзнымі барочнымі кандытарскімі вырабамі ў канцы. А «за здароўе караля пілі пад гукі труб, барабанаў і гарматных стрэлаў».

З Гародняй Аўгуста III звязвалі не толькі дзяржаўныя справы, але і яго любімая забава — паляванне. У ваколіцах кароль меў драўляную вілу на Нёмане (напэўна, у Панямуні) і паляўнічы двор у Стрыеўцы.




**Партрэт Ежы Аўгуста Вандаліна Мнішака, маршалка надворнага кароннага. Студыя Луі дэ Сільвестра, сярэдзіна XVIII стагоддзя.**
Зяць першага міністра Генрыха фон Бруля, які ўзначальваў партыю прыхільнікаў Аўгуста III, круглы партрэт якога выяўлены злева. У Гародні каля брыгіцкага кляштара меў свой драўляны двор з палацам. Мнішак трымае жазло — сімвал годнасці маршалка надворнага кароннага. І хоць сам каралеўскі двор быў адзін, меліся тры асобныя фармальныя іерархіі прыдворных пасад: саксонская, каронная і літоўская.

MUZEUM OKREGOWE W RZESZOWIE

## У сэрцы палітычнага жыцця

Комплекс Новага і Старога замкаў, акрамя практычных, выконваў і важныя сімвалічныя функцыі. Палац як дом караля быў месцам, дзе разгортвалася палітычнае жыццё і чынілася гісторыя. Пра перавагу над іншымі будынкамі і адасобленасць каралеўскай рэзідэнцыі сведчылі як архітэктурныя рысы, так і само размяшчэнне на ўзгорках над горадам.

Аўгуст III ужо самім палацавым комплексам нібы казаў, што прыйшоў час узмацніць манархію. Ён марыў павялічыць войска, правесці рэформу скарбу, абмежаваць шляхецкія прывілеі, каб дзяржава перастала ▶





MUZEUM NARODOWE W KRAKOWIE

**Пратазаны кавалергардаў і швейцарскіх гвардзейцаў. 1719 і 1731 год, Саксонія.**
Акрамя польскіх і літоўскіх рэгіментаў гвардыі пешай і коннай, саксонскіх Гар-дзю-кор і гвардзейскіх карабінераў, функцыі ганаровай варты, аховы ці эскорту караля па французскім прыкладзе таксама выконваў цырыманіяльны корпус з Швейцарскай гвардыі, Дваранскага кадэцкага корпуса і кавалергардаў (з польска-літоўскай шляхты).

▶ пакутаваць ад *liberum veto*, свавольства магнацкіх груповак, слабасці выканаўчай улады. Але шляхта працягвала лічыць палітычны лад краіны ўзорным і супраціўлялася зменам, зрываючы соймы. За імі стаялі інтарэсы Расіі і Прусіі ды іх шчодрыя «субсідыі». Дарэчы, самы драматычны сойм, 1793 года, праходзіў у Гародні. Апошні кароль Рэчы Паспалітай пасля свайго адрачэння жыў у Новым замку яшчэ да 15 лютага 1797 года (гл. пра гэты перыяд яго жыцця артыкул Наталлі Васілюк у № 8/2019 «Нашай гісторыі»). Пасля гэтага надышоў канец некалі бліскучай гісторыі каралеўскай рэзідэнцыі.

## Пазнейшы лёс замкаў

Падчас войнаў з Напалеонам Гародня стала памежным горадам, і ў расійскіх уладаў быў праектператварэння яе ў горад-крэпасць. Новы замак мог быць нават часткова разбураны. Але, на шчасце, пасля 1815 года мяжа адсунулася далёка на захад, што зрабіла гэтыя планы неактуальнымі. У XIX стагоддзі Новы замак стаў выконваць

LIETUVOS NACIONALINIS DAILĖS MUZIEJUS

**Гербавы картуш з франтона галоўнага корпуса Новага замка. Фота Ежы Гопена, 1940 год.**
Пасля ўваходжання Гародні ў склад Расійскай імперыі герб быў скінуты і праляжаў ля замкавай агароджы некалькі гадоў. Картуш выратаваў Станіслаў Солтан, удзельнік паўстання 1794 года, які з дазволу ўладаў вывез яго ў свой маёнтак Бераставіца Мураваная. Ужо ў міжваенны час герб адшукаў і вярнуў у Гародню Юзаф Ядкоўскі. Доўгі час картуш знаходзіўся пад адкрытым небам. Толькі ў 2013 годзе ён быў усталяваны пад дахам ля ўвахода ў Новы замак, дзе яго можна пабачыць і зараз.

функцыі правінцыйнага шпіталя, а Стары — афіцэрскага сходу і казармаў. Яны перажылі некалькі рамонтаў і страцілі большасць сваіх дэкаратыўных элементаў. У міжваенны час існавалі праекты іх аднаўлення, але, акрамя мінімальна неабходных рамонтных прац, нічога так і не было зроблена.

Стары замак стаў музеем.

Летам 1944 года Новы згарэў, а пасля рэканструкцыі ў 1950-х гадах стаў сядзібай аблвыканкама. Сёння ў будынку месцяцца залы гісторыка-археалагічнага музея.

## А што цяпер?

Гародня даўно чакае аднаўлення колішняй каралеўскай рэзідэнцыі — Новага і Старога замкаў. Сёняшні будынак на замкавым дзядзінцы — гэта ў першую чаргу аўтэнтычны помнік сярэдзіны XVIII стагоддзя, узведзены на руінах палаца часоў Баторыя і Вазаў. Яго аблічча толькі нязначна зменена цягам наступных двух стагоддзяў і магло б быць адноўлена цяпер. Але абраны іншы падыход — вярнуць Стары замак у часы Баторыя. Але, каб аднавіць замак у гэтым выглядзе, не хапае гістарычных крыніц, што прыводзіць да сур’ёзных памылак і адвольных дапушчэнняў. У выніку губляецца большасць пазнейшых архітэктурных напластаванняў, разбураецца натуральная гістарычная сувязь з Новым замкам, на тэрыторыі паўстаюць неабгрунтаваныя новыя аб’екты.




**План фасада кардэгардыі Новага замка. Карл Фрыдрых Пёпельман, 1738 год.**




**Картуш з выявай сонца. Фота Ежы Гопена, 1940 год.**
Картуш з выявай сонца, які знаходзіўся на фасадзе кардэгардыі. Сонца, сімвал Апалона, яшчэ з часоў Аўгуста II было адной з улюбёных эмблемаў Сасаў. На жаль, да нашага часу захаваліся адно яго фрагменты.




**Талерка з каранацыйнага сервіза. Майсэнская мануфактура, каля 1733–1734 года.**
Знакамітая фарфоравая мануфактура ў Майсэне адкрылася ў 1710 годзе. І хутка аказалася па-за канкурэнцыяй праз выраб цвёрдага фарфору, які вынайшлі саксонскія навукоўцы. У час Аўгуста II Саксонія перажывала эканамічны бум, адчыніліся шматлікія дзяржаўныя і прыватныя прадпрыемствы. Рэч Паспалітая спрыяла гэтаму як вялікі і даволі багаты рынак. Талерка паходзіць з сервіза на 72 прадметы, які быў створаны адмыслова для ўрачыстага банкету ў гонар каранацыі Аўгуста III. Яго абранне ў Рэчы Паспалітай было звязана зноў з падвойнай элекцыяй і буйным узброеным канфліктам ва ўсёй Еўропе, які атрымаў назву «вайны за польскую спадчыну».

У лютым 2020 года група вядомых польскіх экспертаў наведала Стары замак. Узровень захаванасці помніка менавіта на саскі час выклікаў у спецыялістаў сапраўднае захапленне. У выніковым дакуменце яны адзначылі «гістарычную і навуковую каштоўнасць аўтэнтычных частак каралеўскага палаца XVII і XVIII стагоддзяў і неабходнасць іх захавання, як агульнай культурнай спадчыны». На жаль, пакуль гэта ніяк не паўплывала на праект рэстаўрацыі.

Застаецца надзея, што рэканструктары прынамсі ў будучыні ўлічаць памылкі абранага падыходу і патэнцыяльнае аднаўленне Новага замка стане годным ушанаваннем каштоўнай спадчыны XVIII стагоддзя і каралеўскага мінулага Гародні. ◆

Аўтар выказвае сардэчную падзяку за прадстаўленыя матэрыялы і дапамогу ў напісанні артыкула **Яўгену Аснарэўскаму**, **Андрэю Вашкевічу**, **Міколу Волкаву** і **Мечыславу Яну Супрону**.

**Цвінгер сам па сабе з’ява мастацтва**, не кажучы пра тысячы шэдэўраў, што ў ім захоўваюцца і выстаўляюцца.

# Горад каралёў Сасаў

## Восем адрасоў Дрэздэна

**У Саксоніі і Рэчы Паспалітай на працягу шасці дзесяцігоддзяў былі адны ўладары. Дзе шукаць сляды гэтай супольнай гісторыі ў сучасным Дрэздэне, падказвае экскурсавод, гісторык мастацтва, беларуска Карына Вульф-Востэн.**

Гэта ў краінах-нашчадках былой Рэчы Паспалітай могуць спрачацца: былі бацька і сын Аўгуст II і Аўгуст III дрэннымі каралямі ці вельмі дрэннымі. У саксонцаў жа няма ніводнай прычыны крытыкаваць сваіх курфюрстаў.

Для абодвух Сасаў Дрэздэн быў радзімай, спадчынным уладаннем і месцам, у якое яны ўкладалі душу. Гэтыя ўладары ставілі радзіму вышэй за Рэч Паспалітую. Але так выйшла, напэўна, не толькі з патрыятычных пачуццяў. Саксонія была меншай па тэрыторыі, больш аднароднай і лягчэй паддавалася тым зменам, якіх хацелі для яе курфюрсты. Чаго нельга сказаць пра федэратыўную Рэч Паспалітую, з яе шляхецкімі вольнасцямі ў дадатак.

Аўгуст II Моцны і сёння найвядомейшы і найбольш шанаваны за ўсю гісторыю Саксоніі курфюрст. Ён быў эстэтам, і адсюль галоўныя Аўгуставы дасягненні: запачаткаванне карціннай галерэі, перабудова горада, заснаванне фарфоравага промыслу. Прыдворны люд любіў свайго ўладара і за шык, што ён вакол сябе распаўсюджваў, — фестывалі, баляванні, святы, якія, праўда,




уляталі ў капеечку не толькі самой Саксоніі, але і Рэчы Паспалітай.

Адзіны легітымны сын Аўгуста Моцнага, Аўгуст III Сас, не быў настолькі харызматычнай асобай, аднак бацькаву прагу да прыгожага пераняў. Саксонец плённа працягнуў паляванне на рэнесансныя палотны і канчаткова замацаваў за Дрэздэнам статус высокакультурнага горада.

І калі вы раптам апынуліся ў сталіцы Саксоніі, то вось вам восем адрасоў Дрэздэна, якія вы абавязаныя наведаць.

**1. Былая каралеўская рэзідэнцыя,** цяпер музей каралеўскіх каштоўнасцяў *Residenzschloss*

Адрас: *Taschenberg, 2*

З XV стагоддзя і да 1918 года гэты замак пакаленне за пакаленнем насялялі саксонскія спачатку курфюрсты, а пасля каралі. Кожнае пакаленне дадавала да выгляду рэзідэнцыі нешта новае — у тым ліку і абодва Аўгусты.

**Што варта паглядзець:** святочныя пакоі Аўгуста II (тронная зала для аўдыенцый, пакой з арыгінальнай адзежай караля, пакой з каралеўскім ложкам), над рэканструкцыяй якіх працавалі 12 год і адкрылі толькі мінулай восенню.

А вось гістарычныя «Зялёныя скляпенні», якія з часоў Аўгуста Моцнага функцыянавалі як сейф і ўтрымлівалі шмат сабраных каралём каштоўнасцяў, наадварот, цяпер закрытыя. Прычына — дзёрзкае, добра спланаванае рабаванне восенню 2019-га, калі зладзеі ўламіліся ў скарбніцу, разбілі тры вітрыны і выбарачна забралі найбольш каштоўныя скарбы эпохі барока (музей ацаніў страты амаль у мільён долараў). Уцякаючы, зладзеі нават спалілі сваю машыну, каб іх цяжэй было знайсці.

Акрамя згаданых залаў, у музеі ёсць яшчэ скляпенні з іншымі каралеўскімі каштоўнасцямі, нумізматычная калекцыя, найбуйнейшая ў свеце калекцыя добра захаванага каралеўскага адзення перыяду Рэнесансу і ранняга барока, калекцыя рыцарскай турнірнай зброі XV–XVII стагоддзяў і іншыя цікавосткі. Ва ўнутраным двары — найстарэйшая ў свеце захаваная пляцоўка для рыцарскіх турніраў (з 1591 года), цяпер вядомая сярэднявечным калядным кірмашом, які адбываецца з канца лістапада да першых дзён студзеня. Рэкамендую наведаць: ён папросту казачны! ▶

## Коўш з полацкага золата

15 лютага 1563 года расійскі цар Іван IV Жахлівы дачакаўся капітуляцыі Полацка. Гэтая перамога была для яго надта важная: і як этап вайны супраць Вялікага Княства Літоўскага, і як крок у «збіранні зямель рускіх». Таму, каб зафіксаваць для сябе гэтую перамогу, Іван Жахлівы загадаў крамлёўскім ювелірам адліць з нарабаванага ў Полацку золата коўш-кубак для піцця. На выкшталцоны прадмет пайшло больш за кілаграм золата, 4 сапфіры, 6 рубінаў і перлы. Верхні край упрыгожылі чарнёныя ўзоры, а таксама надпіс прыналежнасці: «Вялікага кіраўніка, цара і вялікага князя». Дно каўша падвойнае, і калі зняць верхнюю пласціну, можна прачытаць, пры якой нагодзе яго вырабілі.

Цяпер залаты коўш, які сімвалізаваў прымусовае падначаленне нашых зямель Расіі, знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі музея залатых і срэбных каштоўнасцей «Зялёныя скляпенні» (*Grünes Gewölbe*) у каралеўскай рэзідэнцыі ў Дрэздэне. Дакладнага адказу, як коўш трапіў у калекцыю саксонскіх курфюрстаў, скрупулёзныя нямецкія музейшчыкі не даюць. Аднак ёсць распаўсюджаная версія, што Аўгусту II гэты прадмет ювелірнага мастацтва падарыў Пётр I.




SKD, FOTO: HC KRASS

**Парадная спальня Аўгуста II у каралеўскай рэзідэнцыі *Residenzschloss*.** Гледзячы на ненатуральную абстаноўку спальні, можна слушна здагадацца, што тут насамрэч ніхто не спаў. Пакой рабіўся пад вяселле Аўгуста III і павінен быў, разам з іншымі святочнымі пакоямі, уражваць багаццем маладую, яе каралеўскую радню і іншы найвышэйшы свет. Рэканструкцыя нядаўна адкрытых Аўгуставых пакояў абышлася музею ў 40 мільёнаў еўра (без мэблі, бо яна захавалася).

### ▸ 2. Архітэктурны ансамбль *Zwinger*

Адрас: *Theaterplatz, 1*

Яго пачаў будаваць Аўгуст Моцны, дабудоўваў Аўгуст III. Чымсьці Цвінгер нагадвае Ружанскі палац Сапегаў: калі глядзець зверху, пабачым той жа абнесены з чатырох бакоў будынкамі вялікі пляц. З той розніцай, што ў палацы Сапегаў жылі, а Цвінгер адразу задумваўся як месца культурніцкага абмену. Сам пляц спачатку выкарыстоўвалі як месца для правядзення турніраў і фестываляў. Нейкі час была тут і аранжарэя для вырошчвання модных у XVIII стагоддзі цытрусавых. Пасля Цвінгер разбудаваўся і нарэшце стаў тым, чым ён ёсць па сёння — карцінная галерэяй і месцам для выстаў калекцый каштоўнасцяў.

**Што варта паглядзець:** найперш Галерэю старых майстроў, якая дзякуючы намаганням абодвух Аўгустаў зрабіла славу Дрэздэну. Бацька і сын заўзята палявалі на шэдэўры заходнееўрапейскага мастацтва XIV–XVIII стагоддзяў, абапіраючыся ў гэтым не толькі на свой густ, але і на ацэнку абазнаных дарадцаў. Тут вісяць палотны Пітэра Паўля Рубенса, Тыцыяна, Рэмбранта, Альбрэхта Дзюрэра, Лукаса Кранаха і шматлікіх іншых. А Рафаэлева «Сіксцінская Мадонна» нават з'яўляецца сімвалам горада. У свой час Аўгуст III два гады вёў перамовы з касцёлам Сан Сікста ў Італіі, перш чым змог набыць яе.

Дрэздэнская мастацкая галерэя цяжка перажыла саюзніцкія бамбардзіроўкі горада пры канцы Другой сусветнай вайны. Хоць да іх і рыхтаваліся — вывозілі шэдэўры ў аддаленыя замкі, замуроўвалі ў сакрэтныя пакоі, хавалі ў закінутых чыгуначных тунэлях («Сіксцінскую Мадонну» ўвогуле змясцілі ў асобны вагон з прыборамі для падтрымання набліжаных да музейных кліматычных умоў), — усё роўна сотні карцін былі пашкоджаныя. І ўрэшце калекцыю разам з іншымі каштоўнасцямі амаль цалкам вывез СССР у якасці ваеннага трафея. У 1955-м Мікіта Хрушчоў пачаў працэдуру вяртання


SHUTTERSTOCK.COM, BY ALIK

**Рафаэлева «Сіксцінская Мадонна»** ў Галерэі старых майстроў Цвінгера.




Справа на здымку вы бачыце зграбны палац графіні Козель, злева — каралеўскую рэзідэнцыю. А між імі ёсць пераход. **Яго зрабілі, каб каханкам зручней было бачыцца.**

шэдэўраў, і дрэздэнскія музеі атрымалі назад больш за 600 000 прадметаў, але лёс яшчэ некалькіх сотняў дагэтуль невядомы. Часам шэдэўры ўсплываюць нечаканымі падарункамі з розных краін, у тым ліку Расіі. Так, у 2000-х чатыры карціны з Галерэі старых майстроў падарыў быламу канцлеру Германіі Герхарду Шродару набліжаны да Пуціна прадпрымальнік Цімур Цімербулатаў, які нібыта набыў іх у Маскве на барахолцы.

### 3. Палац графіні Козель, цяпер — гатэль *Taschenbergpalais*

Адрас: *Taschenberg, 3*

Гэты зграбны будынак зусім не дарэмна месціцца побач з каралеўскай рэзідэнцыяй.

У Саксоніі Аўгуст Моцны вядомы як заўзяты лавелас. Колькасць ягоных каханак сёння ацэньваюць у паўтысячы, а колькасць пазашлюбных дзяцей — амаль у 300.

Аўгуст не клапаціўся пра тое, каб пакінуць свае амурныя прыгоды ў таямніцы ад жонкі Хрысціяны Эбернардзіны Брандэнбург-Байройцкай. Справа ў тым, што неўзабаве пасля іх вяселля Аўгуст II таемна перайшоў у каталіцтва, каб прэтэндаваць на карону Рэчы Паспалітай. Перакананая пратэстантка, Хрысціяна Эбернардзіна ў адказ пакінула каралеўскую рэзідэнцыю і да канца жыцця жыла асобна ад мужа.

Самай знакамітай Аўгуставай каханкай сёння застаецца Ганна Канстанцыя Козель. Каханне караля да гэтай адукаванай і незалежнай жанчыны было настолькі моцным, што ён настаяў, каб ёй далі тытул графіні, якога не мела ў Еўропе ні адна фаварытка караля. А таксама загадаў проста побач са сваёй рэзідэнцыяй пабудаваць ёй шыкоўны палац.

Гісторыя палкага кахання доўжылася 9 гадоў і, магчыма, працягвалася б і далей, калі б графіня не мела свайго меркавання ў палітыцы. Ганна Канстанцыя прадбачыла, што Рэч Паспалітую чакаюць цяжкасці, і лічыла, што карону лепш аддаць каму з мясцовых. За гэта яна трапіла ў няласку караля і атрымала пажыццёвы тэрмін зняволення.

Але цяпер яна не менш папулярны персанаж у Дрэздэне, чым яе жорсткі каханак. Напрыклад, два найбольшыя параходы «Белага флоту» (так завецца Дрэздэнская параходная кампанія) названыя імёнамі Аўгуста Моцнага і графіні Козель.

**Што варта наведаць:** у былым палацы графіні Козель ▸

▶ атмасферную рэстарацыю *Sophienkeller*. Тут можна не толькі пакаштаваць традыцыйныя саксонскія стравы і напоі, але і атрымаць увечары аўдыенцыю «Аўгуста Моцнага» ці «графіні Козель» (калі пашанцуе).

Ну і схадзіце на набярэжную Эльбы глянуць на параходы — яны да таго ж найстарэйшыя ў свеце з тых, што яшчэ дзейнічаюць.



ФОТА КАРЫНЫ ВУЛЬФ-ВОСТЭН

**Два старыя параходы, названыя ў гонар Аўгуста Моцнага і графіні Козель, хоць іх каханне не скончылася добра.** На фоне відаць мост, які таксама носіць імя караля.

#### 4. Царква Багародзіцы *Frauenkirche*

Адрас: *Neumarkt*

Галоўная пратэстанцкая царква Саксоніі. Аўгуст ІІ, спансуючы пабудову гэтай святыні, нібы выбачаўся перад землякамі за рэлігійную здраду. Аўгуст увогуле перад смерцю шмат у чым каяўся і на апошняй споведзі сказаў: «Усё маё жыццё было суцэльным грахом». Меў ён на ўвазе вераадступніцтва, шматлікіх каханак і абжорства, якое прывяло яго да цукровага дыябету, ці ўсё разам — сказаць цяпер цяжка. Відавочна толькі, што самі саксонцы вялікіх грахоў у сваім уладару не бачылі. Пры гэтым напышлівым, але ліберальным курфюрсце Саксонія перажывала свой залаты час, пра які дагэтуль з настальгіяй прыгадвае.

**Што варта зрабіць:** падняцца на аглядную пляцоўку і зрабіць прыгожыя здымкі цэнтра горада з вышыні. Пры добрым надвор'і фонам будуць горы Саксонскай Швейцарыі. Уваход у саму царкву вольны, на пляцоўку — за плату.

SHUTTERSTOCK.COM, BY ART KONOVALOV

**Гэтай прыгожай лютэранскай царквой Аўгуст ІІ нібы прасіў прабачэння ў саксонцаў.**

## Вяселле стагоддзя

Аўгуст Моцны шукаў жонку свайму сыну з самага яго дзяцінства. Урэшце выбар спыніўся на аўстрыйскай прынцэсе Марыі Жазэфе: гэтак, выпадзі шанец, сыну можна было прэтэндаваць і на трон Аўстрыі.
Аўгуст Моцны падышоў да планавання вяселля ў адпаведнасці з высокімі надзеямі — грунтоўна. Баляванне доўжылася месяц (увесь верасень 1719-га) і ўвайшло ў гісторыю як вяселле стагоддзя не толькі дзякуючы свайму размаху, але і нябачанай дагэтуль насычанай праграме. Вяселле пераўзышло нават раскошныя вечарыны французскага караля Людовіка XIV. Аўгуст Моцны не мог уявіць, наколькі яго выбар жонкі для сына акажацца ўдалы — калі не ў палітычным сэнсе, дык у асабістым. У адрозненне ад свайго бацькі, Аўгуст III з пагардай ставіўся да арміі каханак пры каралеўскім двары. У яго былі блізкія, сяброўскія адносіны з жонкай да канца жыцця. І 15 сумесных дзяцей.
Цяпер у падворку Цвінгера можна пабачыць сучасную пастаноўку «вяселля стагоддзя».


Крыпта Ветынаў у прыдворным каталіцкім саборы ў Дрэздэне. **Злева на сцяне — капсула з сэрцам Аўгуста II.**

BUNDESARCHIV

### 5. Прыдворны каталіцкі сабор *Kathedrale St.Trinitatis*

Адрас: *Schloßstraße, 24*

Аўгуст Моцны баяўся яшчэ больш раззлаваць абураных яго пераходам у каталіцтва саксонцаў і не будаваў у Дрэздэне нічога каталіцкага. На гэта адважыўся яго сын, які ў 1712-м, таксама сакрэтна, прыняў «польскую веру» і загадаў узвесці буйную прыдворную каталіцкую царкву непадалёк ад каралеўскай рэзідэнцыі — яны нават спалучаныя мастком для зручнасці. У гэтай царкве месціцца крыпта каралеўскага роду Ветынаў, і менавіта тут знаходзіцца сэрца Аўгуста Моцнага. Сённяшняя гарадская легенда апавядае, што сэрца караля-лавеласа б'ецца кожны раз, калі міма сабора праходзіць прыгожая жанчына.

**Што яшчэ можна пабачыць:** унутры алтарную карціну працы Антона Рафаэля Менгса і незвычайную сучасную п'ету* з майсэнаўскага фарфору, а над галоўным уваходам у катэдру — герб Рэчы Паспалітай. Дарэчы, дзяржаўныя сімвалы краіны, трон якой займалі Аўгусты, увогуле шчодра рассыпаныя па цэнтры Дрэздэна — трэба толькі прыгледзецца.

### 6. Крэпасць *Festung*

Адрас: *Brühlsche Terrasse — Terrassenufer*

Пры Аўгусце Моцным крэпасць ужо выкарыстоўвалася для разнастайных мэтаў. Але самае, бадай, цікавае, што тут працавала лабараторыя алхімікаў, якія па каралеўскім загадзе працавалі над здабыццём золата.

* П'ета — сцэна аплаквання Хрыста Дзевай Марыяй.

Бясконцыя вечарыны і фестывалі з удзелам іншаземных гасцей хоць і павышалі статус Саксоніі ў Еўропе, але патрабавалі вялізных выдаткаў. Аўгуст марыў адкрыць сакрэт золата і назаўжды вырашыць матэрыяльную праблему.

Алхімікі, як ні стараліся, золата не вырабілі. Але і не працавалі дарэмна: яны вынайшлі сакрэт «белага золата» — фарфору, які да гэтага еўрапейцы марна спрабавалі скапіраваць у кітайцаў. ▶


**Біблейская сцэна, выкананая з майсэнаўскай парцаляны.** Калекцыя фарфору ў Цвінгеры.

SHUTTERSTOCK.COM, BY BARTHFOTOGRAFIE



**Тэрасу Бруля яшчэ называюць балконам Еўропы**, бо яна маляўніча ўзвышаецца над ракой Эльбай.

▶ Аўгуст II адразу ж заклаў надзвычай прыбытковую мануфактуру фарфоравых вырабаў, праўда, не ў крэпасці, а ў блізкім да Дрэздэна гарадку Майсэн. Там яна працуе дагэтуль, спатольваючы арыстакратычны попыт на густоўныя рэчы з гісторыяй. Брытанская каралева Лізавета II таксама мае сервіз з саксонскага фарфору для святочных прыёмаў.

**Што варта паглядзець:** сучасную мультымедыйную выставу, якая ад нядаўна працуе ў крэпасці. Можна на дзень з'ездзіць і ў Майсэн — прыгожы гатычны гарадок, ідэальны для аднадзённай вылазкі.

## 7. Тэраса Бруля *Brühlsche Terasse*

*Паміж мостам Аўгуста і мостам Каролы*

Гэта ўжо набытак кіравання Аўгуста III. Тэрасу праклалі над гарадской крэпасцю, калі тая страціла сваё ваеннае прызначэнне, па загадзе прэм'ер-міністра Саксоніі графа Генрыха фон Бруля.

**Што можна зрабіць:** казачна прыгожыя фота, прычым на кожным кроку. Калі пашанцуе, праз вокны Акадэміі мастацтваў удасца падглядзець, над чым працуе новае пакаленне мастакоў. А можна папросту сесці на лавачцы з відам на параходную Эльбу і насалоджвацца атмасферай.

## 8. Шэсце князёў *Fürstenzug*

Адрас: *Augustusstraße, 1*

Найбуйнейшае фарфоравае пано ў свеце. На ім — выявы ўсіх саксонскіх князёў і каралёў побач са значнымі асобамі свайго часу з 1127 па 1904 гады. Няма толькі аднаго з першых кіраўнікоў Саксоніі і апошняга караля, якому прыйшлося адмовіцца ад трона ў 1918-м. Пано цудам перажыло бамбардзіроўкі Дрэздэна ў 1945-м.

**Да чаго прыгледзецца:** на пано можна пашукаць герб ВКЛ «Пагоню» і падлічыць колькасць жаночых выяў. Знайдзіце і ружу, раструшчаную канём Аўгуста II. Гэтак саксонцы прыпомнілі каралю яго здрадлівы пераход у каталіцызм. ◆

**Запісала Іна Хоміч**



**Беларускі гід па Дрэздэне**
Карына Вульф-Востэн, гісторык мастацтва і гід па Дрэздэне
booking@dresdentour.guide




Даўжыня фарфоравага «Шэсця князёў» крыху большая за 100 метраў. На фота — **фрагмент пано, дзе выяўленыя каралі Рэчы Паспалітай Аўгусты.** На ўрэзцы — **«Пагоня» на «Шэсці князёў».**

# Субачы: прачытаў і паехаў сам




На фота: **тры пакаленні сям'і Сцебуракаў.**

Пішу, усхваляваны артыкулам Андрэя Скурка «Царква поўная трунаў: эпідэмія 1813 года пад Мядзелам», што выйшаў у №4/2020 «Нашай гісторыі».

Узрушыў гэты артыкул найперш тым, што апісаныя ў артыкуле мясціны — а ў прыватнасці, фальварак Субачы — нашае родавае котлішча, набытае маім прапрадзедам Міколам Сцебуракам у пана Мікуцкага ў 1875 годзе. Гісторыя маёй сям'і была непарыўна звязаная з гэтым маляўнічым кутком на памежжы Мядзельскага і Вілейскага раёнаў на працягу амаль 75 гадоў, пакуль на пачатку 1950-х заможных уладальнікаў Субачаў не прызналі класавымі ворагамі. Тады гаспадара закатавалі ў Вілейскай турме, а сям'ю адправілі ў высылку ў Казахстан. Мы ніколі больш не вярнуліся ў забраны дом, але Субачы заўсёды заставаліся самым дарагім кутком зямлі ў нашых сэрцах і памяці.

Па прачытанні артыкула ўсё гэта з новай сілай ажыло ў памяці, і на наступны дзень я выправіўся на аўтамабілі ў Субачы. Пасярод амаль нежылой вёскі адразу сустрэў таго Лёньку Адамовіча з двума сабачкамі. Адбылася размова: «Здароў, Лёнька!» — «Адкуль вы мяне ведаеце?» — троху насцярожыўся ён. — «О! Ты знакаміты чалавек! Пра цябе “Наша гісторыя” піша». Лёнька не разгубіўся і пайшоў ва-банк: «А раз я такі знакаміты, то завязі мяне ў Цярэшкі — бутэльку купіць!»

**«А раз я такі знакаміты, то завязі мяне ў Цярэшкі — бутэльку купіць!»**

Везці не давялося: у машыне на ўсялякі выпадак мелася пляшачка, з якой яму і выйшла пачостка. Падлячыўшыся, засмяглы з учарашняга вясковец стаў гаваркі і лагодны: прыгадаў і аўтара артыкула, які завітваў з росшукамі, і навіны мясцовыя распавёў.

Ад Лёнькі заехаўся я на месца нашае сядзібы. Ад хатаў засталіся толькі дыхтоўныя падмуркі дома і гаспадарчых пабудоў, склеп і слупы агароджы, што ішлі па перыметры ўчастка. Моцны бетон стаіць ужо стагоддзе, і выглядае, што робіцца хіба крапчэйшы... Ад іншага амаль і знаку няма. Ад апошняга садовага дрэва — старой ігрушы-сапяжанкі, якую бачыў яшчэ ў 2005 годзе падчас апошняга візіту, — застаўся толькі пень.

Адведаў і месца, дзе стаяла Беркаўская царква. Яго знайсці не складана з-за шасці вялізных таполяў — апошніх жывых сведак, што памятаюць бажніцу. Вакол ляжаць сцягнутыя з палеткаў валуны... Узгадаў гісторыю, распаведзеную мне ў 2016 годзе Пятром Будзькам, жыхаром вёскі Лазавыя, што знаходзіцца недалёка ад беркаўскага цвінтара. У 1970-я дарожны майстар па прозвішчы Дзядзёла, з мясцовых (вясковая мянушка Вірок), пачаў экскаватарам браць жвір на ўскрайку старога могільніка. Адразу сталі з'яўляцца косткі нябожчыкаў, пахаваных там у даўнія часы. Мясцовы люд узбунтаваўся і звярнуўся са скаргай да начальства — працы тады спынілі. Але, праўда, разбурэнне старадаўняга цвінтара працягнулі трактарысты мясцовага калгаса, што заворвалі поле бліжэй і бліжэй.

Так памалу абышоў усе памятныя мясцінкі, узгаданыя ў артыкуле. Удзячны яшчэ і за тое, што ў матэрыяле Андрэя Скурка знайшоў важную інфармацыю, а па сутнасці, адказ на адну загадку.

Па інвентары 1813 года ў параўнанні з папярэднім (да вайны 1812 года) у нашай гаспадарцы знікла амаль уся жывёла (коні, каровы, валы, авечкі), а таксама не ўзгадваецца амаль палова дарослых чальцоў сям'і. Калі знікненне жывёлы можна было патлумачыць рэквізіцыямі вайскоўцаў, то знікненне людзей хіба ўдзелам іх у ваенных кампаніях. Але ніякіх доказаў гэтаму не было. І вось гісторыя з эпідэміяй тыфусу відавочна дае новы кірунак у пошуках, бо гэта вельмі верагодная прычына бясследнага знікнення сямейнікаў у 1813-м.

**Доктар Мікола Сцебурака, Вілейка**

## Прапановы ад настаўніка гісторыі

Паважаная рэдакцыя часопіса «Наша гісторыя»!

Вялікі вам дзякуй за вашае доўгачаканае выданне, якому хутка ўжо два гады! Вы робіце вялікую справу і можаце стаць альтэрнатывай вялікай колькасці танных расійскіх масавых гістарычных выданняў, што напоўнілі наш рынак.

Самае галоўнае, што з’явілася наша, беларуская гісторыя ў папулярным выкладзе. Паднята шмат розных цікавых пытанняў, нечаканых фактаў і падзей, малавядомых і невядомых зусім. Многія матэрыялы вызначаюцца крэатыўнасцю. Шмат у чым вы адыходзіце ад закасцянелай афіцыйнай навукі і ідзяце ад жыцця, звяртаючы ўвагу на простага чалавека, яго побыт, што ён еў, як праводзіў вольны час, чым захапляўся, што яго засмучала і што радавала. Нават за вядомымі асобамі вы бачыце проста людзей. І гэта добра. Але…

Мы, настаўнікі і аматары гісторыі, зацікаўленыя, каб выданне было лепшым, удасканальвалася, станавілася ўсё больш разнастайным і цікавым. Таму скажу, што вы, узяўшы магутны старт, цяпер амаль вычарпалі свой патэнцыял і трэба шукаць новыя формы і рашэнні.

Па-першае, адчуваецца некаторая тэматычная і храналагічная аднабокасць. Выданне аддае больш перавагу XX стагоддзю, ды і то не ва ўсім. Зніклі ці амаль зніклі нашыя дзяржавы — Полацкая зямля, Вялікае Княства Літоўскае. На старонках часопіса практычна няма нашых бітваў, нашых замкаў, ваяроў-палкаводцаў. Дзе нашы магнаты, князі, воіны, рамеснікі, асветнікі? Дзе змаганне за дзяржаўнасць, дзе БНР, Слуцкі збройны чын, у якога сёлета, дарэчы, юбілей?

Амаль адсутнічаюць альтэрнатыўныя думкі, спрэчкі. Я разумею, што выданне павінна падаваць інфармацыю лёгка, на папулярным узроўні, але ўдумліваму чытачу хутка будзе нецікава чытаць. Павінны быць дыскусіі — напрыклад, пра паваротныя моманты нашай гісторыі, кшталту «Уніі з Польшчай — шлях у Еўропу ці пачатак страты суверэнітэту?» альбо «Чаму загінула Рэч Паспалітая і ці была яна нашай дзяржавай?». Матэрыялы выдання павінны не толькі займаць, але і даваць ежу для роздуму. А то ў пагоні за сенсацыямі ёсць пагроза скатвання да бульварнага выдання. Чаго не хацелася б.

Пагартаўшы расійскую гістарычную макулатуру, павінен зазначыць, што ў гэтых выданнях ёсць рацыянальныя і цікавыя формы падачы матэрыялу. Напрыклад, гістарычны каляндар-дайджэст, розныя загадкі, крыжаванкі, галаваломкі, гістарычныя задачкі. Іх могуць чытаць і рашаць вучні, выкарыстоўваць настаўнікі на ўроках. Можна таксама ўвесці такую рубрыку, як «Пошукі. Знаходкі. Адкрыцці» — таксама дайджэст розных экспедыцый і адкрыццяў археолагаў, гісторыкаў, як беларускіх, так і сусветных.

Вам варта б было падумаць і пра пашырэнне ў перспектыве (але найбліжэйшай і невялікай) лінейкі даччыных выданняў (паглядзіце, колькі расійскіх у нас займаюць месца ў шапіках!), сярод якіх вылучыць у першую чаргу: ваенна-гістарычны часопіс (можна назваць «Паходня», як гэта раней хацелі зрабіць гісторыкі, ці «Звіцязства»), гісторыка-краязнаўчы часопіс (напрыклад, «Наш край», — памятаеце, як гэта было ў 20-я гады мінулага стагоддзя!) і літаратурна-мастацкі гістарычны часопіс (тут і мастацтва, і мастацкія літаратурныя творы і г. д.).

Паверце, мы, чытачы, жадаем толькі поспеху любімаму часопісу, але не ў аднаго мяне з’явілася шмат пытанняў і прапаноў.

**Валер Варганаў, Карма**

**Ад Рэдакцыі.** Дзякуй вам за выказаныя прапановы і пажаданні. Мы ставімся да іх, як і да прапаноў іншых нашых чытачоў, тым больш пастаянных, сур’ёзна і ўважліва.

Натуральна, цалкам усё ўлічыць не атрымаецца хоць бы таму, што аўдыторыя часопіса шырокая і пажаданні ў розных чытачоў розныя, часта ўзаемасупярэчлівыя. Таму стараемся знаходзіць тут нейкі разумны баланс. Ваша ж ідэя пра цэлую лінейку даччыных выданняў сама па сабе добрая, але яна патрабуе непараўнальна большых і матэрыяльных, і кадрава-арганізацыйных магчымасцяў, чым мы цяпер маем.

## Не толькі танкі, але і тушонка

У № 4/2020 часопіса «Наша гісторыя» прачытаў змястоўны артыкул Андрэя Акушкі «Ленд-ліз. Міфы і праўда пра амерыканскую праграму дапамогі». Не магу толькі пагадзіцца з адным яго тэзісам, фактычна старым, савецкім: «Але ні адзін з гэтых фактараў не выглядае настолькі крытычным, каб сцвярджаць, што без дапамогі Савецкі Саюз зусім не справіўся б».

Аўтар не закрануў галоўнага віду дапамогі заходніх саюзнікаў — харчовай, без якой, на мой погляд, Савецкі Саюз не проста б прайграў вайну, а страціў ▸

► бы яшчэ больш свайго насельніцтва з-за голаду.

Вялікай праблемай сталінскага Савецкага Саюза заўсёды было харчаванне. Мая маці, якая пражыла пры Сталіне каля 30 гадоў, казала, што за гэтыя гады не было ніводнага дня, каб яна клалася спаць сытай, мяса практычна не бачыла. Пераважная большасць насельніцтва, акрамя партыйнай наменклатуры, каманднага складу міліцыі і арміі, пастаянна галадала, я ўжо не кажу пра перыядычныя галадаморы.

А што адбылося ўжо ў пачатку вайны? Былі страчаныя галоўныя сельскагаспадарчыя раёны СССР: Украіна, Кубань, Данская вобласць, Цэнтральна-Чарназёмны раён… Агульная пасяўная плошча краіны зменшылася на 42%. З урадлівых зямель засталася толькі частка Паволжа і паўднёвая Сібір.

Большасць працаздольных мужчын на сяле (каля 20 мільёнаў) забралі ў армію і на абаронныя прадпрыемствы. На палях без тэхнікі працавалі ў асноўным жанчыны, старыя і падлеткі. З сяла канфіскавалі ўсе гусенічныя трактары, 85% аўтамабіляў, больш за 60% рабочых коней. Савецкае кіраўніцтва тады свядома канчаткова дабіла сваю сельскую гаспадарку, разумеючы, што карміць краіну будуць заходнія саюзнікі. Добра, калі Савецкі Саюз у час вайны забяспечваў сябе сваім харчаваннем на 30 працэнтаў.

І нават пры значнай харчовай дапамозе саюзнікаў насельніцтва ў тыле галадала, у тым ліку рабочыя абаронных прадпрыемстваў. Галадалі нават вайскоўцы тылавых частак. Мой дзед быў у такой частцы, дык ён рваўся на фронт не толькі з пачуцця патрыятызму, але і каб проста наесціся і выпіць спірту.

Таму, на мой погляд, нямецкую армію на Усходнім фронце перамаглі не толькі гераічныя савецкія салдаты, але і амерыканская тушонка, якую тады называлі «другі фронт». Калі б не харчовая дапамога саюзнікаў, фронт быў бы галодны і бяззбройны, бо і ў тыле не было б каму вырабляць баявую тэхніку. У такім выпадку вынік вайны быў бы відавочны — галадамор і поўнае паражэнне.

**А.І.**



TASS.RU

По ленд-лізе ішла **не толькі тэхніка, але і харчаванне.**

## Многа люду знікла са свету

Атрымаў № 3/2020 «Нашай гісторыі», чытаю ад коркі да коркі, як і папярэднія нумары. У гэтым нумары асаблівую ўвагу звярнуў на аповед пра Катынскую трагедыю. Сапраўды, Катынь (Казельск, Асташкава і Старабельск) — трагедыя не толькі для палякаў, але і для беларусаў, і для ўкраінцаў. Служыла ў войску польскім шмат заходнікаў: як запахла вайной, то ўлады сталі мабілізаваць усіх, хто пасаваў па ўзросце.

З маіх Докшыц да 17 верасня 1939 года палякі паспелі мабілізаваць дваіх маладых хлопцаў (гэта тыя, пра каго я ведаю і помню, бо жылі яны па суседстве): Максіма Палянскага (ён паспеў скончыць да гэтага Варшаўскі ўніверсітэт, адвучыўся на доктара) і Мядзвецкага (імя, на жаль, не памятаю). Ад абодвух крэўныя атрымлівалі лісты з Казельска. Вясной 1940-га ліставанне спынілася. Сталі гаварыць, што абодва забітыя. У рэшце рэшт пагалоска пацвердзілася: хлапцы згінулі дзесь у Катынскім лесе, НКВД расстраляў.

А вось жыхар вёскі Рапяхі Докшыцкага раёна Міхаіл Шаура ацалеў і застаўся жывы. Вось што ён у свой час распавядаў. Іх, польскіх вайскоўцаў, НКВД пагрузіў у цялятнікі і цэлым саставам вёз ва ўсходнім напрамку. Калі састаў пад'язджаў да Маладзечна, Міхал неяк удала выскачыў з вагона і не разбіўся, не параніўся. З вялікімі прыгодамі дабраўся да сваіх Рапяхоў. Пад расповеды пра службу ў войску — а служыў у кавалерыі — заўсёды даставаў са скрыні натуральную скураную вайсковую дзягу бліскучага жоўтага колеру і параўноўваў, смеючыся, з брызентавымі дзягамі савецкіх вайскоўцаў. Міхал Шаура пражыў да сталага ўзросту і пахаваны на родных могілках у Рапяхах.

Пасля вайны, ужо ў 1945-м, Докшыцкі НКВД узяўся за зачыстку мясцовасці. Так быў арыштаваны і асуджаны на 5 год зняволення бацька забітага ў Катыні хлопца Баляслаў Мядзвецкі. Адсядзеў 5 год, вярнуўся, а праз год памёр, жонка яго пасля ўсяго аслепла, дапамагалі ёй выжываць суседзі — страшна было глядзець на яе пакуты, а іншых дзяцей у Мядзвецкіх не было.

Зачыстка НКВД у саміх Докшыцах і раёне багатая падзеямі, многа люду знікла са свету, але гэта ўжо іншая гісторыя.

Дарэчы, я кожны прачытаны нумар часопіса аддаю ў Цэнтральную бібліятэку імя Янкі Купалы на вуліцы Харужай. Бібліятэка з удзячнасцю прымае. Сама бібліятэка выпісаць «Нашу гісторыю» не можа: няма грошай. Вось так!

**Барыс Старыкевіч,**
**85 гадоў, Мінск**

**Ад Рэдакцыі.** Спадар Барыс, вялікі дзякуй Вам за чарговы цікавы допіс! А адначасова даём адказ на пытанне, на якое не змаглі адказаць у тым самым № 3/2020 – адносна лёсу «француза» Атрашкевіча з вёскі Сітцы на Вашай радзіме. Станіслаў Атрашкевіч, якога Вы памятаеце, жыў у суседнім Параф'янаве да самай сваёй смерці ў 1980 годзе ва ўзросце 83 гады, а ягоная дачка, Алена Гараніна, якая тады была маленькая, дагэтуль жыве ў Докшыцах. А падрабязна пра гісторыю гэтай сям'і Вы можаце прачытаць у кнізе Валера Каліноўскага «Дзеці Францыі: гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну», якая выйшла напрыканцы мінулага года. Яна ёсць у продажы, у прыватнасці ў кнігарні «Акадэмкніга». Там гэтаму сюжэту прысвечана цэлых 11 старонак, прытым ёсць і шмат фотаздымкаў.

## Раскажыце пра бежанства!

Добры дзень, дарагая рэдакцыя! Чытаю і выпісваю часопіс «Наша гісторыя», і мае дзеці чытаюць, і шмат хто яшчэ чытае. Чытачоў у шмат разоў болей, чым падпісчыкаў. Я б часопіс назвала «Жывая гісторыя», бо артыкулы даюцца на аснове ўспамінаў.

Я сама з 1935 года, шмат чаго пабачыла на сваім вяку, але і тое, што было пры маёй памяці, выветрылася, ужо не помняцца дакладныя даты. А яшчэ шмат страцілі з-за нашага абыякавага стаўлення да падзей у маленстве і ў сталыя гады. Цяпер прачытала цікавую кнігу Анеты Прымака-Онішк «Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы» — радкі даваліся з болем. «Юзаф Шымусюк пражыў амаль 90 гадоў; яму хацелася ўсё расказаць дзецям і ўнукам, але яны не слухалі».

Я лічу, што тэму бежанства 1915–1921 гадоў трэба было б асвяціць у вашым часопісе (ваша праца, але часопіс — наш, чытачоў).

Мая бабуля Матрона (1874–1947) была ў бежанстве. І я запомніла толькі тыя абрыўкі ўспамінаў, якія пераказваліся дома многа разоў. А каб слухаў ды распытаў яшчэ, якая б цікавая гісторыя атрымалася! Уся іх сям'я (дзед Мікіта, бабуля Матрона, іх дзеці Насця з 1907 года і мая мама 1912 года) была спачатку ў Яраслаўлі. Хацелі вярнуцца на радзіму, але не выйшла, аселі ў Рызе і былі там аж да 1921 года. Бабуля працавала на хлебапякарні, дзед быў вартаўніком на мосце, жылі ў бараку, дзеці цэлы дзень адны, без нагляду.

Калі вярнуліся дамоў у вёску Крашава былога Скідзельскага раёна, то ўсё было ў запусценні. На вуліцы рос бур'ян, сядзіба зарасла кустоўем. Было і некалькі хат, дзе жылі людзі, што не выехалі, у іх гаспадарка была ў парадку. Яны яшчэ апрацоўвалі крыху суседскай зямлі. Але павяртанцаў з бежанства было зашмат, каб тубыльцы маглі дапамагчы.

Вярнуліся летам. Яшчэ можна было накасіць травы, назбіраць ягад, грыбоў насушыць. Дзед раздабыў трохі насення, засеяў кавалак жытам. Бабуля ўзяла ў суседкі капусных лістоў і наклала бочачку капусты на зіму. Нават узялі цельную цялушачку ў людзей з умовай, што кароўку аддадуць гаспадарам разам з трэцім цяляткам. Цялятка выпойвалі адварам грыбоў.

Дасталі, можа і нажабравалі, трохі бульбы. Пакінулі на насенне самую дробную. І кошыкам бульбы засадзілі вялікі кавалак, дагледзелі, атрымалі добры ўраджай і так дзякуючы працы, дапамозе людзей сталі абжывацца. Як прыехалі, то нават калодзеж быў аплыўшы, то найперш яго чысцілі.

А гадоў 5 таму я распытвала Настассю Захарыч з Шастакоў (яна з 1929 года). Яна таксама шкадуе, што раней у маці не распытала аб іх жыцці. Яе маці паехала ў бежанства з пяцццю дзецьмі, без мужа, бо муж памёр. Але яна да Расіі не даехала: захварэлі ў дарозе на тыф. Чацвёра дзетак памерлі, выжыла маці і найменшая дзяўчынка Люба. Маці ўласнымі рукамі пахавала дзетак (можна толькі ўявіць яе становішча!). Знясіленая, вярнулася з Любай дамоў. І таксама разжыліся ж, выйшла замуж за Міхаіла, нарадзіла Настассю ў 1929 годзе і хлопчыка ў 1930-м.

Так што тэма бежанства вельмі цікавая, напішыце пра гэта!

**Яўгенія Кулевіч,**
**Сялец, Смаргонскі раён**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

## Дзякуй за Карпюка і «француза Атрашкевіча»

І я чытач вашага (нашага) часопіса з яго першага нумара дзякуючы падказцы журналістак з «Рэгіянальнай газеты» з Маладзечна.

Купляю часопіс у электрычцы, калі еду на лецішча. А ўжо і ў кнігарні «Спадчына» сталі яго прадаваць у нас.

У №3 затрымала маю ўвагу слова «Штутгаф». О, яно мне знаёмае ад 1967 года, калі я гасціў у свайго дзядзькі ў Гданьску. Мне было тады 32 гады. І пасля яшчэ двойчы там быў у музеі. У гэтым страшным месцы фашысты знішчылі 90 тысяч чалавек.

Дзякую Алесю Кіркевічу за гэтую гісторыю чалавека, які прайшоў праз Штутгаф, — Аляксея Карпюка. Такі чалавечны быў, аказваецца, гэты Карпюк…

Дзякую і Барысу Старыкевічу з Мінска за «француза Атрашкевіча» з вёскі Сітцы.

P.S. Дзякую яшчэ, што не стала ў часопісе коміксаў!

**Аляксандр Салагуб,**
**Маладзечна, 85 гадоў**

**Ад Рэдакцыі.** Дарагі Аляксандр Аляксандравіч! Давайце ж мірыцца з маладымі. Вам коміксы непатрэбныя, а дзеці, падлеткі іх любяць. То няхай яны пачынаюць чытаць пра гісторыю на роднай мове — хоць бы і ў коміксах. А вам у гэты няпросты год — добрага здароўя. Аберагайцеся ў электрычках, насіце маску і пальчаткі. ◆

# Што ўратавала Беларусь
## ад самай вялікай навалы XIV стагоддзя

**Чаму чума абмінула? Адказы шукае кандыдат гістарычных навук Уладзімір Кананові́ч.**

XIV стагоддзе трывала ўвайшло ў аналы еўрапейскай гісторыі як стагоддзе катастроф. Перадусім у гэтым вінаватыя *Вялікі голад* 1315–1322 гадоў і *Чорная смерць* 1346–1353 гадоў.

Вялікі голад ахапіў многія краіны Еўропы, землі Паўночна-Усходняй Русі (Вялікі Ноўгарад, Пскоў), а таксама, падобна, ускраіны Літвы і Беларусі. Шмат жыхароў названых рэгіёнаў тады памерла, а многія з тых, хто выжыў, мелі зусім слабы імунітэт. Дзеці, што нарадзіліся падчас голаду, праз некалькі дзесяцігоддзяў сталі першымі ахвярамі эпідэміі чумы, якая ўвайшла ў гісторыю як Чорная смерць.

Прычынай голаду і чумы былі неспрыяльныя кліматычныя ўмовы, перадусім частыя дажджы і халады. Якраз тады надыходзіў так званы Малы ледавіковы перыяд, які цягнуўся з сярэдзіны XIV да сярэдзіны XIX стагоддзя і прыйшоў на змену сярэднявечнаму кліматычнаму оптымуму 900–1300-х.

### Бубонная ці лёгачная?

Раней даследчыкі лічылі, што Чорнай смерцю была бубонная чума, паколькі праявамі гэтай узбуджанай чумнымі блохамі і вошамі хваробы былі бубоны (лімфатычныя нарывы і пухліны, на тагачаснай лаціне *buboes*) у пахвінных зонах або на шыі (пра першую ў гісторыі пандэмію бубоннай чумы ў VI–VIII стагоддзях чытайце артыкул Аляксея Казленкі «Чума: расплата за цывілізацыю» ў № 4/2020 «Нашай гісторыі»).

**Чорная смерць магла быць спалучэннем бубоннай і лёгачнай чумы**

У апошняе дзесяцігоддзе, аднак, усё часцей можна сустрэць меркаванне навукоўцаў, што чума сярэдзіны XIV стагоддзя была насамрэч не бубоннай, а лёгачнай. Такая форма і без таго небяспечнай хваробы распаўсюджваецца значна хутчэй (для заражэння дастаткова ўдыхнуць паветра з чумнымі бактэрыямі) і здольная ахапіць большую колькасць людзей за адносна невялікі адрэзак часу. І ў сімптомах ёсць характэрныя адрозненні.


ФОТА СЯРГЕЯ СЕРАБРО

Першыя сведкі сярэднявечнай чумы, у тым ліку і слынны італьянскі пісьменнік Джавані Бакача, хоць і пісалі пра наяўнасць нарываў і пухлінаў у хворага чалавека, разам з тым адзначалі, што звыклай з'явай было таксама харканне крывёю, з'яўленне чорных або сініх плямаў (адсюль і другая назва хваробы), пухіроў і прышчоў памерам з рабацінку або зярнятка сачавіцы, якія пакрывалі цела хворага. Сама хвароба



Як у часы князя Альгерда, **у 2020-м у Віцебск прыйшла небяспечная эпідэмія.**

развівалася вельмі хутка, нават вокамгненна, на працягу двух або трох дзён, часам нават хутчэй.

Таму большасць даследчыкаў сёння прытрымліваецца думкі, што Чорная смерць магла быць спалучэннем бубоннай і лёгачнай чумы.

### Не было імунітэту

Чаму з'явілася Чорная смерць, доўгі час было загадкай. На сёння, здаецца, найдалей прасунуліся ў тлумачэнні знішчальнага характару сярэднявечнай чумы прыхільнікі тэорыі басейна хваробаў. Яны кажуць, што ў дакалумбаву эпоху ў свеце існавалі своеасаблівыя адасобленыя зоны, дзе людзі суіснавалі з уласцівымі ім хваробамі, да якіх яны даўно прызвычаіліся. Такімі зонамі маглі быць Еўропа, афрыканскі рэгіён на поўдзень ад Сахары, Паўднёва-Усходняя Азія. А як толькі хваробы з адной геаграфічнай зоны пераносіліся ў іншую, то адразу набывалі лятальны характар, бо мясцовае насельніцтва не мела да іх прыроднага імунітэту.

Радзімай чумы магло быць Цінхай-Тыбецкае ўзвышша: кітайскія храністы фіксавалі магутны выбух гэтай хваробы там каля 1331 года. Адтуль чума распаўсюдзілася ў Сярэднюю Азію. У 1338–1339 гадах яна дасягнула ваколіцаў возераІсык-Куль у цяперашнім Кыргызстане, дзе выкасіла супольнасць тамтэйшых хрысціянаў-нестарыянаў. А ўжо адтуль па Вялікім шаўковым шляху хвароба пайшла ў Еўропу.

У 1346 годзе чума з'явілася ў Крыме, перадусім у Кафе ▸



Гандлёвыя шляхі ў сярэднявечнай Еўропе.

МАРЦІН ЯН МАНСАН (ШВЕЦЫЯ), OPENCULTURE.COM

▶ (Феадосіі), якая служыла адным з галоўных транзітных цэнтраў на заходнім адрэзку Шаўковага шляху. Хваробу прынесла туды залатаардынскае войска, якое вярнулася з выправы ў Сярэднюю Азію і адразу перайшло да аблогі Кафы. Неўзабаве сярод манголаў пачалася жахлівая эпідэмія. Хан Джанібек загадаў катапультай кідаць целы памерлых у горад, каб схіліць абаронцаў да капітуляцыі. У выніку інфекцыя распаўсюдзілася ў Кафе, пасля разам з генуэзскімі ўцекачамі з Крыма трапіла ў Італію, а пазней і ў астатнюю Еўропу, дзе збірала ахвяры на працягу амаль сямі гадоў, з 1346-га па 1352-і.

**Хан Джанібек загадаў катапультай шпурляць целы памерлых у горад, каб схіліць абаронцаў да капітуляцыі**

## Маўчанне крыніц

Каб дакладна сказаць, з якім поспехам чума выканала свой танец смерці на нашай зямлі, добра было б звярнуцца да аўтэнтычных дакументаў. Але пісьмовыя крыніцы з тагачасных беларускіх земляў практычна адсутнічаюць. Летапісы ж Паўночна-Усходняй Русі і польскія хронікі толькі ў вельмі рэдкіх выпадках паведамляюць пра факты прыродных катаклізмаў і эпідэмій на землях паміж Дзвіною і Прыпяццю, Нёманам і Дняпром.

У Пскоўскім летапісе гаворыцца, што ў 1349 годзе ў Полацку выбухнула эпідэмія. Наконт яе паходжання думкі даследчыкаў падзяліліся. Раней меркавалася, што гэта была чума, якая мусіла прыйсці ў Полацк з Прыбалтыкі, перадусім з земляў Нямецкага ордэна. Сапраўды, увосень 1349 года Прусія і Памеранія, асабліва балтыйскія парты, уключна з Эльбінгам і Кёнігсбергам, ляжалі ўжо спустошаныя Чорнай смерцю. Але ці магла чума ўсяго за некалькі месяцаў праз густыя лясы і пушчы пераадолець адлегласць ад балтыйскага ўзбярэжжа да Полацка? Тым больш што ёй спатрэбілася каля года, каб распаўсюдзіцца толькі з Прусіі ў суседнюю Лівонію. Таму, найхутчэй, эпідэмія 1349 года ў Полацку магла быць альбо нейкай мясцовай заразнай хваробай, альбо чумой, якая прыйшла ў горад на Дзвіне дняпроўскім гандлёвым шляхам,


WIKIMEDIA COMMONS

Схема старажытнага Полацка.

з Прычарнамор'я або Сярэдняга Дняпра, г. зн. з земляў, якія належалі на той час Залатой Ардзе і былі першымі, што трапілі пад удар чумы яшчэ ў 1347 годзе. Далей з Полацка эпідэмія, відаць, не пайшла.

Ніканаўскі (Патрыяршы) летапіс паведамляе, што чума з'явілася на Русі напрыканцы 1351 года. Першым буйным горадам, які новая хвароба заваявала, быў Пскоў. Можна меркаваць, што на гэты раз хвароба прыбыла сапраўды з Лівоніі, з якой гэты горад межаваў і меў шчыльныя гандлёвыя сувязі. Неўзабаве чума перакінуліся ў суседні Вялікі Ноўгарад. Летапісец канстатуе, што ў 1352 годзе Чорнай смерцю была ахопленая ўжо амаль уся Русь, пачынаючы ад Кіева і Чарнігава на поўдні, праз Смаленск у цэнтры і да Белавозера на поўначы і Суздалі на ўсходзе. Такі вірулентны характар чумы на Русі можа быць вытлумачаны тым фактам, што па яе землях праходзілі найважнейшыя гандлёвыя шляхі, уключаючы дняпроўскі, прыбалтыйскі і волжскі, па якіх гэтая заразная хвароба магла пранікаць у рэгіён. Там, дзе гэтыя плыні сустракаліся, як ў Паўночна-Заходняй Русі, чума забірала найбольш ахвяраў.

У спісе гарадоў, якія сталі ахвярай чумы ў сярэдзіне XIV стагоддзя, адсутнічаюць Віцебск і Полацк, якія на той момант належалі вялікаму князю літоўскаму Альгерду і ягоным нашчадкам. Магчыма, што летапісец Паўночна-Заходняй Русі проста не меў звестак (ці асабліва і не цікавіўся) пра эпідэмічнае становішча ў гэтых гарадах, але магло быць і так, што мясцовыя ўлады ўвялі досыць эфектыўныя каранцінныя меры і тым самым здолелі пазбегнуць




**Пахаванне ахвяраў Чорнай смерці ў бельгійскім горадзе Турнэ.** Мініяцюра з рукапісу Жыля Ле Мюізі «Antiquitates Flandriae», 1349–1352 гады.

такога жорсткага сцэнарыя, які напаткаў іншыя землі Русі. Але малаверагодна, што чума, «падымаючыся» ўверх па Дняпры з Прычарнамор'я або па Дзвіне з партоў Балтыкі, магла ўвогуле абмінуць такія важныя гандлёвыя цэнтры, як Полацк і Віцебск.

Чума была такой хваробай, якая перыядычна вярталася, каб сабраць новы ўраджай ахвяраў. Летапісы Паўночна-Усходняй Русі паведамляюць, што ў 1364 годзе яна ахапіла не толькі гарады Вялікага Княства Маскоўскага, але закранула і суседнюю Літву. Найхутчэй, меліся на ўвазе прыдзвінскія і падняпроўскія гарады, у першую чаргу — зноў Полацк і Віцебск.

### Наступныя эпізоды

Чума з'яўлялася на беларускіх землях і ў XV стагоддзі, хоць, здаецца, тады яна была ўжо не такой жорсткай. Польскі храніст Ян Длугаш, у прыватнасці, паведамляе, што напрыканцы 1425 года кароль Уладзіслаў Ягайла і каралева Сафія Гальшанская змушаныя былі тэрмінова выехаць з Познані, ратуючыся ад набліжэння чумы, якая тады лютавала на польскіх землях.

## З-за выбуху чумы ў Вільні ў канцы 1464 года туды не змог трапіць вялікі князь Казімір Ягайлавіч

Шлях каралеўскай пары ляжаў у Берасце, але і там яна доўга не затрымалася, паколькі прыйшла вестка, што чума хутка будзе ў ваколіцах горада. Тады кароль прыняў рашэнне ехаць углыб Літвы, каб там правесці зіму, забаўляючы сябе паляваннем. Нейкі час манарх знаходзіўся ў Горадні, дзе ён і вялікі князь ▸

▶ Вітаўт прымалі вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Паўля фон Русдарфа. Каляды кароль сустракаў ужо ў Вільні.

Але ў сярэдзіне зімы чума пракралася і ў Літву. Каралеўская пара ў суправаджэнні вялікага князя Вітаўта была змушаная шукаць паратунку ў густых літоўскіх лясах, хутчэй за ўсё ў Берштаўскай пушчы (гл. пра той край артыкул Сяргея Токця ў № 8/2019 «Нашай гісторыі»). Толькі калі чума напрыканцы зімы прыціхла, кароль нарэшце прыняў рашэнне вяртацца ў Польшчу. Праўда, вяртанне пасля працяглай самаізаляцыі азмрочылася пераломам каралеўскай нагі падчас ловаў на мядзведзя ў Белавежскай пушчы. Вітаўт жа рэшту той зімы правёў на ўсходзе ВКЛ, спачатку ў Аболцах, а пасля ў Віцебску, адкуль актыўна ліставаўся з еўрапейскімі ўладарамі.

Наступным разам чума наведалася ў Вялікае Княства Літоўскае ўзімку 1464–1465 гадоў. Прыйшла яна з Прусіі, дзе ў той час Польшча ваявала з Тэўтонскім ордэнам. Калі жаўнеры вярталіся дадому, то прынеслі заразу і ў Літву, перадусім у ваколіцы Вільні. З-за выбуху чумы ў сталіцы ВКЛ туды не змог трапіць вялікі князь Казімір Ягайлавіч. Таму з Горадні, дзе сустракаў Каляды, ён паехаў у некранутае хваробай Коўна, прабыўшы там да канца зімы.

Людзі на беларускіх землях ратаваліся ад Чорнай смерці прыкладна так, як гэта рабілі паўсюль у Еўропе. Багацейшыя гараджане ўцякалі ў сельскую мясцовасць, калі мелі там уласныя маёнткі. Менш заможныя замыкаліся ва ўласных дамах. Сяляне і шляхта ратаваліся ў лясах. Як адзначалася вышэй, у некаторых гарадах і мясцовасцях (Полацк, Віцебск) маглі практыкавацца каранцінныя мерапрыемствы. Як дакладна яны маглі выглядаць, адназначных звестак няма. Па аналогіі з іншымі рэгіёнамі, уладары якіх выкарыстоўвалі каранцін падчас чумы (напрыклад, польскі кароль Казімір Вялікі), можна меркаваць, што забараняліся ўсялякія кантакты з вонкавым светам: падчас эпідэміі ў горад або нават ва ўсю зямлю (княства, каралеўства) нельга было ўехаць. Магчыма, адбывалася сацыяльная ізаляцыя хворых і іх не дазвалялася наведваць, акрамя толькі самых блізкіх людзей.

Таксама нельга выключаць, што дамы і маёмасць памерлых спальваліся, бо на Русі выпальванне і агонь лічыліся дзейснымі сродкамі супраць чумы і іншых заразных хваробаў. Але перадусім і багатыя, і бедныя спадзяваліся толькі на літасць Госпада. Бо ніякіх эфектыўных лекаў ад гэтай пошасці тады не было.

## Прыродныя каранцінныя зоны

З-за недахопу надзейных крыніц адносна чумы на беларускіх землях у познім Сярэднявеччы застаецца звяртацца да параўнання. Сёння існуе даволі шырокая навуковая літаратура



CHANGE.ORG

**Палескія балоты і цяпер бывае цяжка пераадолець**, а ў XIV стагоддзі ў пэўныя сезоны гэта было проста немагчыма. Фота Андрэя Лянкевіча.



SHUTTERSTOCK.COM, BY VOVA CROCODILE

**Рака Дняпро** ў XIV стагоддзі яшчэ складала частку гандлёвага воднага шляху з варагаў у грэкі.

па Чорнай смерці ў Еўразіі, і гэтыя факты можна гіпатэтычна спраецыраваць на беларускія землі сярэдзіны XIV стагоддзя.

Чорная смерць была тыповай масавай заразнай хваробай, якая для таго, каб існаваць, патрабавала дастаткова шматлікага насельніцтва, якое да таго ж сялілася б шчыльна. Таму сярэднявечныя гарады з іхняй антысанітарыяй і кепскай асабістай гігіенай жыхароў уяўлялі сабой ідэальны асяродак для распаўсюджання заразных хвароб — у тым ліку Чорнай смерці.

У адрозненне не толькі ад Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, але і Паўночна-Усходняй і Паўднёва-Заходняй Русі, беларускія і літоўскія землі ў сярэдзіне XIV стагоддзя былі слаба ўрбанізаваныя. Нават адносна буйныя населеныя пункты, за рэдкім выключэннем (Полацк, Віцебск, Берасце, у пэўнай ступені Навагрудак), былі па факце невялікімі паселішчамі на некалькі дзясяткаў драўляных хат. Шчыльнасць насельніцтва была вельмі малая. І гэта сур’ёзна стрымлівала распаўсюд хваробы.

А яшчэ ворагам Чорнай смерці пры яе прасоўванні да Беларусі была прырода. У тыя часы ў край няпроста было ўвайсці і, адпаведна, з яго няпроста было

выйсці. На поўдні натуральнай перашкодай былі амаль непралазныя палескія балоты, якія аддзялялі Турава-Пінскае княства, а затым і Літву ад рускіх земляў, залежных ад Залатой Арды.

На захадзе, прынамсі з XIV стагоддзя, такой перашкодай была ненаселеная прастора з выключна дрымучых лясоў, непралазных балотаў і пустак, якая працягнулася на амаль дзевяноста міляў ушырыню паміж Нямецкім ордэнам у Прусіі і Літвой. У адрозненне ад пінска-палескіх балотаў, яна была прыродна-штучным абарончым умацаваннем, створаным крыжакамі, каб замарудзіць прасоўванне літоўскага войска ўглыб Прусіі. Любому, хто асмельваўся пераадольваць гэты абшар, пагражала галодная смерць альбо гібель ад звяроў. Па гэтай жа прычыне дзікая прастора давала стапрацэнтную гарантыю ад пранікнення заразных хвароб. Нават калі ўявіць, што хтосьці хворы на чуму і паспрабаваў бы трапіць у край, то няшчасны папросту памёр бы недзе па дарозе на працягу двух-трох дзён, так і не дайшоўшы да людзей.

Калі Вялікая пустка засланяла беларуска-літоўскія землі ад пранікнення чумы з Прусіі, то Белавежская пушча служыла прыроднай мяжой з Польшчай. З Польшчы на землі Русі і Літвы можна было трапіць толькі праз Берасце, адваяванае Гедымінавічамі ў польскага караля Казіміра Вялікага ў 1351 годзе. І гэта змяншала мабільнасць не толькі людзей і тавараў, але і вірусаў ды хвароб.

На захадзе і паўночным захадзе краю прыродная ізаляванасць ўзмацнялася ізаляцыяй палітычнай: на працягу амаль усяго XIV стагоддзя мяжа з Нямецкім ордэнам у Прусіі і Лівоніі была закрытай. Праўда, існавала магчымасць, што заразныя хваробы маглі перадацца пры памежных сутычках або праз палонных і перабежчыкаў. З Польшчай таксама амаль да 1385 года існавала палітычная мяжа, хоць яна і не была такой выразнай, як з ордэнам. Тым не менш і на гэтым кірунку не было масавага руху людзей, за выключэннем, бадай, войскаў.

І толькі на поўначы і ўсходзе старажытная Беларусь была больш адкрытая звонку. Адсутнасць выразнай і акрэсленай палітычнай мяжы, адносна шчыльныя кантакты з Псковам, Вялікім Ноўгарадам і Масквой рабілі імавернай магчымасць распаўсюджання заразных хвароб з гэтых гарадоў. Таму калі чума і трапляла да нас, то менавіта з гэтага кірунку.

Трапіць у край можна было і па рэках. Але ва ўмовах XIV стагоддзя зрабіць гэта было няпроста. Нёман і ў меншай ступені Дзвіна былі не толькі прыроднымі, але і ваенна-палітычнымі межамі паміж узаемна варожымі бакамі, што, адпаведна, абмяжоўвала рух па іх. Літва такім чынам была адрэзаная ад балтыйскіх партоў. Што да Дняпра, то ён працягваў у той час заставацца важнай воднай артэрыяй, але яго значэнне як гандлёвага шляху істотна зменшылася пасля таго, як залатаардынскія ханы перанакіравалі свой гандаль на басейн Волгі і яе прытокаў.

Чума любіла марскія шляхі і партовыя гарады, таму тое, што крыжакі і залатаардынцы блакавалі нашы галоўныя рачныя артэрыі, таксама несумненна ратавала сярэднявечных беларусаў.

Таму выглядае, што Чорная смерць сапраўды не нанесла вялікай шкоды землям паміж Прыпяццю і Дзвіной, Дняпром і Нёманам, аснове Вялікага Княства Літоўскага. І гэта адыграла сваю станоўчую ролю ў далейшым культурным, сацыяльна-эканамічным і нават палітычным развіцці беларускіх земляў у Сярэднявеччы. ◆




**Людзі, якія хварэюць на бубонную чуму.** Малюнак са швейцарскай Тагенбургскай Бібліі, 1411 год.

# Потавая гарачка і агонь Антонія

## Эпідэміі ў беларускай гісторы

**Самаізаляцыя і каранцін — з'явы, вядомыя беларусам яшчэ з Сярэднявечча. Піша кандыдат гістарычных навук Алег Дзярновіч.**




**Хворы на гангрэнозны эргатызм, альбо антоніеў агонь.** Па ўсім целе — трафічныя язвы, якія ўтвараюцца па прычыне звужэння капіляраў і недастатковага забеспячэння тканак крывёю. Дэталь Ізенгеймскага алтара работы Маціяса Груневальда, 1506–1515 гады. Цяпер у музеі Унтэрліндэн горада Кальмар, Францыя.

З эпідэмічных хвароб XIV–XVII стагоддзяў найбольшую вядомасць атрымала, вядома, чума. Мяркуецца, што сапраўдныя маштабы пандэміі яна набыла ў 1346–1351 гадах. Хвароба тады прыйшла з усходняга Кітая і ў адной толькі Еўропе забрала 34 мільёны чалавек. У Маскве, калі чума ў 1353 годзе дасягнула гэтага горада, у час эпідэміі памёр сам вялікі князь Сімяон Горды.

Аднак па Беларусі мы маем толькі асобныя згадкі, як пра Полацк у 1349 годзе, калі «мор быў на людзей». Аб прычынах стрыманасці яе праяваў у Беларусі чытайце артыкул Уладзіміра Канановіча «Што ўратавала Беларусь ад самай вялікай навалы XIV стагоддзя» тут побач. Мы ж пойдзем далей.

### Кантубернія — старажытная санстанцыя

У XIV–XVII стагоддзях практычна не было шанцаў вылечыць тых, хто захварэў. Таму з пашырэннем эпідэмій змагаліся чыста адміністратыўнымі метадамі.

У 1536 годзе кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары выдаў інструкцыю для жыхароў Вільні, якая стала ўзорам для паводзін насельніцтва і іншых гарадоў Вялікага Княства. Найперш месцічам прапаноўвалася складаць завяшчанні, каб пазней сярод сваякоў не ўзнікалі маёмасныя спрэчкі. Гарадскім уладам прадпісвалася пакінуць дзейнай толькі адну гарадскую браму і выставіць ля яе варту, якая

б не ўпускала ў горад людзей, што прыбылі з заражанай мясцовасці. Ключы ад іншых брамаў магістрат павінен быў захоўваць у недатыкальнасці. А лекары абавязваліся інфармаваць бурмістраў пра любыя новыя выпадкі захворванняў.

Менавіта пасля гэтага акта Жыгімонта ў Вільню была праведзена вада па трубах, а пры кляштарах і шпіталях з'явіліся грамадскія лазні.

**Найперш месцічам прапаноўвалася складаць завяшчанні, каб пасля эпідэміі сярод сваякоў не паўставалі маёмасныя спрэчкі**

У 1571-м кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст заснаваў адмысловае ведамства, якое павінна было займацца змяншэннем наступстваў мору — кантубернію (*contubernium*) , што ў дадзеным выпадку можна перакласці як «супольнае жытло». Яе таксама называлі медыцынскай паліцыяй, якая ажыццяўляла антыэпідэмічныя мерапрыемствы як у Вільні, так і ва ўсім краі.

Самаізаляцыя ў тых умовах была адным з найбольш эфектыўных сродкаў перашкоды пашырэнню эпідэмій. Калі, напрыклад, у другой палове XV стагоддзя гарадскія ўлады Полацка атрымлівалі звесткі пра пачатак эпідэміі ў Рызе, яны выстаўлялі кардоны і спынялі такі выгадны гандаль з ганзейскім горадам, «бо гэта ёсць ва ўсіх землях такі звычай».

### Невядомыя хваробы

Між тым пісьмовыя крыніцы фіксуюць цэлы шэраг хвароб, вызначэнне якіх выклікае цяжкасці. У 1530 годзе, паводле сведчанняў сучаснікаў, «заражаныя былі морам у летнія месяцы многія гарады і вёскі». Гэта была эпідэмія «ангельскай потавай гарачкі», якая суправаджалася павышанай тэмпературай, галаўнымі болямі, санлівасцю і, што стала вельмі характэрным, — рэзкай патлівасцю. Вельмі часта вынікам гэтай хваробы была смерць.

Эпідэміёлагі сцвярджаюць, што цяпер «ангельскай потавай гарачкі» нідзе не фіксуецца. Праўдападобна, гэта была адна з формаў грыпу, сярод штамаў якога ўвесь час адбываюцца мутацыі. Чалавецтва выпрацоўвае імунітэт да старых формаў, але хвароба рэгулярна вяртаецца ды падносіць нам непрыемныя сюрпрызы ў выглядзе іншых штамаў.

Яшчэ адну нязвыклую хваробу апісаў у 1695 годзе менскі ваявода Крыштоф Завіша. У сваім «Дыярыюшы» ён занатаваў, як гэтая хвароба «курчыла людзей, з-за чаго хутка паміралі, і ў якім доме пачыналася гэта, там усе паміралі». Найбольш гэтая бяда закранала сялян.

Незалежна ад Завішы падобныя назіранні пакінуў яшчэ адзін жыхар Менска канца XVII стагоддзя — ксёндз Бэргаф: «Бог дапусціў на гэтае ж ваяводства страшную і заразную хваробу, якая шмат ахвяраў забрала з бяднейшага люду. Гэта былі невыносныя сутаргі, якія калі каго-небудзь паражалі, той ад моцнага болю выгінаўся, а прыходзіў у сябе,





**Мастацтва не стаяла ўбаку і асэнсоўвала эпідэміі па-свойму.** Работа швейцарскага мастака Арнольда Бёкліна «Чума». 1898 год.

збягаў у лясы, як пазбаўлены розуму чалавек, а калі яго лавілі людзі, то выяўляў жахлівую пражэрлівасць і еў за дзесяцёх».

Аналізуючы гэтыя апісанні, беларускі гісторык медыцыны Валянцін Грыцкевіч яшчэ ў другой палове 1980-х выказваў меркаванне, што ўсе названыя сімптомы характэрныя для паражэння цэнтральнай нервовай сістэмы і бываюць, да прыкладу, пры энцэфаліце. Але і сам гісторык адзначае, што цяжкае захворванне, выкліканае ўкусам энцэфалітнага кляшча, стала выяўляцца ў жыхароў лясных раёнаў Беларусі толькі пасля Другой сусветнай вайны, калі тут упершыню з'явіліся інфіцыраваныя членістаногія. Да таго ж пры энцэфаліце ў хворага чалавека назіраецца яшчэ ліхаманка.

Але ёсць яшчэ адна хвароба, сімптомы якой вельмі нагадваюць апісаныя. Гэта эргатызм — ▶

▸ харчовы таксікоз, які наступае ў выніку спажывання спарынні.

### Сялянскае бедства

Спарынння — гэта род грыбоў, які паразітуе на культурных і дзікарослых злаках, часцей за ўсё на жыце і пшаніцы. Увесну гэтыя грыбкі прарастаюць на глебе, утвараючы да 30-ці мясістых пурпуровых неаформленых целаў на доўгай ножцы з чырванаватымі галоўкамі. Падступны грыб выдзяляе ліпкую смярдзючую саладкаватую вадкасць («мядовую расу»), якая прываблівае насякомых. Яны і распаўсюджваюць споры грыбка ды выклікаюць масавае заражэнне раслін. Урэшце грыбок-паразіт пачынае засвойвацца ў злаку. У каласках замест зерняў утвараюцца буйныя ражкі спачатку фіялетавага,



WIKIMEDIA COMMONS

**Колас жыта, інфіцыраваны грыбам спарынні.**

потым чорнага колеру. Вось у гэтых ражках і ўтрымліваюцца алкалоіды (біялагічна актыўныя рэчывы на аснове азоту) спарынні, якія выклікаюць атручэнне людзей і жывёл.

У даўнія часы, калі клімат быў больш вільготны, узнікалі цэлыя эпідэміі «антоніевага агню». З памолатым зернем, праз муку і крупы, спарынння трапляла ў сялянскія хлеб ці кашы і выклікала сутаргі ды працяглыя спазмы мускулатуры. Суседзі ці сваякі пацярпелых маглі таксама назіраць псіхічныя расстройствы і парушэнне функцыі вачэй, якое пазней пераходзіла ў катаракту. Вельмі часта пасля пакутаў наступала смерць. Менавіта такія сімптомы апісваў ваявода Завіша.

У Беларусі распаўсюджанне спарынні назіралася ў некаторыя гады на тарфяна-балотных глебах Палесся, на пасевах паблізу вадаёмаў і лясоў з павышанай вільготнасцю паветра. Толькі ў XVIII стагоддзі медыцына здолела дыягнаставаць прычыны выпадкаў крайняй псіхічнай неўраўнаважанасці, агрэсіі і сутаргаў земляробаў. Медыкі

### Сучасная медыцына

паспяхова працягвае ўжываць спарынню. Найбольшае выкарыстанне яна знаходзіць у акушэрстве і гінекалогіі, дзе яе прызначаюць у цэлым шэрагу выпадкаў — ад дысфункцый дзетародных органаў да спынення невялікага матачнага крывацёку і прыгнятання пасляродавай лактацыі, калі, напрыклад, жанчына страціла дзіця і не мае патрэбы ў малацэ.
А адзін з алканоідаў спарынні, эргатамін, валодае абязбольвальнымі, спазмалітычнымі і седатыўнымі ўласцівасцямі. Ён выкарыстоўваецца для паляпшэння мазгавога кровазвароту, у барацьбе з неўрозамі і мігрэнямі.
Паколькі сучасная агратэхніка абмежавала распаўсюд спарынні на палетках, то для медыцынскіх мэтаў яе разводзяць ці на асобных збожжавых палях, ці ў лабараторных умовах.

### Дзень ровара

Гісторыя з атрутнай спарыннёй атрымала нечаканы працяг ужо ў ХХ стагоддзі.
У 1938 годзе ў Базэлі швейцарскі хімік Альберт Гофман, праводзячы ў фармакалагічных мэтах эксперыменты са спарыннёй, сінтэзаваў рэчыва, названае ім *LSD* (ад ням. *Lysergsäurediethylamid* — дыэтыламід *d*-лізергінавай кіслаты). Праз пяць гадоў, 16 красавіка 1943 года, доктар паўтарыў амаль забыты сінтэз, а заадно, выпадкова ўкалоўшы палец шпрыцам з рэчывам, адкрыў псіхадэлічны эфект *LSD*. Праз тры дні, 19 красавіка, Гофман свядома ўжыў 250 мікраграм *LSD* і адчуў больш моцны эфект. Гэтая дата ўвайшла ў гісторыю сусветнага андэграўнду як Дзень ровара, бо доктар Гофман сеў на ровар і пад галюцынагенным уздзеяннем, нічога не памятаючы, дабраўся з лабараторыі дадому.
Напачатку *LSD* сапраўды выкарыстоўвалася ў гамеапатычных дозах як лекі супраць некаторых псіхічных расстройстваў, мігрэні і дэпрэсіі. Яно аказалася прыдатным для лекавання некаторых фізіялагічных расстройстваў жаночага арганізму. Але ў 1960-х гадах сітуацыя радыкальна змянілася. Як адзначаў Гофман, прэпарат быў «выкрадзены» моладзевым рухам бурлівых 60-х у ЗША і стаў своеасаблівым сімвалам моладзевай рэвалюцыі. Прэпарат, адметны моцным уздзеяннем, даволі хутка праявіў свае негатыўныя наступствы. Прадстаўнікі контркультур сталі актыўна выкарыстоўваць псіхадэлічны эфект *LSD*, які, у сваю чаргу, выклікаў стан псіхалагічнай залежнасці. Адпаведна, улады абвясцілі рэчыву вайну, забараніўшы яго, у тым ліку і ў псіхіятрычнай практыцы.
Сам Гофман называў *LSD* «лекам для душы» і быў засмучаны, што вынайдзены ім прэпарат




**Адкрыццё псіхадэлічнага эфекту *LSD* вельмі шырока інтэрпрэтавалася ў сучасным мастацтве.** Гэта адна з ілюстрацый Браяна Бломерта, «Дзень ровара».

трапіў у дрэнныя рукі. Сваю кнігу, напісаную ў 1979 годзе, Гофман так і назваў — «*LSD*: Маё праблемнае дзіця». Памёр вынаходнік зусім нядаўна, 29 красавіка 2008-га, на 102-м годзе жыцця.
Сёння прадукт спарыньні застаецца элементам клубнай культуры. Гэта адзін з найбольш моцных і небяспечных сродкаў, якія ўздзейнічаюць на падсвядомасць чалавека. Да таго ж *LSD* вельмі цяжка выяўляць — у Мінск яго завозяць у выглядзе марак (паперак, прамочаных невялікай колькасцю раствору). Ёсць нейкая грымаса гісторыі ў тым, што перамажаны ў сельскагаспадарчай вытворчасці грыбок-паразіт даў аснову для стварэння іншай небяспекі.

падказалі ўладам, што не трэба ўводзіць каранцін у цэлых рэгіёнах — дастаткова займацца канкрэтнымі хворымі і правяраць пасевы.

Дапамагла і бульба. З яе пашырэннем у XVIII стагоддзі як асноўнай харчовай культуры сялянства зменшылася і рызыка хранічнага атручвання спарыннёй. А сучаснае развіццё агратэхнікі дазваляе практычна цалкам пазбавіцца ад небяспечнага паразіта. Прычым менавіта праз культуру земляробства, нават не ўжываючы хімікаты. ◆


**Першы часовы шпіталь, разгорнуты вясной 1918 года на вайсковай базе ў амерыканскім штаце Канзас**, дзе ўпершыню дала сябе адчуць эпідэмія іспанкі. Неўзабаве такія часовыя шпіталі сталі хутка будавацца па ўсім свеце, бо звычайныя не маглі змясціць вялізнай колькасці хворых.

WIKIMEDIA COMMONS

# ІСПАНКА
## Хвароба, якая змяніла свет

**Сто гадоў таму на планеце таксама лютавала пандэмія. Смяротна небяспечны від грыпу — «іспанка» — дайшоў да самых далёкіх куткоў планеты. Піша Андрэй Акушка.**

1918 год быў чацвёртым, апошнім годам Першай сусветнай вайны. Менавіта тады ў і без таго спакутаваны свет прыйшла новая бяда — «іспанка». Большасць даследчыкаў упэўненыя, што новы від грыпу з'явіўся 4 сакавіка 1918 года на адной з амерыканскіх вайсковых баз у штаце Канзас. У гэты дзень салдат Альберт Гітчэл паскардзіўся на галаўны боль і высокую тэмпературу. Сімптомы нагадвалі грып, таму Альберта шпіталізавалі. Але Гітчэл быў кухарам і кантактаваў з дзясяткамі вайскоўцаў. Тыя заразілі іншых — і праз некалькі дзён на базе ўжо хварэла больш за паўтысячы чалавек.

Праз некалькі тыдняў хворых стала 1100 і 48 з іх памерлі (сам Альберт ачуняў і пражыў яшчэ

### Неіспанская іспанка

Чаму хваробу назвалі «іспанкай», а не «амерыканкай»? Вірус жа трапіў у Еўропу з Новага Свету, а ў Іспанію яго прывезлі мясцовыя гастарбайтары.
Вінаватая цэнзура. У 1918-м Вялікабрытанія, ЗША і Францыя змагаліся з немцамі на франтах Першай сусветнай. Зыход вайны пасля выхаду з яе ў выніку заключанага ў сакавіку сепаратнага Брэсцкага міру Савецкай Расіі быў няясны. Любая дробязь магла стаць саломінкай, што пераломіць хрыбет вярблюду. Улады лічылі, што праўдзівая інфармацыя пра колькасць ахвяр віруса падарве маральны дух нацый. Жаўнеры могуць запанікаваць і пабегчы з акопаў. Па гэтай прычыне газеты не пісалі пра колькасць памерлых. А прафілактычныя меры ўвялі, калі было ўжо позна.
Іспанія ў баявых дзеяннях не ўдзельнічала, і жорсткая цэнзура ёй не была патрэбная. Таму 22 мая звесткі пра пандэмію трапілі ў мясцовыя СМІ. Увага хваробе надавалася вялікая, тым больш што яе падчапіў нават кароль Альфонса XIII. Разам з ім заразіліся прэм'ер-міністр і іншыя чыноўнікі. Схаваць гэта ад журналістаў у больш-менш свабоднай дзяржаве было немагчыма.
У прэсе з'явіліся шматлікія артыкулы пра загадкавы грып, які забівае грамадзян Іспаніі. Іх перадрукоўвалі ў іншых краінах. І ўжо летам 1918-га новы вірус атрымаў мянушку «іспанка».

паўстагоддзя). Амаль усе яны былі маладымі, здаровымі хлопцамі, у той час як ад звычайнага грыпу паміраюць перш за ўсё людзі састарэлыя і з хранічнымі хваробамі. Гэты насцярожыла аднаго з афіцэраў, палкоўніка Шрэйнера. Ён напісаў рапарт камандаванню ў сталіцу, але на ягонае папярэджанне не звярнулі ўвагі.

11 сакавіка першы выпадак хваробы быў зарэгістраваны за тысячы кіламетраў ад Канзаса — у Нью-Ёрку. Амерыканскія вайскоўцы тады якраз грузіліся на караблі, каб дабрацца да Еўропы і змагацца з немцамі. У красавіку яны завезлі новы грып у Францыю. Там ён імкліва распаўсюдзіўся па акопах, дзе шчыльна сядзелі сотні тысяч жаўнераў. А праз палонных перакінуўся і на другі бок фронту. У маі першыя хворыя былі выяўленыя ў горадзе Брэслау на ўсходзе тагачаснай Германіі (цяпер Уроцлаў у Польшчы).

Прыкладна тады ж іспанка трапіла на тэрыторыю былой Расійскай імперыі. Вясной яна была зафіксаваная ў Адэсе, а 13 жніўня датуецца першы выпадак у Беларусі — у Мсціславе. Колькі нашых суайчыннікаў загінула ад віруса сто гадоў таму, сказаць цяжка. Войны, якія тады ішлі на нашай тэрыторыі, не дазваляюць знайсці адказ на гэта пытанне. Да таго ж лекары часта ставілі хворым на іспанку іншы дыягназ — тыф. У кожным разе лік ішоў як мінімум на дзясяткі тысяч.

Сутыкнуўшыся з першымі выпадкамі, медыкі разгубіліся. Яны бачылі, што гэта нейкі незвычайны грып. Твар пацыента сінеў, чалавека выварочваў кашаль, а лёгкія быццам бы нешта раз'ядала знутры. Нараджалася шмат тэорый, што здарылася, нават такая, што на Зямлю вярнулася чума.

**13 жніўня 1918-га іспанка праявіла сябе ў Мсціславе. Гэта было яе першае пападанне ў Беларусь**

Тады яшчэ не ведалі, што вірус пераносяць і тыя, хто выглядае здаровым. Салдаты-пераносчыкі спакойна ехалі ў адпачынак і везлі «падарунак» дамоў. Менавіта так у чэрвені 1918-га хвароба трапіла ў брытанскі Манчэстэр і імкліва ▶


**Пахаванне ахвяр іспанкі ў агульнай магіле.** Канада, Лабрадор, 1919 год.
WIKIMEDIA COMMONS

▶ захапіла горад. За паўтара месяца захварэла больш за 100 тысяч, вялікую частку складалі дзеці.

Тое самае адбывалася шмат дзе. Але ў Манчэстэры знайшоўся чалавек, які вырашыў змагацца з пандэміяй. Гэта быў інспектар аховы здароўя Джэймс Нівен.

### Дактары супраць іспанкі

Джэймс Нівен зразумеў, што тыповы сезонны грып не можа распаўсюджвацца так хутка. Ён забіў трывогу і прапанаваў закрыць школы. Частка дырэктараў адмовілася слухаць галоўнага доктара горада, і ён нічога не змог з гэтым зрабіць. Заставалася толькі друкаваць дзясяткі тысяч памятак з рэкамендацыямі, як зменшыць шанцы падхапіць хваробу. Вы іх ведаеце, бо яны не змяніліся да сёння: мыць рукі і менш кантактаваць з іншымі людзьмі.

Намаганні Нівена, хоць і выглядалі барацьбой з ветракамі, усё ж не прайшлі дарма. Некаторыя калегі прыслухаліся і пачалі ўводзіць меры засцярогі, ведаючы, што хвароба перадавалася паветрана-кропельным шляхам. Дактары і медсёстры пачалі насіць маскі, якія выкідалі адразу пасля змены. Праўда, многія ўсё адно захварэлі. Ды і масак на ўсіх не хапала.

На жаль, гэта былі толькі паўмеры. Людзі працягвалі наведваць тэатры і стадыёны, а хвароба захоплівала новыя гарады і краіны. Яна забіла тысячы людзей, а ўлады забаранялі пра гэта пісаць у прэсе — нават калі спынялася прамысловасць, як шахты пад Ньюкаслам, дзе ў ліпені хварэла 70% рабочых.

**Лекар Джэймс Нівен**
(1851–1925) у маладыя гады займаўся прыватнай практыкай. Пазней пайшоў на дзяржаўную службу і стаў інспектарам аховы здароўя. З 1894-га і на працягу наступных 28 гадоў Нівен перабудоўваў сістэму аховы здароўя ў адным з найбуйнейшых прамысловых цэнтраў свету, у Манчэстэры. Ён вымусіў гарадскія ўлады пабудаваць нармальныя клазеты, вучыў людзей нормам санітарыі. Ініцыяваў знішчэнне трушчоб. Дзякуючы Нівену смяротнасць у Манчэстэры знізілася ўдвая.
Падчас пандэміі іспанкі Нівен стаў адным з першых, хто спрабаваў з ёй змагацца сістэматычна. Паралельна ён вёў улік тых, хто захварэў і памёр. Што дазволіла даказаць: гэта не сезонны грып. Меры, якія ўводзіў інспектар, далі б больш эфекту, калі б да яго прыслухаліся ўлады. Але чыноўнікі рабілі выгляд, што нічога незвычайнага не адбываецца. Пасля выхаду ў адстаўку Нівен пакутаваў ад дэпрэсіі. Магчыма, вінаваціў сябе ў тым, што не здолеў выратаваць сотні людзей. Асабліва дзяцей, якіх ён вельмі любіў. У выніку лекар не вытрымаў і скончыў жыццё самагубствам.


BIGPICTURE.RU

**Свецкая размова** падчас эпідэміі.


BIGPICTURE.RU

**Калектыўнае фота часоў іспанкі.**

**Людзі працягвалі наведваць тэатры і стадыёны, а хвароба захоплівала новыя гарады і краіны**

Магчыма, чыноўнікі апамяталіся б і ўвялі каранцін. Вось толькі ў жніўні іспанка (тады яна была ўжо вядомая пад гэтым іменем) адступіла. Большасць хворых ачуняла. Нівен занатаваў у сваім дзённіку, што 3 жніўня 1918-га сітуацыя палепшала.

Свет супакоіўся, не ведаючы, што самы жах толькі пачынаецца.

### Вірус вяртаецца

Напрыканцы лета 1918-га вірус мутыраваў і вярнуўся. Цяпер

ён мог забіць чалавека за суткі ці нават хутчэй. Другая хваля пайшла з некалькіх краін, адной з якіх зноў сталі ЗША. Да канца восені пандэмія дабралася нават да самых аддаленых месцаў планеты. Ахвяраў стала больш, людзі захлыналіся крывавай макротай і адыходзілі на той свет. Але працягвалася вайна, якой надавалі значна больш увагі, чым небяспечнай хваробе.

## Сярод ахвяраў быў і Фрэдэрык Трамп — дзед сучаснага прэзідэнта ЗША Дональда Трампа

У канцы верасня перапоўненыя караблі з амерыканскімі вайскоўцамі — у тым ліку заражанымі — накіраваліся ў Еўропу. Сотні памерлі, не даехаўшы да Старога Свету, і іх целы проста выкінулі ў мора, бо на суднах не было месцаў для іх захавання.

Тыповым прыкладам быў карабель «Левіяфан». Ён пераўтварыўся ў плывучы лазарэт яшчэ да адыходу ад прычалу. 120 жаўнераў адправілі на бераг, бо яны не маглі вытрымаць дарогу. Далей было толькі горш: за першыя паўтара сутак падарожжа захварэлі 700 чалавек. Праз тыдзень іх было ўжо 2 тысячы. Тое самае рабілася і на іншых суднах, за што яны былі празваныя «караблямі смерці».

Памерлых было ў разы больш, чым у першую хвалю, хаваць гэта станавілася цяжэй — і па арміях краін Антанты папаўзлі чуткі. У хваробе вінавацілі ў тым ліку немцаў, якія нібыта ўжылі новы від хімічнай зброі. Праўда, у лістападзе 1918-га вайна скончылася, і стала зразумела, што Германія тут ні пры чым.

Тым часам сітуацыя стала крытычнай. Напрыклад, у Лондане не працавалі многія крамы, а траціна паліцэйскіх захварэла. Рэзкага ўсплёску злачыннасці не здарылася толькі таму, што крымінальныя элементы таксама пакутавалі ад віруса.

У асобных гарадах дайшло да таго, што целы памерлых не хавалі па некалькі тыдняў. Тыя, хто павінен быў гэтым займацца, ляжалі хворыя. Ды і трун на ўсіх не хапала. Часам, каб вырашыць праблему, усіх хавалі ў вялізнай брацкай магіле, проста кінуўшы туды целы.

**Дадатковая па тэме глядзіце** дакументальны фільм тэлекампаніі Бі-Бі-Сі «"Іспанка". Грып, які забраў 50 мільёнаў жыццяў».



### Запозненыя меры

Дактары працягвалі шукаць прычыну іспанкі. Яны даследавалі макроты, але знаходзілі толькі звычайныя бактэрыі: вірусы ў аптычных мікраскопах было не разгледзець. Прыходзілася распрацоўваць метады супрацьдзеяння хваробе інтуітыўна. ▶




Амерыканскі Сіэтл. **Уваход у грамадскі транспарт — толькі ў масцы.**

WIKIMEDIA COMMONS

▶ Нівен і яго калегі распаўсюджвалі ўлёткі і навуковыя фільмы. Расказвалі пра гігіену і неабходнасць адмены масавых мерапрыемстваў. Нарэшце іх пачулі. У Францыі міністэрства ўнутраных спраў у канцы 1918-га загадала закрыць тэатры, сінематографы, рынкі і гандлёвыя цэнтры. Але рэалізацыя загаду пакідала жадаць лепшага.

Першай краінай, што ўспрыняла небяспеку сур'ёзна, стала нейтральная Іспанія, ад якой




Максімум, чым шпіталі маглі дазволіць сабе раздзяляць пацыентаў у агульнай палаце – гэта **прасцінамі**.

хвароба і атрымала сваю назву. Летам 1918-га яе ўрад звярнуў увагу на чыгункі і караблі, праз якія хвароба прыйшла на Пірэнейскі паўвостраў. Усіх, хто прыязджаў з-за мяжы, размясцілі ў каранцінных цэнтрах. А марскія парты пераўтварылі ў рэгіёны суцэльнага каранціну.

Праўда, і там не ўсё было гладка. Рашэнне адмяняць ці не адмяняць масавыя мерапрыемствы дазволілі прымаць муніцыпалітэтам. У рэгіёнах палічылі, што забарона свята ўраджаю ў канцы жніўня знішчыць мясцовую эканоміку. Да таго ж урад традыцыйна рэлігійнай Іспаніі не рызыкнуў забараніць набажэнствы. Адно і другое паспрыяла ў выніку распаўсюджванню хваробы.

Восенню 1918-га амаль усе дзяржавы зразумелі неабходнасць змагання з пандэміяй. У кожнай краіне і кожным горадзе гэта рабілі па-свойму. Найбольш паслядоўна дзейнічалі ў паўднёваафрыканскім Кейптаўне. Там стварылі 14 складоў, дзе можна было знайсці бясплатныя ежу і лекі. Па дамах хадзілі валанцёры, якія дапамагалі хворым. Для соцень маленькіх грамадзян, чые бацькі знаходзіліся ў цяжкім стане ці сканалі, зрабілі спецыяльныя дзіцячыя дамы. Масавыя мерапрыемствы забаранілі, а рух транспарту абмежавалі. 14 тысяч гараджан усё роўна загінулі. Але дактары ўпэўненыя: калі б не гэтыя захады, смяротнасць была б вышэйшай.

### Апошняя хваля

На мяжы 1918–1919 гадоў каранцін дзейнічаў ужо шмат

### Ці вінаваты Кітай?

Асноўнай версіяй паходжання іспанкі застаецца амерыканская. Лічыцца, што «нулявы пацыент», Альберт Гітчэл, мог падхапіць вірус ад свойскіх птушак ці жывёл — прыкладна так, як было з птушыным грыпам. Пасля гэтага вірус некалькі разоў мутыраваў і разам з амерыканскімі салдатамі распаўсюдзіўся па ўсім свеце. Ёсць і іншыя тэорыі, напрыклад такая, што хвароба з'явілася ў Аўстрыі ці брытанскіх шпіталях на тэрыторыі Францыі. Яшчэ ў XX стагоддзі ўзнікла і ідэя, што смяротна небяспечны вірус прыехаў у Еўропу з Кітая. На фронце тады было амаль 100 тысяч кітайцаў, якіх завербавалі для будаўніцтва ўмацаванняў. Яны праехалі праз Амерыку і трапілі ў Францыю. Адэпты гэтай тэорыі кажуць, што за некалькі гадоў да пачатку пандэміі ў Кітаі лютаваў загадкавы грып. Мясцовыя жыхары на яго перахварэлі і атрымалі імунітэт, але перанеслі вірус у ЗША, дзе ён мутыраваў і стаў небяспечным. Даследаванні апошніх гадоў гэтага не пацвярджаюць, але ўсё роўна прыхільнікаў версіі «азіяцкага следу» іспанкі сёння становіцца больш. У тым ліку і з-за каранавіруса, які дакладна прыйшоў з Кітая.




**Тэлефаністкі палошчуць горла для прафілактыкі грыпу.** Лондан, 1920 год.

## Ахвяры іспанкі

Тое, што іспанка не шкадавала нікога, пацвярджае спіс яе ахвяр. У ім можна знайсці шмат вядомых асоб другога дзясяцігоддзя XX стагоддзя. Ад віруса загінуў Туркі ібн Абдул-Азіз — старэйшы сын першага караля Саудаўскай Аравіі. Адышоў на той свет Франсішку Радрыгеш Алвеш — прэзідэнт Бразіліі. Сканаў Гіём Апалінэр — французскі паэт з беларускімі каранямі.
Іспанка забіла таксама першага прэм'ера Паўднёвай Афрыкі Луіса Бота, братоў-заснавальнікаў аўтамабільнай кампаніі «Додж» Джона і Ораса, расійскую кінаактрысу Веру Халодную, аўстрыйскага мастака Густава Клімта.
Яе ахвярай стаў фармальны кіраўнік савецкай дзяржавы (старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта РСФСР) Якаў Свярдлоў, каралева-кансорт ціхаакіянскага каралеўства Тонга Анасеіні Такіпо.
Сярод ахвяраў быў і Фрэдэрык Трамп — дзед цяперашняга прэзідэнта ЗША Дональда Трампа.
Вядомых асоб, што перамаглі хваробу, як іспанскі кароль Альфонса XIII, таксама хапала. Іспанка не здолела перамагчы заснавальніка буйной кінакампаніі Уолта Дыснея. Не па зубах ёй аказаўся і эфіопскі імператар Хайле Селасіе I. Выжылі таксама французскі маршал Жазэф Жофр, брытанскі прэм'ер-міністр Дэвід Лойд-Джордж, нямецкамоўны пісьменнік Франц Кафка, германскі імператар Вільгельм II, тагачасны амерыканскі прэзідэнт Вудра Вільсан і будучы — Франклін Дэлана Рузвельт.
З гэтага спісу бачна, што хвароба закранула людзей ва ўсіх кутках свету. І эліты ад яе застрахаваныя не былі.


WIKIMEDIA COMMONS

**«Сям'я». Мастак Эган Шыле перад сконам намаляваў трох ахвяр іспанкі:** сябе, сваю цяжарную жонку і іх ненароджанае дзіця.

дзе. Людзі ў масках на вуліцах і абмежаванні ў перамяшчэнні сталі звычайнай справай. Гэта было дарэчы, бо ў першыя месяцы 1919-га пачалася трэцяя хваля пандэміі. Хваробу зноў распаўсюдзілі вайскоўцы. Першая сусветная скончылася, і салдаты вярталіся дадому, захапіўшы з сабой вірус. Але ахвяраў на гэты раз было менш. Тых, хто прыязджаў з-за мяжы, правяралі. А калі падазравалі іспанку, вымушалі заставацца на каранціне. Хвароба стала патроху адступаць. Магчыма, з-за гэтых перасцярог, а магчыма, таму што значная частка насельніцтва ўжо перахварэла і атрымала імунітэт. Хоць асобныя выпадкі фіксаваліся нават вясной 1920-га (часам іх называюць чацвёртай хваляй).

## Напрыканцы лета 1918-га вірус муціраваў і вярнуўся


BIGPICTURE.RU

Пахаванне знакамітай актрысы расійскага нямога кіно Веры Халоднай (1893–1919), памерлай ад іспанкі ў Адэсе. **Паздымацца ў кіно Вера паспела толькі пяць год.**

Мы і сёння не ведаем, колькі людзей тады загінула. Звычайна ▶

медыкі пішуць, што хвароба захапіла паўмільярда чалавек. А забіла — ад 17 да 50 мільёнаў. Назваць больш дакладныя лічбы наўрад ці рэальна. Больш-менш адэкватная статыстыка вялася толькі ў Еўропе і ЗША, але і там цяжка было зразумець, памёр чалавек ад іспанкі ці ад звычайнага грыпу. А ў іншых рэгіёнах з падлікамі было зусім кепска. Напрыклад, Кітай быў падзелены на некалькі частак, якія ваявалі паміж сабой. І ніхто не лічыў, колькі жыхароў загінула з-за дзеянняў армій, а колькі з-за іспанкі. У калоніях чыноўнікі ўвогуле маглі запісаць усіх памерлых як ахвяр хваробы. Нават калі рэальнай прычынай быў голад, што ўзнік з-за злоўжыванняў.

Тым не менш памяць пра пандэмію захавалася. Напрыклад, у народа ігбо, што жыве ў Нігерыі, узнікла спецыяльнае слова для абазначэння дзяцей, што нарадзіліся ў 1919–1921 гадах. На беларускую яно перакладаецца як «тыя, хто нарадзіўся пасля грыпу».

## Наступствы пандэміі

У пандэміі былі і нечаканыя наступствы. Скажам, дагэтуль


BIGPICTURE.RU

**Вялікае каханне Уладзіміра Маякоўскага, Ліля Брык, магчыма, таксама перахварэла на іспанку**, але выжыла. Гэта можна зразумець па запісцы паэта, у якой ён піша, што «цалуе яе і яе іспанку».


WIKIMEDIA COMMONS

**Так выглядае ўзноўлены ў лабараторыі вірус іспанскага грыпу.** Выгадаваць яго ўдалося ў 2005 годзе. Матэрыял для гэтага атрымалі яшчэ ў 1950-х, калі ў навуковых мэтах эксгумавалі масавае пахаванне на Аляссы.

лічылася, што грамадзянін абавязаны самастойна клапаціцца пра сваё здароўе. «Выжывуць мацнейшыя» — прыкладна такім быў лозунг медыцыны да Першай сусветнай. Але іспанка вымусіла яго перагледзець. Зразумела чаму: вірусу было ўсё роўна, багаты перад ім ці бедны. Мільянер мог сканаць гэтак жа хутка, як і дворнік. А служанка прыносіла хваробу ў дом да сваёй заможнай гаспадыні — і яны паміралі побач.

У наступныя дзесяцігоддзі многія еўрапейскія краіны змянілі сістэму аховы здароўя. Дактары і лекі сталі больш даступнымі. Адным з піянераў тут быў СССР, дзе спачатку дэкларавалі ідэю абсалютнай роўнасці ўсіх грамадзян у бальніцах.

Іспанка знішчыла шмат маладых людзей ад 20 да 40 гадоў. А вінаваты быў... іх добры імунітэт! Арганізм рэагаваў на вірус занадта моцна і ў выніку забіваў сам сябе, бо антыцелы, што выпрацоўваліся ў празмернай колькасці, самі рабіліся атрутай. Але разабрацца ў гэтым вучоныя здолелі далёка не адразу. Бо прычыну іспанкі — мініяцюрны вірус — выявілі толькі праз дзесяцігоддзі, калі з'явіліся добрыя электронныя мікраскопы. ◆

**Янка Купала. Выбраныя творы.** — Мінск: Лімарыус, 2020. — 282 с.




Гэтая не зусім звычайная кніга выбраных твораў Янкі Купалы выйшла ў выдавецкай серыі «Наш сучаснік». Яна мае на мэце прадставіць чытачу класіка нечаканым чынам, у сучасным прачытанні. «Няма нічога больш канструктыўнага ў спасціжэнні роднай літаратуры, чым узяць і адмовіцца ад папярэдняга канона, паставіць традыцыю і хрэстаматыю дагары нагамі, рашуча адмовіцца ад састарэлых догмаў — і паглядзець на класічныя тэксты вачыма сучаснікаў. Як яны тады ажываюць, якім новым сэнсам адкрываюцца, як шчыра радуюцца свежаму ветру і маладому прачытанню — любата!..» — прэзентуе вынік сваёй працы ўкладальніца кнігі Ганна Севярынец.

Выданне дапоўнена літаратуразнаўчымі каментарамі да кожнага твора, кароткім летапісам жыцця і творчасці, мемуарнымі сведчаннямі, невядомымі крытычнымі артыкуламі. У кнізе прадстаўленыя і пракаментаваныя 37 вершаў, 3 паэмы («Бандароўна», «Курган», «Безназоўнае») і 2 драмы («Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя»).

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72), інтэрнэт-кнігарні **knihanosha.by**.

# Насі
## Беларусь з сабой

Набыць футболкі гэтых ды іншых серый можна ў крамах:

**Мінск**, «Мой модны кут» (ГЦ «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, пр. Незалежнасці, 58)
**Мінск**, Symbal.by (пр-т Машэрава, 18, з 10:00 да 20:00 без выхадных)
**Мінск**, «Рагна» (вул. Сухая, 4)
**Мінск,** Vishivanka.by (ГЦ «Няміга-3», цокальны паверх, 73 павільён)
**Брэст**, «Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
**Гродна**, «Цудоўня» (вул. Кірава, 3)

Або замаўляйце праз **Symbal.by**.

# Як Святаполк-Мірскія сталі «князямі»

**Ліцвін стаў абаронцам «рускага свету». Мірскі стаў Святаполк-Мірскім. А тут падвярнуўся і сам Мір. Пра незвычайныя прыгоды амбітнага роду піша Цімох Акудовіч.**

Прозвішча Святаполк-Мірскіх вядомае ўсім, хто бываў у Мірскім замку. Апошнія ўласнікі гэтага помніка архітэктуры пакінулі пасля сябе немалую спадчыну ў выглядзе незвычайнай капліцы-пахавальні, парку, бровара і даволі добрай памяці мясцовага люду.

Доўгі час Святаполк-Мірскія ўспрымаліся як чужынцы, якія прыехалі з глыбіннай Расіі. Першы ўладар замка Мікалай Святаполк-Мірскі быў названым атаманам Данскіх казацкіх войскаў і генералам расійскай арміі, што аўтаматычна рабіла яго прыхаднем на нашых землях. Але на самай справе род Мірскіх паходзіць з Браслаўшчыны і мае глыбокія тутэйшыя карані.

## Мірскія становяцца Святаполкамі

Гэты род фіксуецца на Браслаўшчыне яшчэ ў пачатку XVII стагоддзя: нейкі Грыгорый Мірскі быў браслаўскім суддзёй. Іх землі размяшчаліся ў сучасным Браслаўскім і Мёрскім раёнах. Напрыклад, з 1640 года Мірскім належала сядзіба ў Камянполлі пад Мёрамі, дзе зусім нядаўна мясцовыя ўлады скандальна разбурылі рэшткі стайні XIX стагоддзя. Ёсць версія, што ад назвы Мёры паходзіць і само прозвішча Мірскіх.

З пачатку XVIII стагоддзя Мірскія пачалі эпізадычна падпісвацца Святаполк-Мірскімі. Лічыцца, што такім чынам яны заяўлялі сваё паходжанне нібыта ад кіеўскага князя Святаполка і выказвалі прэтэнзіі на княжацкі тытул.

Цягам XVIII стагоддзя род Мірскіх моцна разросся, ён меў цэлых шэсць адгалінаванняў. Яго прадстаўнікі займалі высокія пасады ў Браслаўскім павеце, удзельнічалі ў Барскай канфедэрацыі, ездзілі пасламі на соймы, у тым ліку і Чатырохгадовы 1788—1792 гадоў, на якім 3 мая 1791-га была прынята славутая Канстытуцыя. Адзін з Мірскіх, Станіслаў Войцех, уваходзіў у Найвышэйшую Раду Літвы падчас паўстання 1794 года.

### Князь Святаполк Уладзіміравіч

(каля 979–1019) быў сынам ці пляменнікам-пасынкам знакамітага кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча, вядомага ў беларускай гісторыі як забойца полацкага князя Рагвалода і муж князёўны Рагнеды, а таксама як князь-хрысціцель рускіх земляў у 988 годзе.
З 988 года Святаполк быў тураўскім князем, а пасля смерці бацькі ў 1015 годзе на непрацяглы час заняў велікакняскі пасад у Кіеве. Праўда, неўзабаве ён прайграў змаганне за вяршэнства на Русі свайму брату Яраславу Мудраму. У ходзе міжусобнага змагання Святаполк нібыта падступна забіў сваіх малодшых братоў Барыса і Глеба, якіх Праваслаўная царква залічыла да ліку святых. Да самога ж Святаполка з лёгкай рукі летапісцаў і аўтараў жыцій святых на стагоддзі прыляпілася мянушка Акаянны. Многія сучасныя даследчыкі, аднак, сумняюцца ў праўдзівасці гісторы з братазабойствам і аргументавана яе аспрэчваюць.

## Першы князь

На ролю самага цікавага персанажа з гэтага роду пасуе фігура Тамаша Тэафіла (Багуміла) Яна Мірскага, які нарадзіўся напрыканцы 1788 года дзесьці пад польскім Калішам (Велікапольскае ваяводства). Ягоны бацька Францішак Ксаверый быў на той момант бурмістрам невялікага горада Магельніца ў Мазовіі.

Пра маладыя гады Тэафіла (ён сам часцей ужываў другое і трэцяе імя, але чамусьці не першае) мы ведаем мала. Дзе ён быў у напалеонаўскі 1812 год, застаецца таямніцай, але ў 1813 годзе купіў маёнтак Старая Ганча каля Аўгустова (цяпер у Польшчы недалёка ад мяжы з Беларуссю).

Недзе ў гэтае дзесяцігоддзе Святаполк-Мірскі здолеў патрапіць на вочы і спадабацца Мікалаю Навасільцаву — галоўнаму праваднiку расійскай палітыкі ў Царстве Польскім. Пасля гэтага кар'ера Тамаша Тэафіла пайшла ўверх. У 1818 годзе ён атрымаў ордэн Святога Станіслава, а ў 1821-м дабіўся




**Мікалай Навасільцаў** (1761–1838), знакаміты ў Беларусі рэпрэсіямі ў адрас студэнцкага таварыства філаматаў і філарэтаў, паспрыяў кар'еры Тэафіла Святаполк-Мірскага.

ад сената Царства Польскага пацвярджэння княжацкага тытула, прычым на падставе выключна сваіх слоў — ніякіх дакументаў прадстаўлена не было. Для такой авантуры трэба было мець сапраўды моцных апекуноў. Такім чынам малады шляхціч змог рэалізаваць старую мару сваёй сям'і.

У 1825 годзе па пратэкцыі таго ж Навасільцава Святаполк-Мірскі стаў паслом на сойме Царства Польскага, рэпрэзентуючы там інтарэсы свайго апекуна і ўсёй расійскай палітыкі. І ўжо на той час ён быў, відаць, чалавекам нябедным.

## Рурык-славянафіл

Людзей, якія добра ўладкаваліся ў новых рэаліях і выкарыстоўвалі расійскую ўладу ў сваіх інтарэсах, на землях былой Рэчы Паспалітай было шмат. Але Тамаш Багуміл яскрава вылучаўся сярод іх тым, што, падобна, шчыра пранікся ідэямі славянафільства.

У 1823 годзе ў яго нарадзіўся сын, якога наваспечаны князь назваў вельмі пышна — Уладзімір Ксаверый Саова Урбітр. Наяўнасць чатырох імёнаў у тагачаснай шляхецкай традыцыі была нормай, а вось выбар канкрэтных імёнаў паказвае эксцэнтрычнасць асобы маладога бацькі.

Праз два гады ў Святаполк-Мірскага нарадзіўся другі сын. Тамаш Багуміл вырашыў умацаваць поспех і назваў яго Дзмітрыем Харытонам Рурыкам Міронам! Тут ужо адсылка да старажытнарускай традыцыі была зусім відавочнай. Калі першаму сыну ён хаця б даў імя Ксаверый (другое імя ягонага бацькі Францішка Ксаверыя), то далей Тэафіл цалкам парываў свае адносіны са шляхецкай традыцыяй і кідаўся ў новую гульню з усходнеславянскімі ідэямі. А заадно яшчэ і замацоўваў свой новы княжацкі тытул іменем Рурык.

**Свайго другога сына ён назваў Дзмітрыем Харытонам Рурыкам Міронам**

Тут трэба разумець, што славянафільства ў тыя часы яшчэ толькі нараджалася. Зусім незадоўга да нараджэння Дзмітрыя Харытона, у 1818 годзе, беларускі даследчык Зарыян Даленга-Хадакоўскі выпусціў сваю праграмную работу «Славяншчына да хрысціянства», якая дала штуршок развіццю славяназнаўства і вывучэнню ўзаемасувязяў усяго славянскага рэгіёна. Тое, што нам цяпер падаецца банальнасцю, для тых часоў было наватарствам. І Святаполк-Мірскі нейкім чынам здолеў убачыць перспектыву гэтага кірунку і стаць русафілам тады, калі гэта было яшчэ нямодна.

## Не прапаў у Парыжы

Аднак славянафільства таго часу ніяк не азначала маўклівай падтрымкі расійскай палітыкі. Таму, калі ў 1830 годзе ўспыхнула антырасійскае паўстанне, Тамаш Тэафіл таксама ўзяў у рукі зброю. Ён узначаліў партызанскі атрад, які дзейнічаў пад Сувалкамі. Але ў верасні 1831 года, калі паўстанне пайшло на спад, разам з атрадам перайшоў мяжу Прусіі і з'ехаў у эміграцыю ў Францыю, дзе пасяліўся ў невялікім горадзе Шатару за 250 км ад Парыжа. Нейкім чынам ён увайшоў у давер да мясцовай улады, стаўшы пасрэднікам паміж шматлікімі эмігрантамі і французскай адміністрацыяй. Але паводзіў сябе Тамаш Тэафіл дзіўна: расказваў усім, што паўстанне было паднятае, каб пасадзіць на польскі трон менавіта яго, раздаваў званні і медалі і ўвогуле вельмі непаважліва ставіўся да сваіх суайчыннікаў. Гэта выклікала іхнюю незадаволенасць, з-за чаго ў хуткім часе Святаполк-Мірскі быў вымушаны з'ехаць у Парыж.

На той момант Францыя была ў разгубленасці ад вялікай колькасці польскіх эмігрантаў, з якімі не ведала, што рабіць. І каб вырашыць адразу дзве праблемы, разгарнула сярод гэтых эмігрантаў рэкламную кампанію, абяцаючы ім вялікія надзелы зямлі ў Алжыры. У 1830 годзе Францыя пачала каланізаваць гэтую паўночнаафрыканскую краіну, ▸

і ёй для засваення новых тэрыторый былі патрэбныя людзі.

Святаполк-Мірскі якраз і быў адным з тых агітатараў, якія заклікалі да масавага перасялення ў Афрыку. А калі суайчыннікі ад яго адвярнуліся, то вырашыў перайсці ад тэорыі да практыкі.

**Святаполк-Мірскі быў адным з тых агітатараў, якія заклікалі да перасялення ў Афрыку, і сам адправіўся ў Алжыр**

### Афрыканскі поспех

Тамаш Тэафіл сам адправіўся ў Алжыр і, як і абяцаў французскі ўрад, атрымаў на месцы 3 400 (!) гектараў алжырскай зямлі. Больш ніхто з еўрапейцаў не меў тады ў Алжыры такой латыфундыі. Землі Мірскага размяшчаліся ў раёне Бурдж-аль-Кіфан (*Bordj el Kiffan*), цяперашняга прыгарада алжырскай сталіцы — горада Алжыр.

І Святаполк-Мірскі пачаў дзейнічаць. Арганізаваў на сваёй тэрыторыі школу і аптэку для мясцовых, а таксама пабудаваў касцёл і мячэць. Агулам пад ягоным кіраўніцтвам працавала больш за тысячу чалавек — 300 еўрапейцаў і каля 800 мясцовых мусульман.

На пэўным этапе Святаполк-Мірскі стаў прыкладам, да якога апелявала французская адміністрацыя, заклікаючы палякаў перастджаць у Алжыр.

Публічнасць наваспечаны латыфундыст любіў. Дастаткова толькі пачытаць подпісы, якія ён пакідаў на шматлікіх дакументах: «Багуміл князь Святаполк-Мірскі, рэгіментар Аўгустоўскага ваяводства, кіраўнік рэгулярных уланскіх і стралецкіх аддзелаў


PINTEREST.COM

**Жыхар Алжыра.**

**Непадпісаная акварэль пехацінца Жан-Луі Гаспара, 1837 год.** Французскія войскі рухаюцца скрозь прабой у муры ўмацаванага алжырскага горада Канстанціны, каб заваяваць горад і атрымаць кантроль над алжырскімі марскімі партамі.

WDL.ORG

у тым рэгіёне, кавалер вайсковага Крыжа» альбо *Prince Swiatopołk de Mir Mirski, prince de Russie, à Alger en Afrique* («князь Святаполк-Мірскі на Міры, князь расійскі, у Алжыры, у Афрыцы»).

У Алжыры мала хто цікавіўся дэталямі, таму ў выніку і лісты да Святаполк-Мірскага пачалі падпісваць, напрыклад, так: *A Son Altesse Serenissime Monsiegneur le Prince de Mir, general et chef de l'armee de Lithuanie* («Яго высокасці монсеньёру найсвятлейшаму князю Мірскаму, генералу войска Літвы»).

Рускага князя, літоўскага генерала і афрыканскага землеўласніка ў адной асобе, відаць, зусім пачало пакідаць пачуцце меры, бо ў наступныя гады ён стаў падпісвацца проста «Святаполк Пяст Мірскі» альбо «Рурык».

Што асабліва цікава, ёсць згадкі, што часам ён называў сябе князем на Міры, хоць ніякага Міра ва ўладанні ў яго тады не было.

### Не змаўчаў і Міцкевіч

Гаспадарчыя поспехі, аднак, працягваліся нядоўга. Праз тры гады справа пачала рушыцца, а ў 1843 годзе цалкам збанкрутавала. У гэтым самым годзе Святаполк-Мірскі вярнуўся ў Еўропу.

Яшчэ седзячы ў Алжыры, «рускі князь» актыўна пісаў лісты ў Расію з просьбай аб амністыі. Пад гарачым афрыканскім сонцам ён працягваў развіваць ідэі славянафільства і перапісваўся з вядомым гісторыкам Іаахімам Лялевелем, даказваючы апошняму неабходнасць аб'яднання ўсіх заходніх славян. А ў 1840 годзе ён адправіў свайго сына Дзмітрыя вучыцца ў Расію.

1842 год стаў для Святаполк-Мірскага кульмінацыйным. Ён атрымаў амністыю ад цара, яму вярнулі ўсе маёнткі каля Аўгустова. На радасцях Тамаш Багуміл Ян прыняў праваслаўе і памяняў сваё імя на Іван Тэафіл.

**Прымаючы праваслаўе, ён вярнуўся да «натуральнай Царквы славян», тлумачыў ён. Тут ужо не вытрымаў Міцкевіч**

Зразумела, што польская эміграцыя ўспрыняла такія дзеянні крайне негатыўна. Да таго ж Святаполк-Мірскі вырашыў падліць смалы ў агонь і ў 1843 годзе, каб замацаваць поспех, апублікаваў адкрыты ліст да свайго сына Дзмітрыя, у якім патлумачыў, што, прымаючы праваслаўе, ён вярнуўся да «натуральнай Царквы славян», і выказаў спадзяванні, што ўсе эмігранты натхняцца ягоным прыкладам.


WIKIMEDIA COMMONS

**Адаму Міцкевічу славянафіл Тэафіл Святаполк-Мірскі катэгарычна не падабаўся**, ён лічыў яго рэнегатам.

### Загадкавы князь-беларус

Чалавек з прозвішчам Святаполк-Мірскі засвяціўся і ў беларускім руху. Адбылося гэта падчас Першай сусветнай вайны.
Акурат у гэты час цікавасць да беларускай справы выказалі некалькі прадстаўнікоў краёвай арыстакратыі, у прыватнасці Казімір Шафнагель і Вінцэнт Святаполк-Мірскі. Яны ўдзельнічалі ў працы Беларускага таварыства пацярпелых ад вайны, былі арганізатарамі і дэлегатамі Беларускай канферэнцыі ў Вільні ў студзені 1918 года, разам з Вацлавам Ластоўскім спрабавалі стварыць нацыянальную каталіцкую партыю. Іх прозвішчы часта прыгадваюць, калі заходзіць гаворка пра альтэрнатывы развіцця беларускага руху, магчымасці яго паразумення з багатымі слаямі грамадства.
Але, у адрозненне ад Казіміра Шафнагеля, пра якога тое-сёе вядома, асоба Вінцэнта Святаполка-Мірскага — вельмі загадкавая. Ва ўспамінах з таго часу ён часта завецца князем, але ці быў ім на самай справе? Сярод нашчадкаў Тэафіла Святаполк-Мірскага ніякага Вінцэнта дакладна не было. Можа, ён прынамсі належаў да нейкага іншага адгалінавання старажытнага роду, не княжацкага? Таксама не факт, бо сучасным даследчыкам увогуле амаль нічога не вядома пра гэтага чалавека. Ён як нечакана выйшаў на гістарычную сцэну, так нечакана з яе і знік. Не вядомы ні гады яго жыцця, ні дзе знаходзіліся ягоныя маёнткі, калі ён меў іх увогуле. Таму нельга выключаць, што гаворка тут ішла пра нейкага авантурыста-самазванца з прыдуманай біяграфіяй, якія ў тыя часы не былі рэдкасцю.



**Замак Ільінічаў-Радзівілаў, які мы ведаем пад назвай Мірскі.** Літаграфія з малюнка Францішка Максімільяна Сабяшчанскага, 1849 год.

Тут ужо не вытрымаў сам Адам Міцкевіч: паэт сабраў у сябе прадстаўнікоў розных эміграцкіх рухаў, якія падпісалі пратэст супраць паводзін «князя на Міры» і канчаткова абазначылі яго грамадскі статус, назваўшы рэнегатам.

Пакрыўджаны (калі толькі гэты чалавек умеў крыўдзіцца) Тэафіл Іван Мірскі канчаткова з'ехаў у Расію, дзе і памёр у 1860-я гады, паспеўшы пацвердзіць свой тытул князя ў Расійскай імперыі.

Напэўна, гэтага чалавека можна назваць шчаслівым. Ён змог рэалізаваць стагадовую мару свайго роду і дабіцца тытула князя. А трое ягоных сыноў выканалі запавет бацькі і ўзялі актыўны ўдзел у пабудове «славянскай дзяржавы». Неаднаразова тут згаданы князь Дзмітрый (Харытон Рурык Мірон) Іванавіч даслужыўся ў расійскай арміі да генерала, быў удзельнікам каўказскіх паходаў, Крымскай вайны, меў цэлую калекцыю медалёў і шчасліва скончыў сваё жыццё ў 1899 годзе ў французскай Ніцы. А сын Дзмітрыя і ўнук Івана Пётр Дзмітрыевіч Святаполк-Мірскі быў з 1895 года па чарзе губернатарам у некалькіх губернях, у тым ліку ў 1902–1904 гадах у Вільні, а ў 1904–1905 займаў пасаду міністра ўнутраных спраў Расіі.





Да Мікалая Святаполк-Мірскага замкам валодала гэтая жанчына — немка **Марыя Гагенлоэ-Шылінгфюрст.**

Тамаш Багуміл Ян-Іван Святаполк-Мірскі, такім чынам, стаў адным з першых славянафілаў новай генерацыі, які сваёй эксцэнтрычнасцю праклаў дарогу, якой пройдуць пазней тысячы і тысячы беларусаў — ад выкарыстання рэсурсаў імперыі ў сваёй адукацыі і кар'еры да ператварэння ў шчырага абаронцу «рускага свету». З той толькі розніцай, што Іван-Ян хацеў, каб «рускі свет» служыў яму.

### Адкуль узяўся замак?

Каб нарэшце звязаць Мірскіх з Мірскім замкам, нам трэба прасачыць лёс трэцяга сына алжырскага «рускага князя на Міры», Мікалая. Ён нарадзіўся ў 1833 годзе ўжо ў эміграцыі. Відаць, з прычыны паходных умоваў бацька вырашыў не нагрувашчваць сына дадатковымі імёнамі — і Мікалай быў проста Мікалаем. Рос хлопец пад алжырскімі пальмамі, а пасля пераезду бацькоў у Расію за дзяржаўны кошт адвучыўся ў Пажаскім корпусе і, як і старэйшы брат, абраў вайсковую кар'еру. Ён браў удзел у Крымскай вайне, вызначыўся ў расійска-турэцкай вайне, разам з генералам Іосіфам Гурко (таксама, дарэчы, родам з Беларусі) штурмуючы Шыпку, меў шмат медалёў і ордэнаў і ўрэшце дарос да генеральскага чына.

Толькі ў 1881 годзе Святаполк-Мірскі быў перанакіраваны на Дон і там атрымаў званне наказнога атамана данскіх войскаў, бо без гэтага проста не




мог бы кіраваць казакамі. Такая была завядзёнка. Там генерал заняўся актыўнай уніфікацыяй казацкага войска, а як да гэтага паставіліся самі казакі, можна зразумець па мянушцы, якую яму далі на Доне, — Святаполк Акаянны.




**Мікалай Святаполк-Мірскі.** Гравюра ў расійскім вайсковым часопісе, 1877 год.

### Палац не перажыў рэвалюцыі

Пабудаваны ў канцы XIX стагоддзя побач са старадаўнім замкам двухпавярховы палац Святаполк-Мірскіх падчас Першай сусветнай вайны апынуўся ў прыфрантавой паласе і ў маі 1917 года быў фактычна знішчаны п'янымі салдатамі расійскай 2-й арміі. Знайшоўшы ў палацы тайнікі з вялікімі запасамі алкаголю, ваякі дэградаванай пасля Лютаўскай рэвалюцыі арміі доўга ў ім балявалі, адначасова руйнуючы ўсё, што патрапляла пад руку. Разгром палаца працягваўся тры дні. Знішчылі ўсё: багатую бібліятэку, унікальную карцінную галерэю. Мэбля і раялі выляталі з вокнаў другога паверха. Урэшце і сам палац загарэўся. Падрабязней пра гэта гл. артыкул Станіслава Рудовіча «П'яны бок рэвалюцыі» ў № 10/2019 «Нашай гісторыі».
Гаспадаром палаца тады быў сын Мікалая Святаполк-Мірскага Міхаіл. Пасля вайны аднаўляць палац ён не стаў, жывучы ў адной з захаваных вежаў замка. Памёр Міхаіл Святаполк-Мірскі ў 1938-м, а ўжо праз год пачалася Другая сусветная вайна. Пасля яе тут на дзесяцігоддзі ўсталявалася савецкая ўлада. Прадстаўнікам мясцовай арыстакратыі заставалася толькі ратавацца ўцёкамі.

А ў 1887 годзе зоркі сышліся так, што расійскі імператар Аляксандр III падпісаў указ аб забароне іншаземцам мець зямельную ўласнасць у Расіі. Марыя Гагенлоэ-Шылінгфюрст (Вітгенштэйн), тагачасная ўладарка Мірскага замка, з'яўляючыся нямецкай падданай, вымушаная была выставіць яго на продаж.

**Ён думаў, што Мірскія займелі сваю рэзідэнцыю на вякі. Але XX стагоддзе разбіла гэтыя планы ўшчэнт**

І вось у 1891 годзе стары генерал Мікалай Святаполк-Мірскі ўключыўся ў барацьбу за права купіць руіны замка ў мястэчку Мір. І перамог. Князь не пакінуў пасля сябе ніякіх успамінаў, але мы можам здагадвацца, што ў параўнанні з іншымі купцамі ён меў большую матывацыю. Набываючы замак, Мікалай ставіў кропку ў больш чым стагадовым змаганні свайго роду за права называцца князямі.

Нехта з ягоных прапрадзедаў прыдумаў дадатак Святаполк да прозвішча Мірскі, ягоны бацька дабіўся атрымання княжацкага тытула толькі на падставе ўласных словаў, а ён, Мікалай Святаполк-Мірскі, набывае замак у мястэчку Мір і такім чынам назаўсёды легалізуе прыдуманую ягоным жа бацькам моўную канструкцыю «князі на Міры»! Лепшага ходу падзей не трэба было і чакаць.

Князь на Міры, данскі атаман Мікалай Святаполк-Мірскі памёр у 1898 годзе ў сваім маёнтку, седзячы ва ўтульным крэсле на востраве пасярэдзіне сажалкі, выкапанай па ягоным загадзе каля сценаў замка. Ён, пэўна, думаў, што мара ягонага бацькі здзейснілася, і князі Мірскія нарэшце займелі сваю сапраўдную рэзідэнцыю на вякі. Але гісторыя XX стагоддзя разбіла гэтыя планы ўшчэнт. ◆

# Крывічы, бужане і яцвягі XIX стагоддзя

## Што паказаў адзін з першых перапісаў насельніцтва ў Беларусі

**Звычайна сваіх грамадзян перапісвае дзяржава. Але гэты перапіс быў іншым. Піша кандыдат гістарычных навук Павел Царашковіч.**

Бенедыкт Андэрсан, сусветна вядомы даследчык працэсаў фарміравання сучасных мадэрных нацый, лічыць, што галоўную ролю ва ўсведамленні сябе асобнай супольнасцю адыгрываюць музеі, перапісы і карты. І сапраўды, прыходзім мы ў музей, экспазіцыя якога звычайна пачынаецца з археалагічных знаходак — прыладаў працы ці ўпрыгожанняў, — і адчуваем гонар: гэта ж *нашы* продкі зрабілі. Вось якія ў нас карані! Тое ж і з картамі. З двухсот з нечым контураў тэрыторый нацыянальных дзяржаў сучаснага свету мы імгненна пазнаём свой — гэта *наша* зямля! А перапісы з дакладнасцю да апошняй асобы кажуць, колькі *нашых* у гэтым свеце.

### Падмененая рэальнасць

З перапісамі, аднак, ёсць адна праблема: амаль заўсёды іх правядзенне — справа дзяржаўная. І часта здараецца так, што дзяржаве цікава ведаць, колькі і якія людзі жывуць у яе межах, але па нейкіх прычынах яна не хоча, каб пра гэта ведалі ўсе. Так, вынікі аднаго з першых мадэрных перапісаў — шведскага 1756 года — вырашылі трымаць

**Сяляне Віцебская губерні** з альбома «Адзежы Рускай дзяржавы» (1844).




WIKIMEDIA COMMONS

у таямніцы, да такой ступені яны былі ашаламляльнымі: краіна, як высветлілася, была слабая і маланаселеная.

Таму шмат у якіх выпадках матэрыялы перапісаў дэманстравалі не тое, што ёсць, а тое, што б дзяржава хацела бачыць. І часам з гэтай выдуманай рэальнасці паўставала сапраўдная. Той самы Бенедыкт Андэрсан апісвае, як у Малайзіі брытанскія каланіяльныя ўлады свядома займаліся канструяваннем малайскай ідэнтычнасці, якой у рэчаіснасці не існавала: падчас перапісу яе дадалі ў якасці адной з магчымых, і працэс пайшоў.

На тэрыторыі Беларусі першы перапіс быў праведзены на сто сорак гадоў пазней за шведскі — у 1897 годзе. Нацыянальнасць у тыя часы вызначалася па мове. Зараз цяжка сказаць, як там было на самай справе, але, згодна з надрукаванымі матэрыяламі, колькасць беларусаў у Расійскай імперыі склала 5 млн 886 тысяч чалавек, у тым ліку ў сучасных межах Беларусі — 4 млн 756 тысяч. Перапіс 1897 года дазваляў даведацца, колькі беларусаў жыло ў кожнай губерні, павеце і горадзе. І стала зразумелым, што беларусы займаюць тэрыторыю ад Беластока да Смаленска, ад Вільні да Чарнігава. Статыстычна пацвярджалася тое, што заяўляў за некалькі гадоў да таго ў прадмове да «Дудкі беларускай» Францішак Багушэвіч: «Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...» Гэтыя звесткі рабілі надзвычай моцнае ўражанне і часта выкарыстоўваліся на старонках беларускіх выданняў, перадусім «Нашай Нівы».

### Пагадзіўся толькі Сінод

Інфармацыя пра насельніцтва збіралася і раней. Але спробы гэтыя былі выпадковыя і ахоплівалі параўнальна невялікія тэрыторыі. Адзінае выключэнне — так званыя Прыходскія спісы.

Ініцыятарам гэтага апытання, у нечым падобнага да перапісу, быў выдатны навуковец, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі навук, адзін з заснавальнікаў Геаграфічнага таварыства Пётр Кёпен. У 1851 годзе ён выдаў этнаграфічную карту еўрапейскай часткі імперыі і пры яе складанні выразна ўсвядоміў, як мала існуе надзейнай статыстычнай інфармацыі.

Таму ў 1850-я ён неаднаразова звяртаўся да розных урадавых устаноў з прапановай правесці перапіс народаў. Адказ нязменна быў адмоўны. Імперыі ў той час было не надта цікава, хто яе насяляе. Адзіная ўстанова, якая пагадзілася за гэта ўзяцца, быў Святы Сінод. Царкоўнае чыноўніцтва выдала загад, каб кожны святар запоўніў анкету пра прыхаджан свайго прыходу — адсюль і назва незвычайнага перапісу.

**Перапісчыкаў дэзарыентавала слова «племя» ў пытанні «Якога племені прыхаджане (велікарусы, беларусы, мардва і іншыя)»**

У анкеце, распрацаванай самім Кёпенам, было ўсяго тры пытанні: колькасць, веравызнанне і этнічная прыналежнасць вернікаў. Апошняе пытанне было сфармулявана так: «Якога племені прыхаджане (велікарусы, беларусы, мардва і інш.)». Тое, што беларусы пазначаныя ў прыкладзе як асобны народ, не выпадкова: навуковец раней даследаваў беларускую гутарковую мову, а ў 1820-х спрабаваў вызначыць межы рассялення беларусаў у Чарнігаўскай губерні.

### Неадназначныя плямёны

Апытанне праводзілася ў 1857–1858 гадах і паставіла святароў у надзвычай складаную сітуацыю. Яны прызвычаіліся, што людзі адрозніваюцца выключна па веравызнанні. І гэта зразумела: нацыянальныя рухі ў імперыі рабілі толькі першыя крокі, і да колькі-небудзь вызначанай ідэнтычнасці было яшчэ далёка. У святароў не было нават агульнага разумення, што значыць «племя». Шмат хто падумаў, што гаворка ідзе пра плямёны часоў «Аповесці мінулых гадоў». Таму вынікі апытання часткова адлюстроўваюць рэальную сітуацыю (калі пацвярджаюцца іншымі крыніцамі), а часткова — кніжныя ўяўленні саміх святароў.

Што ж атрымалася ў выніку? Напрыканцы 1850-х ва ўсёй Беларусі жыло каля 3,3 млн чалавек. У шэрагу выпадкаў этнічная прыналежнасць была амаль што тоеснай канфесійнай. То-бок калі іўдзей, дык яўрэй (350 тысяч, або 10,8% насельніцтва), калі старавер — рускі (34 тысячы, ці 1,1%), мусульманін — татарын (3,5 тысячы, 0,1%), пратэстант — немец (4 тысячы, 1,2%).

Але, напрыклад, з палякамі сітуацыя была іншай: усе яны ▸

(да 300 тысяч чалавек, 9,5% насельніцтва) былі каталікамі. Аднак не ўсе каталікі былі запісаныя палякамі — агульная колькасць зафіксаваных каталікоў была ўдвая большай.

Найбольш трывалай польская ідэнтычнасць была сярод землеўласнікаў, да 93% з якіх былі каталікамі. Агульная колькасць усіх землеўласнікаў складала да 9 тысяч чалавек — 0,25% ад усяго насельніцтва. А вось сярод шматлікай шляхты (усяго каля 150 тысяч, 4,4%) было нямала праваслаўных: у Мазырскім павеце — 54,5%, а ў Пінскім — нават 77%.

Што да ідэнтычнасці шматлікага сялянства і мяшчан хрысціянскіх канфесій, то яна шмат у чым залежала ад прыналежнасці да пэўнага гістарычнага рэгіёна. У гістарычнай Беларусі практычна ўсё гэтае насельніцтва было пазначанае як беларусы. Згодна з тагачасным адміністрацыйным падзелам, гэта былі Віцебскі, Дзісенскі, Лепельскі і Полацкі паветы Віцебскай губерні (трэба ўлічваць, што яны значна большыя за сённяшнія раёны) і ўся Магілёўская губерня, у якую ўваходзіла значная частка сучаснай Гомельскай вобласці. Характэрна, што ў Дзісенскім і Лепельскім паветах беларусамі былі названыя і праваслаўныя, і каталікі.

### «Літоўскае племя»

А вось у гістарычнай Літве сітуацыя была зусім іншай. У Гродзенскім, Ваўкавыскім, Слонімскім і часткова Слуцкім паветах усіх жыхароў як праваслаўнага, так і каталіцкага веравызнання святары называлі літоўцамі. Пры гэтым нярэдка яны дадавалі цікавыя каментары: «літоўцы, якія размаўляюць беларускай мовай (ці беларускай гаворкай)», «літоўцы на Русі», «літоўцы-славяне, да іх славянскай гаворкі вельмі мала дамешваецца літоўскай мовы». Адно з найбольш трапных вызначэнняў: «Прыхаджане — жыхары літоўскага племені, але ўсе размаўляюць беларускай мовай, апроч дваран». Характэрна, што вядомы з фальклору тэрмін «літвін» не быў згаданы аніводнага разу.




**Беларусы Магілёўскай губерні**, выява з «Этнаграфічнага апісання народаў Расіі» Густава-Фёдара Паўлі.

У Мінскім, Барысаўскім, Лідскім, Ашмянскім, Вілейскім і Дрысенскім паветах літоўцамі пераважна называлі каталікоў, а праваслаўных — беларусамі. У некаторых выпадках літоўцаў і беларусаў нават супрацьпастаўлялі. Напрыклад, у Слоніме адзначалася, што «службовыя асобы — не мясцовыя ўраджэнцы, ёсць велікарусы, маларосы і беларусы, мяшчане ж належаць да мясцовага літоўскага племені». Разам з тым у шэрагу паселішчаў гэтага рэгіёна (Воўпе, Гудзевічах, Крынках, Росі, Свіслачы, Мілавідах) да беларусаў аднеслі і каталіцкае, і праваслаўнае насельніцтва.

### Легендарныя назвы

Некаторыя святары наўпрост звязвалі сваіх прыхаджан са старажытнымі крывічамі. Гэта больш за 23 тысячы выключна каталікоў у Лідскім і Свянцянскім паветах. У самой Лідзе святар напісаў, што яго прыхаджане — «крывічане» (менавіта праз «ы», па-беларуску).

Па-за межамі крывіцкага арэала ў Наваградскім павеце адзначана, што «жыхары славяна-крывіцкага і польскага» плямёнаў і, адначасова, што «ў ніжэйшага класа — польска-беларуская мова». Можна толькі заўважыць, што летапісныя крывічы жылі далёка на ўсход ад гэтай тэрыторыі. То-бок гэтая ідэнтычнасць у Прыходскіх спісах — кніжная, уяўная.

Шэраг вызначэнняў меў яшчэ больш парадаксальны характар. У паселішчах Крывошын, Ішкалдзь, Крошын, Сваятычы і Сноў (Наваградскі павет) святары прыйшлі да супольнай думкі, што іх прыхаджане «памешчыкі і дваране — палякі, а просты люд: мала-польска-русакі» (!?).

### Чарнарусы

Асаблівую цікавасць уяўляе зафіксаваная ў Слуцкім і Ігуменскім паветах назва «чарнарусы» (19 тысяч). У Слуцкім павеце паселішчы чарнарусаў працягнуліся вузкім ланцужком ад Гарадзеі на поўначы, праз Клецк і Сіняўку да Агарэвіч на поўдні. Назва «чарнарусы» ў тыя часы згадваецца ў працах даследчыкаў-краязнаўцаў Паўла Баброўскага і Іларыёна Зяленскага, польскага

вандроўніка Яна Маяркевіча. Збіральнік фальклору Іван Барычэўскі ставіў народную творчасць чарнарусаў у адзін шэраг з творчасцю беларусаў, палякаў і мазаўшан. Магчыма, згаданыя ў Прыходскіх спісах чарнарускія паселішчы — рэшткі мяжы Чорнай і Белай Русі, якая існавала ў старажытнасці.

### Яцвягі і бужане

Найбольш стракатай і дзіўнай выглядала сітуацыя на паўднёвым захадзе Беларусі — у Брэсцкім, Кобрынскім і Пружанскім паветах. Мясцовыя святары запісалі сваіх прыхаджан і беларусамі, і маларусамі, і славяна-русамі, і літоўцамі, і нават бужанамі ды яцвягамі. Цікава, што гэты рэгіён цяпер звычайна адносяць да Палесся, а вось назва «палешукі» згадваецца толькі аднойчы, і тое па-за яго межамі — у Слонімскім павеце.

Што тычыцца бужан, то не выключана, што гэта сапраўдная назва мясцовага насельніцтва. Адзін са святароў патлумачыў яе наступным чынам: «Па паходжанні сваім бужане, доказам чаго служыць месцазнаходжанне іх жыхарства». Парафіі з бужанамі (усяго каля 5,5 тысячы чалавек) сапраўды размяшчаліся паблізу ад ракі Буг. Бужан апісваў і Павел Баброўскі, які падкрэсліваў, што іх «каралеўская гаворка» значна адрозніваецца ад гаворкі маларасійскай, а тым больш — ад беларускай, аднак і з адной, і з другой мае шмат агульнага.

Куды больш праблематычнай уяўляецца рэальнасць існавання ў сярэдзіне XIX стагоддзя яцвягаў. Гэта племя балцкага паходжання, якое згадваецца ў летапісах у дачыненні да падзей X–XIII стагоддзяў. Пазнейшых згадак пра іх няма. Археолагі вызначылі, што яцвягі жылі на поўнач ад Палесся, у міжрэччы Нёмана і Нарвы. А Прыходскія спісы зафіксавалі яцвягаў у Брэсцкім, Кобрынскім і ў меншай колькасці ў Бельскім і Ваўкавыскім паветах — усяго каля 30 тысяч.


WIKIMEDIA COMMONS

**Павел Баброўскі**

(1832–1905) — генерал, юрыст і гісторык з беларускімі каранямі. Ён скончыў Полацкі кадэцкі корпус і служыў у Літоўскім палку, перш чым трапіць у Генштаб расійскай арміі ў Пецярбургу. Зрабіў паспяховую кар'еру, вянцом якой была пасада начальніка Вайскова-юрыдычнай акадэміі.

Разам з тым амаль усё працоўнае жыццё Баброўскі займаўся яшчэ гісторыяй і этнаграфіяй. Такое своеасаблівае хобі, якое стала другой прафесіяй, можна лічыць вынікам непасрэднага ўплыву ягонага дзядзькі, прафесара Віленскага ўніверсітэта Міхала Баброўскага (гл. пра яго ў артыкуле «Падляшане, якія абудзілі беларусаў» у № 3/2018 «Нашай гісторыі»). Міхал Баброўскі пасля смерці свайго брата Восіпа ўзяў пад апеку ягоную сям'ю і несумненна аказаў на пляменніка Паўла моцнае маральнае ўздзеянне. Як сур'ёзнага вучонага Паўла Восіпавіча сталі ўспрымаць пасля рэдагавання ім «Матэрыялаў для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраных афіцэрамі Генеральнага штаба» (1863). Баброўскі і сам быў аўтарам многіх артыкулаў — напрыклад, напісаў нарысы пра гісторыю Гродна, Слоніма, Зэльвы.

Баброўскі прыхільна пісаў пра беларускую мову, адзначаў яе старажытнасць, хоць далёка ад афіцыйнай русіфікатарскай рыторыкі ён адысці не мог. Інакш не зрабіў бы такую добрую кар'еру.

**Калі б матэрыялы Прыходскіх спісаў набылі той жа статус, што перапіс 1897 года, то магчыма, што наша радзіма мела б іншую назву, межы і лёс**

У Брэсцкім, Ваўкавыскім і Бельскім паветах яны ўтваралі адзіны арэал, размешчаны вакол Белавежскай пушчы. Магчыма, у асобных паселішчах там маглі захавацца рэшткі яцвяжскай самасвядомасці, тым больш што іх месца жыхарства блізкае да арэала рассялення старажытных яцвягаў. Але малаверагодна, што яцвягамі сябе ў той час лічыла вялікая частка гараджан Кобрына ці Антопаля. У анкеце з Дабраволі цяперашняга Свіслацкага раёна святар напісаў: «усе, згодна з апавяданнем гісторыі пана Паўлішчава, павінны паходзіць ад племені летаў і яцвягаў». Маецца на ўвазе падручнік польскай гісторыі Мікалая Паўлішчава, ▸

▶ у якім утрымліваліся звесткі аб старажытных яцвягах і ядвінгах — «народзе сармацкага паходжання, які жыў уздоўж Нарвы і Буга ў межах пазнейшага Падляшша». Не выключана, што менавіта гэтая праца паўплывала на погляды святароў.

На карысць кніжнага паходжання назвы «яцвягі» кажа і тое, што іншых сведчанняў існавання гэтага этноніма ў сярэдзіне XIX стагоддзя не выяўлена. Больш за тое, публікацыя вынікаў анкетавання выклікала недавер навуковай грамадскасці менавіта з прычыны згадкі яцвягаў. Павел Баброўскі, аўтар грунтоўнага апісання Гродзенскай губерні, неаднаразова падкрэсліваў, што ўяўленні аб існаванні яцвягаў у ягоны час — грубая памылка, бо яны цалкам зніклі.

### Сціплая таблічка

У 1863 годзе ў «Запісках Расійскага геаграфічнага таварыства» выйшаў артыкул Міхаіла Лябёдкіна «Пра рассяленне плямёнаў заходняга краю Расійскай імперыі». Публікацыя была заснаваная на матэрыялах Прыходскіх спісаў.

Кім быў Лябёдкін, мы сёння, на жаль, не ведаем. Аднак няма сумненняў, што гэты чалавек зрабіў тытанічную працу: уручную, без якіх-небудзь вылічальных прыстасаванняў апрацаваў звесткі з некалькіх тысяч анкет. Праца не толькі цяжкая, але збольшага і няўдзячная. Вынікі некалькіх месяцаў упартай працы змясціліся ў сціплых памерах табліцы. Чытачоў у яе было няшмат, а тыя, хто прачытаў, у тым ліку і згаданы Павел Баброўскі, адрэагавалі рэзка адмоўна ці здзекліва-іранічна.

Пакпіць сапраўды было з чаго. Не толькі са знойдзеных у Беларусі крывічоў, бужан і яцвягаў. Украіна ўвогуле, згодна з Лябёдкіным, была заселеная палянамі, драўлянамі, улічамі, ціверцамі і г.д.

Артыкул тым не менш передрукавалі ў «Весніку Паўднёва-Заходняй і Заходняй Расіі», у дадатку да «Мінскіх губернскіх ведамасцяў». А пасля пра яго забыліся. Гэта тыповы лёс статыстычных ведаў, не санкцыянаваных уладай.

А каб не забыліся? Мне асабіста не падабаецца імператыў «гісторыя не мае ўмоўнага ладу». Калі б матэрыялы Прыходскіх спісаў набылі той жа статус, што і, напрыклад, перапіс 1897 года, то цалкам магчыма, што наша радзіма мела б іншыя межы, назву і лёс. ◆


FACEBOOK.COM

**«Ні гукаў матацыкла, ні дзіцячага віскату зубры не пужаліся...**
І мы, дзеці, зуброў не баяліся зусім. Частавалі іх гароднінай, гладзілі і праводзілі да наступнай вёскі».

# Па вуліцах зубры хадзілі...

*Разгадка прыроды: з чым былі звязаныя незвычайныя міграцыі зуброў у 1970–1980-я*

**Калі гэты фотаздымак пэўны час таму з'явіўся ў сацыяльных сетках, многія не верылі сваім вачам. Можа, гэта проста містыфікацыя, зробленая пры дапамозе фоташопа? Ці, можа, тут ідуць здымкі нейкага кіно з ручным зубром у галоўнай ролі? На самай справе, нічога падобнага — сцэнка хоць і дастаткова рэдкая, але цалкам рэальная, не пастановачная. Пішуць Юрый Тамковіч і Аляксандр Пашкевіч.**

Як толькі здымак быў апублікаваны, адразу ж у каментары пасыпаліся ўспаміны людзей, якія некалі самі ці то ў дзяцінстве, ці то ўжо ў сталым узросце на свае вочы бачылі зуброў, якія хадзілі па вёсках, а многія з імі і непасрэдна кантактавалі.

**Зубр еўрапейскі (*Bison bonasus*)** апошні прадстаўнік дзікіх быкоў у Еўропе, самы буйны і цяжкі сысун на еўрапейскім кантыненце. Даўжыня тулава дарослых быкоў можа дасягаць 3 м, а вышыня ў карку — 2 м. Калісьці зубры засялялі вялікую прастору ад Пірэнейскага паўвострава да Заходняй Сібіры, але да пачатку XX стагоддзя з-за інтэнсіўнага палявання засталіся толькі ў Белавежскай пушчы і на Каўказе. Апошні вольны белавежскі зубр быў забіты ў 1921 годзе, каўказскі — у 1927-м. Існаванне цяперашняга ўжо адносна немалога зубрынага пагалоўя — вынік мэтанакіраванай працы навукоўцаў па аднаўленні віду з некалькіх дзясяткаў жывёл, якія да 1920-х гадоў ацалелі ў заапарках свету. Да Другой сусветнай вайны гэтая праца вялася ў Польшчы, якой тады належала ўся Белавежская пушча, а пасля вайны, калі пушча была падзеленая дзяржаўнай мяжой, да яе далучыліся таксама вучоныя з СССР, у тым ліку, натуральна, і беларускія.
Па стане на канец 2018 года ў свеце налічвалася 7 532 зубры, з іх вольных — 5 368 і паўвольных — 454. Беларусь выйшла на першае месца па іх колькасці — 1 937 асобін, далей ішлі Польшча — 1 820 зуброў, Расія — 1 396 і Германія — 562.
У апошнія дзесяцігоддзі ў нашай краіне ідзе актыўнае рассяленне зубра з Белавежскай пушчы ў іншыя прыдатныя для яго жыцця месцы. У выніку акрамя найбуйнейшай Белавежскай папуляцыі на дадзены момант існуюць яшчэ 10: Барысаўска-Бярэзінская, Азяранская, Налібоцкая, Палеская, Асіповіцкая, Азёрская, Ляскавіцкая, Найдзянская, Краснаборская і Дзятлаўская. Неўзабаве плануецца таксама стварэнне Чэрыкаўскай папуляцыі на ўсходзе краіны.
Сучасныя тэхналогіі дазваляюць круглаасутачна назіраць за жыццём зуброў у Белавежскай пушчы анлайн.



Відэакамера ўсталяваная на лясной паляне на паўночнай ускраіне польскай часткі пушчы. На гэтым месцы леснікі зімой выкладаюць корм для зуброў, таму звяры прызвычаіліся рэгулярна яго наведваць і праводзіць тут шмат часу.

## Звычайна з зубрамі сутыкаліся жыхары сельскай мясцовасці. Але маглі яны заходзіць і ў гарады

Прытым было гэта нават не ў ваколіцах Белавежскай пушчы, якая найперш у нас з зубрамі асацыюецца, а ў мясцовасцях, значна ад яе аддаленых.

### Дзе, калі, адкуль?

Чым больш збіралася сведчанняў, тым выразней акрэсліваўся рэгіён, на якім звычайна сустракалі лясных волатаў. Гэта раёны на ўсходзе Брэсцкай і поўдні Мінскай абласцей: Ганцавіцкі, Лунінецкі, Капыльскі, Слуцкі, Салігорскі, Любанскі... А час сустрэч –1970-я і 1980-я, вясна ці лета.

Зубры ў Беларусі ў той час жылі ўжо не толькі ў Белавежскай пушчы. У 1974 годзе аднаго самца і чатырох самак прывезлі з Прыокска-Тэраснага запаведніка ў Расіі ў Бярэзінскі біясферны запаведнік. Але гэтых звяроў усё цалкам задавальняла і на новым месцы. Вышэйакрэслены ж рэгіён наведвалі белавежскія зубры, пераадольваючы па 200 з лішкам кіламетраў.

У пераважнай большасці выпадкаў з імі сутыкаліся, натуральна, жыхары сельскай мясцовасці. Але маглі яны заходзіць і ў гарады. Як, напрыклад, у райцэнтр Любань, дзе з зубром у 1985 годзе сустрэлася мастачка Алена Уладыка. Паводле яе ўспамінаў у фэйсбуку, «у той час Любань была больш вёскай, толькі плошча з Леніным, рэстаран, Дом культуры ды ўнівермаг нагадвалі пра гарадскі статус». Прыйшоўшы аднойчы з працы, тагачасная настаўніца мясцовай школы пабачыла: «Каля двухпавярховага інтэрната, дзе я жыла, стаіць зубр. Народ спачатку баяўся да яго падысці, але потым асмялеў, і пачалі яго яблыкамі карміць — цэлы мех скармілі. Зубр быў вельмі вялікі, руку падымеш — і да гарба не дастаць. Праз некаторы час звер улёгся спаць на ганку, а мы лазілі на другі паверх па пажарнай лесвіцы паглядзець. Раніцай я пайшла працаваць, а вечарам мне расказалі пра эвакуацыю зубра пажарнымі, сама яе не бачыла».

Фіксаваліся падобныя візіты і ў найбуйнейшыя цэнтры рэгіёна — Слуцк і Салігорск. Пра Слуцк успамінае ў фэйсбуку Марыя Міранчык: «Жывёліна рухалася ўздоўж ракі Случ і выйшла на вуліцу Камсамольскую. Было таксама шматлюдна — смелыя стараліся нават хлебам пакарміць». А ў Салігорску зубр нібыта нават разбіў вітрыну ў адной з крамаў.

### Мірныя, але з характарам

Зубры, як правіла, паводзілі сябе мірна і спакойна. Хоць, пабачыўшы іх упершыню, ▸

▶ людзі, натуральна, пужаліся ды асцерагаліся. Але бачачы, што звер не праяўляе ніякай агрэсіі, смялелі і падыходзілі да яго бліжэй, а пасля нават гладзілі і кармілі з рук. Самі ж зубры людзей зусім не баяліся: хоць яны і жывуць у запаведніках на вольным выпасе, але з самага дзяцінства знаходзяцца ў непасрэдным кантакце з чалавекам, які іх ахоўвае, даглядае і падкормлівае. Таму яны, у адрозненне ад многіх іншых лясных істот, не чакаюць ад яго варожых дзеянняў.

Ідылічная карціна з загалоўнага фота не была штодзённай, але не належала і да выключнай рэдкасці. Журналістка Іна Задзвінская, якая лета праводзіла ў бабулі ў вёсцы Славінск на Случчыне, згадвае, што «праход праз вёску зубра лічыўся ў тыя гады з'явай не сказаць каб шараговай, але даволі звычайнай». Звера суправаджаў дзіцячы крык і пастаянныя спробы малечы накарміць яго смакоткамі: «Ні гукаў матацыкла, ні дзіцячага віскату зубры не пужаліся... І мы, дзеці, зуброў не баяліся зусім. Частавалі іх гароднінай, гладзілі і праводзілі да наступнай вёскі».

## Дзеці да зуброў прывыклі і зусім іх не баяліся

Васіль Лісейчыкаў, які ў тыя гады займаў пасаду ляснічага Дзяніскавіцкага лясніцтва Ганцавіцкага раёна, пацвярджае гэта: «Хадзіў па вёсцы, мясцовыя яблыкі яму насілі. Ён іх любіў... Проста з рук еў — не баяўся».

Праўда, калі людзі зусім трацілі асцярожнасць і праяўлялі залішнюю фамільярнасць, жывёліна магла і нагадаць, што пэўныя межы ўсё ж такі захоўвацца мусяць. «Расказваў знаёмы ляснік, — дзеліцца Васіль Лісейчыкаў, — што тады якраз Вялікдзень быў, пайшоў зубр кіламетраў за пяць, у суседнюю вёску Красынічы. А ў лесніка быў сват, па мянушцы Ежык. Яны падпілі добра, бо свята ж. Ляснік і кажа: “Пайшлі я табе, сват, пакажу, у мяне ў садзе зубер ляжыць” (гэта яны так цікава зубра называюць). І сапраўды, пад яблыняй “гара” ляжыць. Яму туды моркву насілі і іншае. Ну і вось, гэты зубер устаў, а да яго Ежык падышоў, кажа: “Глядзі, амаль ручны”, і хлопае звера па шыі. А той як матануў галавой, дык Ежык адскочыў на некалькі метраў. Ляснік і гаворыць: “Пайшлі, сваток, лепш за стол, бо звер ёсць зверам”».

Бывалі і выпадкі зусім няўдалай камунікацыі — калі звер чамусьці быў не ў гуморы. Паэт і бард Валерый Пазнякевіч, ураджэнец вёскі Сінкевічы Лунінецкага раёна, згадаў пра свой досвед з пачатку 1980-х: «Адзін з вяскоўцаў паклаў на адну руку бохан хлеба, а складзенымі пальцамі другой рукі пачаў рабіць адпаведныя рухі і клікаць да сябе “бычка”. Зубр раззлаваўся і перакінуў Івана Гарагляда цераз плот. У выніку чалавек атрымаў пералом рукі».

Людской гаспадарцы зубры вялікай шкоды, паводле ўспамінаў, не рабілі, тым больш што звычайна людзі іх самі ахвотна падкормлівалі. Хоць эксцэсы, бывала, здараліся і тут. Іна Задзвінская згадвае пра выпадак, калі зубру, які чарговы раз ішоў па вёсцы, захацелася есці, а пытацца ў кагосьці дазволу ён не палічыў патрэбным: «Ён спакойна зайшоў у першы агарод, што яму патрапіў, і з'еў там усё, што мог, пасля пачасаў бакі аб яблыню і пайшоў далей. Увесь гэты час людзі бегалі вакол яго і спрабавалі прагнаць, але бык спакойна еў і не звяртаў на іх аніякай увагі».

### Прагныя да волі

Часам людзі, усведамляючы, з аднаго боку, небяспеку, якую патэнцыйна ўяўляла хай сабе і мірная, але ўсё ж такі дзікая, а таму непрадказальная магутная жывёліна, а з другога — магчымую пагрозу ёй самой ад ліхіх людзей ды іншых фактараў, спрабавалі спыніць зубрынае вольнае шэсце. Але задача гэта была вельмі няпростая. Васіль Лісейчыкаў апісваў выпадак, калі, сустрэўшы зубра ўпершыню, яны з калегамі здолелі загнаць яго ў пусты калгасны загон для кароў, абнесены плотам вышынёй два з паловай метры. Загнаць то загналі, але неўзабаве звер лёгка пераскочыў цераз той плот, нават яго не зачапіўшы. Прытым зрабіў гэта без разгону. «Мы так і ёкнулі!».

Падобныя ўспаміны і ў Іны Задзвінскай: «Я яшчэ памятаю, як пару разоў, калі егер спрабаваў зачыніць яго ў загоне, каб паведаміць пра здарэнне куды належыць, зубр з'ядаў усё, што яму далі, ламаў вароты і сыходзіў. Ламаў меланхалічна, без агрэсіі, проста рабіць яму тут не было чаго».

Таму звычайна зубры, проста прайшоўшы праз вёску ці правёўшы ў ёй ці каля яе дзень ці два, працягвалі свой шлях далей, дзівячы, радуючы ці пужаючы людзей навокал. Васіль Лісейчыкаў акрэслівае нават дакладны маршрут па тэрыторыі свайго лясніцтва: Ганцавічы — Агарэвічы — Шашкі —

Красынічы — Дзяніскавічы — Будча — Чудзін. Але як жывёлы адыходзілі далей, то іх след губляўся. Дзе і як зубрынае падарожжа завяршалася, ніхто дакладна сказаць не змог, у лепшым выпадку пераказваліся чуткі.

Як правіла, чуткі тыя былі не надта пазітыўныя, бо ў адпаведнасці з імі чырванакніжныя волаты ўрэшце гінулі. Васіль Лісейчыкаў дапускаў, што зубр, з якім ён сам меў справу, стаў у выніку ахвярай браканьераў: «Хадзіў ён таксама па вёсках Салігорскага раёна, а потым на Лунінец накіраваўся. А пасля гэтага яго ніхто не бачыў. Як мае леснікі казалі: "Як да Чучавіч (вёска ў Лунінецкім раёне) дойдзе, дык нікуды не пойдзе". У Чучавічах былі вельмі жорсткія браканьеры». А Валерый Пазнякевіч, спасылаючыся на пачутае ад мясцовых жыхароў, сцвярджае, што пабачаныя ім два зубры неўзабаве налізаліся салетры на калгасным полі ў раёне вёсак Вострава і Намакрава таго ж Лунінецкага раёна непадалёк ад ягоных Сінкевічаў і таксама завяршылі сваё жыццё раней часу.

### Што іх гнала?

Навукоўцы-біёлагі, якія спецыялізуюцца па зубрах, нічога незвычайнага ў такіх зубрыных падарожжах не бачаць. І тлумачаць іх самой прыродай гэтай жывёліны, якая не зусім адпаведная нашым стэрэатыпам. Павел Веліграў, навуковы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, звяртае ўвагу, што зубр на самай справе ад пачатку не быў лясным жыхаром, па сваёй прыродзе гэта звер адкрытых прастораў, накшталт свайго амерыканскага блізкага родзіча бізона, колішняга валадара бяскрайніх прэрыяў. У лес зубра загнаў чалавек, але колішнія прыродныя інстынкты ў яго ўсё адно, прынамсі часткова, захаваліся. Такія жывёлы адметныя сярод ▶


FACEBOOK.COM

«Хадзіў па вёсцы, мясцовыя яблыкі яму насілі. Ён іх любіў... **Проста з рук еў — не баяўся».**

▸ іншага здольнасцю да міграцыі на значную адлегласць, калі на ранейшым месцы пражывання павялічваецца ўнутрывідавая канкурэнцыя, у прыватнасці не хапае партнёраў для спарвання і размнажэння.

## Зубр ад пачатку не быў лясным жыхаром, па сваёй прыродзе гэта звер адкрытых прастораў




**Іна Задзвінская**, канец 1970-х – пачатак 1980-х (Славінск, Леніна); **Васіль Лісейчыкаў**, 1985 (Ганцавічы, Агарэвічы, Шашкі, Красынічы, Дзяніскавічы, Будча, Чудзін, Вялікія Чучавічы, Салігорск, Пагост, Цясова); **Марыя Міронычык**, 1986–1987 (Слуцк); **Алег Мяховіч**, 1976–1977 (Мажа, Вусава); **Валерый Пазнякевіч**, пачатак 1980-х (Сінкевічы, Вострава, Намакрава); **Андрэй Саротнік**, 1982 ці 1983 (Доўгае); **Анатоль Трафімчык**, 1981 (Вялікія Круговічы); **Алена Уладыка**, 1985 (Любань).

Калі б зубрыных статкаў было шмат і яны размяшчаліся недалёка адзін ад аднаго, то міграцыя адбывалася б паміж імі і не кідалася людзям у вочы. Але паколькі статкаў мала і адлегласці паміж імі вялікія, то зубры часам проста сыходзяць у свет, нават за сотні кіламетраў. І назад яны па ўласнай волі вяртацца ўжо, хутчэй за ўсё, не будуць.

### Дзікае і свойскае

Тое, што нашы зубры маглі апынуцца так далёка ад сваёй малой радзімы менавіта ў пошуках «шлюбнага» партнёра, сведчаць і згадкі відавочцаў пра іх паводзіны. Васіль Лісейчыкаў успамінае, што «бык увесь час да фермаў прыбіваўся, сяброўку, напэўна, шукаў сабе». А Іна Задзвінская распавядае цэлую вясёлую гісторыю, якая адбылася з яе вясковымі суседзямі:

«Гаспадыня пакінула дома карову, якую збіралася весці да быка (прыйшоў час), і тут наш вялізны палавaспелы самец павольна пацягнуў ноздрамі паветра і спыніўся як укопаны каля той каровы, якая меланхалічна жавала сваю жуйку і не звяртала ўвагі на брутальнага прыгажуна. Гаспадыня каровы вельмі ўстрывожылася і пачала ліхаманкава запіхваць жывёліну ў хлеў, але тая, відаць, толькі рабіла выгляд, што ёй усё адно, сыходзіць не хацела. Мужыкі, што за гэтым назіралі, рагаталі на ўсё сяло і прапаноўвалі зрабіць эксперымент з дзікай прыродай. Тут жа прыгадваліся выпадкі, калі свойскія свінні ўцякалі ў лес, а потым нараджалі паласатых калматых парасят з добрым здароўем.

Але гаспадыня каровы была няўмольная, яна такі прымусіла карову пайсці ў хлеў. А каб адвабіць зубра, паднесла яму проста пад нос кош з гароднінай, прыгатаванай для каровы. Зверху ў кашы ляжаў вялізны цукровы бурак, парэзаны на кавалкі. Як ні дзіўна, але спакуса падзейнічала, звер павольна пайшоў за кошыкам, жуючы бураковыя кавалкі. Расчараванню вяскоўцаў не было мяжы. Гэтую гісторыю яны пасля яшчэ доўга прыгадвалі са словамі: «А вось калі б... была ў цябе, Маня, зараз такая карова!»

## Літаратурны мігрант

Зубр, які міграваў за сотні кіламетраў на ўсход ад сваёй роднай Белавежскай пушчы, выступае ў адным з класічных твораў беларускай літаратуры для дзяцей — аповесці Янкі Маўра «Палескія рабінзоны». Аповесць была напісана ў 1930 годзе, і ў адпаведнасці з духам таго часу блуканне жывёліны з «буржуазнай» Польшчы ў Савецкую Беларусь разглядаецца праз палітыка-ідэалагічную прызму. Увогуле ж, сюжэт гэты быў цалкам выдуманы: да таго часу зуброў у жывой прыродзе ўжо дзясятак гадоў як не было. Але сімвалічна, што літаратурны персанаж блукаў, відаць, недзе не надта далёка ад тых мясцін, куды праз паўстагоддзя дабіраліся ягоныя ўжо цалкам рэальныя суродзічы:

«У такім настроі прыйшлі яны на варту і ў пяты дзень раніцою. А праз паўгадзіны пачулі нейкі тупат...

...Вось ужо нешта мільгае між дрэў, вялікае, чырвонае. Усё выразней, выразней...

— Зубр! — у адзін голас крыкнулі хлопцы.

Нейкі ўрачысты настрой ахапіў таварышаў. Яны бачылі жывога зубра, якіх у межах Савецкай Беларусі ўжо няма. Перад 1914 годам у Белавежскай пушчы было яшчэ 400 зуброў, але за час вайны з іх засталося ўсяго толькі каля 20, ды і тых немцы вывезлі да сябе.

— Якім жа чынам ён трапіў сюды? — дзівіўся Мірон.

— А ты не памятаеш, як некалькі часу назад пісалі ў нашых газетах, што ў нас бачылі аднаго зубра? Кажуць, што ён перабег да нас з Польшчы. Белавежскую пушчу польскія паны прадалі англічанам, і тыя сякуць і вывозяць лес. Трэба думаць, што немцы не паспелі вылавіць усіх зуброў да апошняга. Мусіць, хоць адзін застаўся. І вось цяпер, калі пачалі высякаць яго родную пушчу, ён і ўцёк да нас, дзе лес гэтак не нішчаць.

— Я гэта чытаў, але пасля таго больш нічога не было чуваць аб ім.

— І вось ён перад табою. Не дзіва, што яго тут ніхто не бачыў.

Магутны звер ішоў неяк трывожна. То спыніцца, то пачне нагамі рыць зямлю, то схіліць сваю галаву і пачне сапці. Плечы яго здаваліся нейкай скалой, за якой хавалася рэшта цела. Горб не толькі не шкодзіў, але, здавалася, упрыгожваў яго. Хлопцы ўявілі сабе, як павінен быў адчуваць сябе гэты зубр, адзін, без сям'і і таварышаў, далёка ад сваёй радзімы.

— Апошні зубр! — прашаптаў Мірон.

— Апошні! — адгукнуўся Віктар.

Раптам грымнуў стрэл!..

Зубр кінуўся ўбок, стаў на дыбы і зваліўся пярэднімі нагамі на калені. У гэты момант разлёгся другі стрэл...

Зубр паспрабаваў быў устаць, але захістаўся і ціха паваліўся на бок, нібы вялікі падсечаны дуб...».

Але Павел Велігураў сумняецца, што з эксперыменту атрымалася б нешта добрае. Чыста фізічна зубры могуць скрыжоўваюцца з хатнімі каровамі, і ад іх цалкам рэальна атрымаць такі гібрыдны прыплод. Такія эксперыменты яшчэ з XIX стагоддзя праводзяцца ў Польшчы, і ёсць нават асобнае слова, якім завуцца цяляты ад такога «шлюбу», — зубронь (*żubroń*). Але паколькі цяляты ад зубра вельмі вялікія, то яны не могуць нарадзіцца самастойна, карове даводзіцца рабіць кесарава сячэнне. Наўрад ці звычайнаму вясковаму гаспадару патрэбна такое сумнеўнае шчасце.

Ды і ўвогуле, мець справу з зубронямі нават фізічна небяспечна, бо характар яны пераймаюць, хутчэй, не ад каровы, а ад зубра: нават выгадаваныя ў хатніх умовах, цалкам свойскімі не робяцца. Нездарма, нягледзячы на працягласць доследаў, якія праводзяць польскія навукоўцы са скрыжаваннем відаў, непасрэдна ў сельскую гаспадарку яны так пакуль і не ўводзяцца. ◆



**Зубронь** — дзіця дзікага быка і свойскай каровы.

SHUTTERSTOCK.COM, BY IRENA IRIS SZEWCZYK

# Беларускі кветнік

**Лілейнік — палоскай абапал агароджы. Півоні ад дарогі. І залатыя шары каля бурштынава-шэрай хаты... Пра мілыя вобразы роднага краю піша Марына Яўсейчык.**

Як выглядаюць кветнікі ў розных абласцях Беларусі? У пошуках адказу на гэтае пытанне супрацоўнікі Цэнтральнага батанічнага саду 20 гадоў таму пачалі экспедыцыю па Беларусі. Вандроўкі працягваліся дзесяцігоддзе, зафіксавалі 120 відаў дэкаратыўных травяністых раслін і 3 віды старажытных ружаў.

Па выніках выйшла кніга «Дэкаратыўныя травяністыя расліны культурнай флоры Беларусі». Таксама ў Цэнтральным батанічным садзе НАН Беларусі была створана адмысловая экспазіцыя «Беларускі кветнік», дзе растуць 25 відаў і сартоў тыповых для нас раслін з прыгожымі кветкамі. Іх насенне збіралі па ўсёй Беларусі.

## І старажытныя ружы

Даследчыкі выявілі, што ў вясковых кветніках найчасцей сустракаюцца сарты астры новабельгійскай (*Aster novi-belgii*), шпарагус (*Asparagus officinalis*), белы рамонак (*Chrysanthemum maximum*), іскаркі турэцкія (*Dianthus barbatus*), дзіцэнтра цудоўная (*Dicentra spectabilis*), старадаўнія сарты касачоў германскіх (*Iris x hybrida*), лілейнік бура-жоўты (*Hemerocallis fulva*), лілеі галандская і тыгравая (*Lilium*



SHUTTERSTOCK.COM, BY LESZCZEM

**Ружа каля сядзібы Адама Міцкевіча** ў Завоссі пад Баранавічамі.

*hollandicum, Lilium tigrinum*), ліхніс халцэдонскі (*Lihnis chalcedonica*), сарты півоняў малочнакветкавых (*Paeonia lactiflora*) і лекавых (*Paeonia officinalis*), флёкс мяцёлчаты (*Phlox paniculata*), рудбекія залаты шар (*Rudbeckia laciniata «Goldball»*), аксаміткі (сарты відаў *Tagetes*), календула лекавая (*Calendula officinalis*), вяргіні, шыпшына, бэз і старажытныя ружы з чырвонымі, белымі і ружовымі кветкамі. Пералічаныя расліны і складаюць аснову беларускага кветніка.

Сапраўднай знаходкай сталі старадаўнія сарты флёкса мяцёлчатага белага, светла-бэзавага і малінавага колераў. У калекцыі Цэнтральнага батанічнага саду ён з'явіўся толькі ў 2007 годзе і цяпер захоўваецца як гістарычны экспанат, які можа стварыць генафонд сучасных сартоў.

## Мода на касмею

На кветкі існуе мода, яна мяняецца. Старэйшыя людзі памятаюць, як у 1930–1950-я былі модныя касмея і рудбекія «залатыя шары». З 60-х сталі папулярнымі гладыёлусы і цюльпаны. У 80-я пачалі вырошчваць шматгадовыя расліны на камяністых горках. А ў апошняе дзесяцігоддзе аддаюць перавагу новым сартам лілей, касачоў і лілейнікаў.

У Гродзенскай вобласці часцей, чым у іншых абласцях краіны, вырошчваюць лазавіцу кропкавую (вербазелле, *Lusimachia punctate*).

У кветніках Магілёва — старадаўні лілейнік бура-жоўты (*Hemerocallis fulva*). Ён глядзіцца ўзрушальна на фоне хвойных раслін і разам з адналетнікамі. Лілейнікі непатрабавальныя, іх кусты доўга захоўваюць дэкаратыўнасць, іх можна не перасаджваць хоць 20 гадоў.

А адну з самых старадаўніх раслін беларускіх кветнікаў, ліхніс халцэдонскі, традыцыйна масава вырошчваюць у Слоніме. Вы, можа быць, ведаеце ліхніс пад народнымі назвамі «зоркі», ці «светнік», ці «панская фанабэрыя».

У вясковых кветніках пераважаюць старадаўнія віды дэкаратыўных раслін. Гэта паказалі даследаванні ў Віцебскай вобласці. У Глыбокім, Мёрах, Бешанковічах часцей вырошчваюць мыльнянку (*Saponaria officinalis L.*), а з аднагодкаў — аксаміткі, календулу, настурку (*Tropaeolum majus L.*), іберыс аднагадовы (*Iberis amara*), касмею (*Cosmos bipinnatus L.*), петуніі (*Petunia x hubrida hort.*).

## Раструха, бялява, піванея

Пра паэтычнасць і багатую фантазію нашага народа, якая праяўляецца ва ўменні па-свойму называць замежныя расліны, яшчэ ў 1924 годзе пісала грамадская дзяячка Зоська Верас. У «Батанічным слоўніку», складзеным ёй, былі сабраныя шматлікія народныя назвы раслін.

## Кожнай кветцы — сваё месца

Звычайна ў беларускіх кветніках каля рагоў дома высаджвалі шпарагус. Пад вокнамі чаргавалі кусты півоняў, лілейнікаў, флёксаў, лілей, ліхніса халцэдонскага і касачоў. З'явілася традыцыя высаджваць лілейнікі ў адзін шэраг, часта — абапал плота. Каля плота вырошчвалі і календулу, аксаміткі, рудбекію, вяргіні, мальвы.

Такія кампазіцыі захоўваюцца і цяпер. Толькі побач са старажытнымі кветкамі бабуль можна ўбачыць новыя віды ▶



ФОТА НАТАЛЛІ ЛУНІНАЙ

**Залатыя шары** ў Кобрынскім раёне.

**Рудбекіі і півоні.** Садзіць кветкі абапал плота было тыпова для старых сядзіб.

SHUTTERSTOCK.COM, BY SHARNIKAU ULADZIMIR

раслін з суседніх еўрапейскіх краін: ампельныя петуніі, розныя сарты лілей, асцільбы, стракаталістую снітку, багаткі, клемацісы і гартэнзіі.

## Цыганы, гармонікі, палякі…

Многім замежным кветкам беларусы далі, акрамя арыгінальных, свае ўласныя назвы.

**Дзіцэнтру** называюць завушніцамі, разбітым сэрцам, гарачым сэрцам.

**Рудбекію** «залаты шар» — зімовымі вяргінямі, дзікімі вяргінямі, вячэрнікам, буснёвымі лапкамі.

**Шпарагус** — ёлачкай або хвойкай, шпарагай ці шпарагусам, а яшчэ месцамі — салерай.

**Касачы** — пятушкамі, матылямі і гармонікам.



ФОТА АНДРЭЯ ЛЫНЬКО

Хата ў Сталовічах пад Баранавічамі. **Півоні ля плота.**

**Прымулу** — ключыкамі, баранчыкамі, першынцамі ды вяснянкай.

**Флёксы** — вячорнікамі, вечарынкамі і паненскім вечарам, цыганамі і плёксамі.

**Календулу** — кракосамі, пуцікамі, нагаткамі і нюхцікамі, міхтыкамі.

**Аксамітки** — гваздзікамі і туркамі, кулакамі, жыдзікамі і шапачкамі.

**Ліхніс** называюць гаштай, зоркамі, светнікам і чырвоным клёксам.

**Гіпсафілу мяцёлчатую** — сняжком, нявестай, багатай нявестай.

**Лілею Тунберга і тыгровую** называюць пачканосамі, смаліносамі і мазуцікам. Бо, калі іх панюхаеш, на носе ці на адзежы застаецца пылок. За падабенства




**Лілейнік старажытны** ў Зэльве.

## Давыд-гарадоцкія кветнікі

У Беларусі ёсць мясцовасці, жыхары якіх здаўна вырошчвалі кветкі і жылі з гандлю іх насеннем. Найбольш славіцца гэтым горад Давыд-Гарадок на гістарычнай Тураўшчыне, а цяпер у Столінскім раёне. Гарадчукі здаўна і пры ўсіх уладах вялі кветкавы бізнэс, засаджваючы кветкамі ладную частку агародаў, а пасля ў сезон возячы насенне па кірмашах тых краін, грамадзянамі якіх з'яўляліся.

Выхадзец з гэтага горада, паэт Леанід Дранько-Майсюк, неаднаразова звяртаўся да гэтай асаблівасці родных мясцін у сваіх творах. У выдадзенай у 1994 годзе кнізе «Акропаль», прысвечанай падарожжам па Еўропе, ён хоць і прозай, але надзвычай паэтычна пісаў пра давыд-гарадоцкія «цікеткі». Гэтыя маленькія фанерныя шыльдачкі з выявамі і назвамі розных кветак мясцовыя гандляры паўсюль вазілі з сабой, а некаторыя з іх з'яўляліся сапраўднымі творамі мастацтва:

«Я збіраюся ў Парыж і бяру з сабою цікеткі. Маляўнічым веерам яны ляжаць на маім пісьмовым стале. Петунія, коўрыкі, настуркі, сальвія, карона, кларкія, аквілегія... На маім пісьмовым стале — мініяцюрны сад, густы гаспадарчы жывапіс, свядомая спрошчанасць фактуры, рытмічныя контуры, дэкарацыйна-плоскаснае пісьмо, заўсёдная святочнасць і супакаенне. На кожнай цікетцы — кветка, некалькі кветак або цэлае суквецце.

Не стульваючы вуснаў, вымаўляю тры сінічныя склады ці-кет-ка, і па языку струменіць гальская прахалода.

Цікетка — французскае *etiquette* у давыд-гарадоцкім вымаўленні.

У дзяцінстве цікеткі былі маімі цацкамі. З іх я будаваў фінскія домікі, кітайскія пагады, нават варажыў на іх — гэта значыць глядзеў на цікеткі ўважліва, па-дзіцячы сур'ёзна, а белыя пялёсткі абрываў з кветак, папярэдне выразаных з блакнотнага лістка...

...Васнянікі — гандляры насеннем кветак — у польскія часы выстаўлялі на базарах над сваімі доўгімі сталамі плакаты з надпісам: *Nasiona ogrodnicze*. Пасля здагадаліся расквеціць насенныя сталы маляванай фанерай. Так і з'явіліся цікеткі — мініяцюрны наіўны жывапіс, старанны рэкламны служка вечна капрызнай Флоры.

Ні ў альбомы, ні ў музеі цікеткі пакуль што не трапілі. Яны ўсё яшчэ на базарах — кожная ў сваёй торбе, у сваім насенні. Каб упэўніцца, што гэта так, варта схадзіць на тую ж мінскую Камароўку ці на які іншы рынак.

Стыль цікеткі народжаны давыд-гарадоцкім клопатам; стыль не прыдуманы, а таленавіта ўгаданы, навеяны прысутнасцю блізкай Еўропы, таму цікетка — інтуітыўны працяг фавістычнага і прымітывісцкага жывапісу, маціcаўска-русаісцкае каляровае водгулле, а таксама — лагодны павеў рускага авангарду. Бубновавалетавец Ілья Машкоў цікетачна намаляваў сваю «Бягонію», Павел Кузняцоў — «Чырвоныя кветкі», а Марцірос Сар'ян адзін з нацюрмортаў 1913 года...

Сыса, Тукін, Цубер — прозвішчы давыд-гарадоцкіх мастакоў, але гэтыя прозвішчы не прачытаеш на цікетках, бо на цікетках пішуцца толькі назвы кветак.

Я бяру ў Парыж самае вартаснае і няхай запознена, але ўсё ж узбагачу жывапісную калекцыю Апалінэра, да дзікай астры Маціса далучу кветкі, прыручаныя давыд-гарадоцкімі майстрамі...».

Кветкавай тэмай шчодра прасякнутая і паэзія Дранько-Майсюка, разнастайныя кветкі згадваюцца ў многіх ягоных рамантычных вершах:

«У Вашым голасе квітнеюць астры,
Якіх не бачыў я раней.
Мне зразумела ўсё і ўсё не ясна...
У Вашым голасе квітнеюць астры,
І кожнай кветцы Бог сказаў: квітней».

Пра Давыд-Гарадок чытайце больш у кнізе «Кветкавы край Беларусі» Леаніда Дранько-Майсюка і Анатоля Клешчука, якая выйшла сёлета на Паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа.



## Першы батанічны сад

Ужо ў 1758 годзе ў радзівілаўскім парку Альба ў Нясвіжы вырошчвалі лаванду, самшыт, белы бэз і рознакаляровыя іскаркі (гваздзікі). Але прафесійная дзейнасць па інтрадукцыі і стварэнні калекцый карысных раслін пачалася ў Гродне, у першым батанічным садзе. Яго запачаткаваў у 1775 годзе французскі медык і батанік Жан Эмануэль Жылібер для правядзення навуковых даследаванняў па батаніцы і фармакалогіі студэнтаў ветэрынарнай і медыцынскай школ.
У батанічным садзе сабралі лекавыя, фарбавальныя і дэкаратыўныя расліны, высадзіўшы іх па сістэме шведскага батаніка Карла Лінэя. Калекцыю саду папаўнялі новымі раслінамі з краін Еўропы і Амерыкі. Штосьці набывалі ў Еўропе, а штосьці атрымлівалі ў падарунак ад вядомых батанікаў. Так, Страсбургскі і Эдынбургскі батанічныя сады далі новыя віды ў абмен на адзінкі абарыгеннай флоры. А нямецкі навуковец і даследчык прыроды Петэр Сімон Палас падарыў Жыліберу расліны сібірскай флоры. Гродзенскі батанічны сад меў дагледжаны выгляд і прыцягваў увагу вандроўнікаў. Каб пераняць досвед кветкаводства, у Гродна шматразова прыязджаў ксёндз Ян Крыштоф Клюк, які заснаваў батанічны сад пры касцёле ў падляшскім горадзе Цехановец.
У 1781 годзе Жылібер пакінуў сваю пасаду, а медыцынскую каралеўскую школу перавялі ў Вільню. Туды, разам з бібліятэкай і калекцыяй мінералаў, перавезлі большасць раслін Гродзенскага батанічнага саду, які праіснаваў толькі 6 гадоў.
А цяпер той колішні сад называецца паркам Жылібера.



ФОТА НАТАЛЛІ ЛУНІНАЙ

**Флёксы і сонечнік.**

▸ лілеі з птушынай дзюбай кветку называюць дзюбамі. Ёсць яшчэ назвы «царскія кучары» або «царская карона» — за

ФОТА НАТАЛЛІ ЛУНІНАЙ

**Наталля Міхайлаўна Луніна**, супрацоўніца Цэнтральнага батанічнага саду, працягвае збіраць інфармацыю пра беларускія кветнікі і просіць дапамагчы ёй у гэтай справе. Дасылайце якасныя фотаздымкі раслін вашых кветнікаў, школьных і гарадскіх клумбаў на электронны адрас N.Lunina@cbg.org.by. Напішыце таксама, дзе і калі быў зроблены здымак, як называюцца сфатаграфаваныя кветкі ў вашай мясцовасці.

**Цяпер у Беларусі мода на мінімалістычныя кветнікі** з уплывам традыцыі японскіх садоў. Дом у прадмесці Мінска.

SHUTTERSTOCK.COM. BY HIV360

загнутыя ўверх пялёсткі. А на Гродзеншчыне сустракаецца назва «ласка святога Антонія».

**Амерыканскую касмею** называюць амерыканкай, матылькамі, зорачкай, цыганачкай, паннай лагадай без пасаду, капернікамі, палякамі, паненачкай і арлінымі вачыма.

**Астра новабельгійская**, якая цвіце позняй восенню, атрымала мясцовыя назвы «бабіна лета», «марозка», «зім-зялён» і «асеннікі».

Цяжка паверыць, што флёксы і «бабіна лета» — расліны амерыканскія, да нас іх завезлі толькі ў XX стагоддзі. Літаральна за стагоддзе экзоты сталі звычайнымі раслінамі. ◆

## Гербарыі Жылібера

Некаторыя расліны, што раслі ў першым нашым батанічным садзе, захаваліся, хоць і ў высушаным выглядзе, дагэтуль. Гербарыі Жылібера сёння знаходзяцца ў Інстытуце батанікі імя Мікалая Халоднага ў Кіеве. На пажаўцелых старонках скураных папак жывуць ільвіны зеў (*Anthyrhinum majus*), канна індыйская (*Canna indica*), гваздзік турэцкі (*Dianthus barbatus*), гваздзік садовы (*Dianthus caryophyllus*), лілейнік жоўты (*Hemerocallis flava*) і бура-жоўты (*Hemerocallis fulva*), лілея цыбуляносная (*Lilium bulbiferum*), нарцыс паэтычны (*Narcissus poeticus*), мак усходні (*Papaver orientale*), касач (*Iris sp. variegata*), рэзеда белая (*Reseda alba*), цынія (*Zinnia elegans*), аксамітка адхіленая (*Tagetes patula*) і іншыя кветкі XVIII стагоддзя. Некаторыя з іх можна ўбачыць у кветніках і сучаснай Беларусі.



ФОТА НАТАЛЛІ ЛУНІНАЙ

**Ліхніс халцэдонскі** з Гродзенскага саду Жылібера.




**Карціна Юліяна Фалата «Ашчэпнікі» (1890)** была напісаная на матэрыяле нясвіжскіх паляванняў Радзівілаў канца 1880-х, яшчэ бачныя апошнія акорды даўніх традыцый.

**Пра вартаўнікоў пушчаў і незаменных удзельнікаў каралеўскага палявання піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Сёлета споўнілася 80 гадоў трагічнай даце. 10 лютага 1940-га НКВД правёў імклівую аперацыю па высяленні з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны некалькіх дзясяткаў тысяч асаднікаў і служачых былой дзяржаўнай і прыватнай лясных вартаў разам з іх сем'ямі.

Адных толькі службоўцаў лясной варты з Беларусі было вывезена 17 561 чалавек. Большасць з вартаўнікоў былі спадчыннымі ляснымі службоўцамі, якія неслі сваю нялёгкую службу ад дзядоў-прадзедаў.

Праз лютыя маразы і нечалавечыя ўмовы перавозкі многія з дэпартаваных не даехалі да месцаў высылкі. Шмат хто з іх памёр у Сібіры, Казахстане, на Далёкім Усходзе ў наступныя гады, а большасць з тых, хто выжыў, праз армію Андэрса і іншымі шляхамі па вайне апынуліся не ў Беларусі. Перастала існаваць цэлая сацыяльная група са сваім укладам жыцця, светапоглядам, доўгай і годнай гісторыяй.

Разам з імі знікла традыцыйная шляхецкая культура палявання,

# АСОЧНІК

## Прафесія, якой больш няма

захавальнікамі якой яны, не ўсведамляючы гэтага, былі. Паваенная савецкая культура палявання, спрошчаная і мілітарызаваная, якая пануе ў Беларусі і цяпер, мае мала супольнага з той былой, «панскай».

Даўняя паляўнічая гаспадарка адыгрывала велізарную ролю ў жыцці грамадства ў цэлым, працуючы не толькі на арыстакратычныя забавы, але і з'яўляючыся першай арганізаванай формай аховы прыроды, а таксама самабытнай формай захавання гістарычнай памяці.

Вось памяці колішніх лясных вартаўнікоў і хочацца прысвяціць невялічкую дылогію. Першы артыкул — пра асочнікаў, самую старажытную катэгорыю лясной варты.

### Ходзіць асочнік па асоцы

Назва гэтай прафесіі паходзіць ад дзеяслова «сачыць» — назіраць. А першыя звесткі пра асочнікаў у Вялікім Княстве Літоўскім адносяцца да XIV стагоддзя. Іх абавязкам была ахова пушчаў вялікага князя (пазней караля) або магнатаў ад браканьераў, а таксама нагляд за звярынымі пераходамі і логавішчамі, прыкладны ўлік колькасці звяроў і птушак, падрыхтоўка паляванняў і дапаможны ўдзел у іх, нарыхтоўка дзічыны і адлоў звяроў для звярынцаў. Таксама асочнікі рыхтавалі паляўнічыя засідкі, рабілі загонныя агароджы і памосты.

За кожным асочнікам або іх групай (напрыклад, у Аўгустоўскай пушчы за чацвёркай) замацоўвалася **асока** — тэрыторыя адказнасці, за парадкам на якой яны мусілі сачыць. Абходы чацвёркі асочнікаў па асоцы ў XIV–XV стагоддзях, калі пушчы былі зусім мала заселеныя і бездарожныя, маглі цягнуцца некалькі тыдняў.

## Назва гэтай прафесіі паходзіць ад дзеяслова «сачыць» — назіраць

### Сацыяльнае становішча

Асочнікі звычайна жылі ў асобных вёсках па перыметры пушчаў, вызваляліся ад паншчыны і грашовых падаткаў, часам удзельнічалі ў ваенных паходах.

Сляды гэтага асадніцтва засталіся ў нашай тапаніміцы. Напрыклад, каля Сапоцкіна дагэтуль ёсць вёска Асочнікі, вядомая з 1554 года як пасяленне асочнікаў тагачаснай Перстунскай пушчы. А ў Свіслацкім раёне, на тэрыторыі Белавежскай пушчы, ёсць хутар Ашчэп, назва якога, магчыма, паходзіць ад тыповай зброі асочнікаў.

### Каб ніякая шкода не рабілася

Паводле «Ардынацыі пушчаў Яго Каралеўскай Міласці лясніцтва Белавежскага і Камянецкага» 1639 года, Белавежскую пушчу на той час пільнавалі 277 асочнікаў, паселеных у 9 вёсках вакол пушчы, 4 старшыя асочнікі і двое паляўнічых. Кіраваў усімі імі ляснічы. Дакумент прадпісваў асочнікам «пільнаваць, каб у пушчы як звярам, так і бортным ды звычайным дрэвам, не рабілася ніякая шкода; пільнаваць, каб ніхто не паляваў, апроч як з адмысловым гаспадарскім лістом... Масціць у пушчы масты, папраўляць дарогі да дзялянак, пільнаваць звера падчас гону, хадзіць на ловы па адным з паўвалокі, не высылаючы заміж сябе ані старых, ані малых, ані гожых і здольных хлопцаў».




**Белавежскі наканечнік ад ашчэпа — злева.**

Найбольш падрабязныя весткі пра асочнікаў паходзяць з пушчаў уздоўж сучаснай беларуска-польскай мяжы: Белавежскай, Аўгустоўскай, Кнышынскай. Менавіта тут часцей за ўсё і палявалі каралі — яны ж вялікія князі літоўскія, — таму патрэба ў асочніках была найбольшая. Хоць арганізацыя службы ў буйных прыватных уладаннях, напрыклад у радзівілаўскіх, была досыць падобнай да дзяржаўнай.

Паводле «Уставы на валокі» (1557) асочнікі за службу атрымлівалі дзве валокі зямлі, вольныя ад падаткаў. Служба гэтая часта была дэ-факта спадчыннай, і з пункту гледжання большасці сялянства — зайздроснай, хоць і небяспечнай.

Але адносіны з наваколлем, у прыватнасці са шляхтай, у асочнікаў маглі складвацца няпростыя. «Хутчэй можна верыць расцугляному каню, чым пустому слову асочніка» — чытаем у першым слоўніку польскай мовы Самуэля Багуміла Ліндэ. Або яшчэ: «Хто шкодзіць добраму імені іншага, заслугоўвае, каб яго звалі асочнікам».

З паступовым заняпадам палявання, масавым высяканнем лесу, развіццём лясных ▸

промыслаў і фальваркавай гаспадаркі становішча асочнікаў пагаршалася. Ільготныя зямельныя надзелы зменшыліся спачатку да адной, а потым і да паловы валокі.

**«Хутчэй можна верыць расцуглянаму каню, чым пустому слову асочніка»**

## Час супраць асочнікаў

З XVII стагоддзя асочнікаў паступова пачынае выцясняць новая катэгорыя службоўцаў — стральцы, а ад пачатку XVIII-га — яшчэ і стражнікі. Працэс гэты быў вельмі марудны. Яшчэ ў 1764 годзе ў Белавежскай пушчы было 213 асочнікаў, расселеных па 16 вёсках, але неўзабаве рэформа Антонія Тызенгаўза радыкальна скараціла іх колькасць. У 1795 годзе, на момант апошняга падзелу Рэчы Паспалітай, пушчу сцераглі 102 стральцы і ўсяго 16 асочнікаў (а таксама 13 стражнікаў, 2 старшыя стражнікі і ляснічы).

Відавочна, што для рэгулярнага вартавання трэба было ўжо мець агнястрэльную зброю, а не толькі старамодны ашчэп. Стральцы ж і высочвалі звера, і на паляванні выконвалі ўсе іншыя дапаможныя функцыі, так што патрэба ў асобнай катэгорыі асочнікаў няўхільна змяншалася. Трымаліся яны болей па традыцыі, і прытым на іх часта ўскладалі абавязкі буднікаў (вырабляць драўняны вугаль, дзёгаць, паташ) ды бортнікаў (збіраць мёд), а таксама іншыя, мала ўжо звязаныя ўласна з паляваннем. Магчыма, такое сумяшчэнне нават было і ўласнай ініцыятывай лясных вартаўнікоў: чыста асочніцкая служба ўжо не магла забяспечыць ім дастатковага ўзроўню жыцця.



КАРЦОВ Г. П. БЕЛОВЕЖСКАЯ ПУЩА. САНКТ-ПЕТЕРБУРГ, 1903.

**Польскі кароль Ягайла лічыў паляванне адпачынкам і магчымасцю развеяцца пасля дзяржаўных спраў.** Найчасцей паляваў з нешматлікімі даверанымі прыдворнымі, узброенымі толькі сякерамі і ашчэпамі.

## Кап'ё на мядзведзя

Калі асочнікі толькі з'явіліся, асабістай агнястрэльнай зброі яшчэ не было. А потым доўгі час яна заставалася дастаткова дарагой. Таму іх галоўнай зброяй быў **ашчэп**. Ён быў падобны на тое, што мы цяпер завём дзідай ці кап'ём, бо ашчэпам не толькі калолі — яго можна было яшчэ і трапна кідаць.

Блізкай па выглядзе і выкарыстанні да ашчэпа была **рагаціна**, хіба што толькі рагаціны звычайна былі даўжэйшыя і цяжэйшыя. Хоць нярэдка пад гэтымі двума словамі мелі на ўвазе адно і тое ж. Розніца больш у тым, што рагаціна — слова з агульнарускага культурнага поля (распаўсюджанае на ўсёй Русі), а ашчэп — польска-літоўскае, больш характэрнае для Польшчы і гістарычнай Літвы.





Руская лубочная карцінка **«Охотник медведя колет, а собаки грызут».**

Наканечнікі, або гроты, ашчэпаў і рагацін рабіліся двусечнымі: імі можна было не толькі калоць, але і сячы. Гэта рабіла ашчэп даволі грознай зброяй, прычым у абароне ад буйнога дзікага звера больш зручнай за цяжкі меч. Часцей за ўсё за лязом ашчэпа рабілі папярэчную перакладзіну, каб зброя не захрасала занадта глыбока ў целе звера і яе можна было хутка выцягнуць у мэтах бяспекі.

## І на звера, і на чалавека

Доўгі час, прыкладна да канца XVI стагоддзя, ашчэп быў у роўнай ступені баявой і паляўнічай зброяй. Ён — фірмовая зброя Збышка з Багданца, галоўнага героя рамана Генрыка Сянкевіча «Крыжакі». У кнізе ёсць некалькі эпізодаў, у якіх Збышка спрытна арудуе ашчэпам. У адным з іх, ратуючы каханую Данусю і мазавецкую князёўну Ганну Дануту Кейстутаўну ад раптоўнага нападу тура, ён з такой моцай уганяе ашчэп туру пад лапаткі, што тронак зброі ламаецца і герой падае тварам у снег проста перад параненым зверам. І толькі спрыт чэха Главы ратуе Збышку жыццё — той дабівае тура моцным ударам сякеры па карку.

Хроніка Літоўская і Жамойцкая паведамляе, што вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена ў Грунвальдскай бітве 1410 года быццам бы «просты драб [пехацінец] ашчэпам прабіў».

Ашчэп спачатку быў тыповай зброяй і пешых, і конных ваяроў, але пазней хутчэй пяхоты. Асабліва часта ён сустракаецца ў попісах войска ВКЛ XVI стагоддзя. Па меры змяншэння баявога значэння халоднай зброі ашчэпы зрабіліся зброяй выключна паляўнічай, у пэўным сэнсе — спартыўнай. Паляванне з ашчэпамі было данінай даўняй традыцыі, а таксама пацвярджэннем спрыту, мужнасці і вытрымкі паляўнічага. Спосабам праверыць самога сябе і атрымаць, як кажуць сёння, ладную порцыю адрэналіну.

Таму небяспечнае паляванне на дзікоў і мядзведзяў (як некалі і на тураў) без агнястрэльнай зброі захоўвалася аж да самага канца XIX стагоддзя. Прычым паляванне на старых дасведчаных дзікоў-адзінцоў лічылася нашмат болей небяспечным, чым нават на мядзведзяў. «Калі ідзеш на мядзведзя, рыхтуй ложак, калі на дзіка — насілкі» — раіла паляўнічая прымаўка. Нездарма ж у многіх народаў ёсць легенды пра непераможных дзікіх вепрукоў, якія наводзілі жах на цэлыя акругі і забіць якіх удавалася толькі міфалагічнаму герою.




Белавежскі асочнік **з ашчэпам.**

**Этымалогія**
польскага слова *oszczep* і старабеларускага *ашчэп* няясная. Ёсць яно і ў нашых народных гаворках, хоць і не ў значэнні зброі. Ашчапіць па-нашаму — абхапіць або злучыць між сабой (як і сашчапіць). Адсюль і ўтварэнні. Напрыклад, вушацкі слоўзабор паводле твораў Рыгора Барадуліна ўтрымлівае выраз «ашчэп'ю трымацца» — то-бок моцна, не адпускаючы, абеберуч. «Яна за свайго мужыка ашчэп'ю трымаецца, каб не ўцёк». Гэтак жа трэба было трымацца асочніку за ашчэп. У народным будаўніцтве ашчэпамі называлі бярвёны, звязаныя (ашчэпленыя) між сабой для трываласці. Была ў беларусаў і аднайменная паляўнічая прылада, якая выкарыстоўвалася як пастка для маленькіх пушных звяркоў. Яна ўяўляла сабой расколатае надвое бервяно, з аднаго боку разведзенае калком, каб туды мог заскочыць звярок. Хітрае прыстасаванне рэагавала на рухі, як мышалоўка, і як толькі калок падаў, верхняя палова бервяна абвальвалася на ніжнюю, душачы ахвяру.

Стратэгія палявання заключалася ў тым, каб сабакі, акружыўшы дзіка, схапілі яго за вушы і шыю і ўтрымлівалі як мага шчыльней, а паляўнічы забіў яго трапным ударам ашчэпа ў сэрца. Аднак перш чым атрымаць гэты смяротны ўдар, дзік звычайна паспяваў забіць некалькіх сабак, разрываючы ім жываты ікламі. Такая ж небяспека пагражала і паляўнічаму, калі б яму здрадзілі рука або вытрымка. ▶

Часам паляўнічы меў пры сабе і стрэльбу, і ашчэп. Стрэліць можна было з больш бяспечнай адлегласці, але калі стрэл аказваўся няўдалым, асцярожны альбо менш адважны паляўнічы спрабаваў уратавацца, напрыклад, на дрэве. Адважны ж мусіў шчыльна ўзяць у рукі ашчэп, укленчыць на адно калена і з прыўзнятым лязом чакаць атакі дзіка, у якой шанцы бакоў былі амаль роўнымі. Не адзін паляўнічы зрабіўся ахвярай вострых іклаў на такіх паляваннях.




«Харваты палююць на мядзведзя», сучасная рэпрадукцыя. **У руках герояў гэтай балканскай карцінкі бачым тую ж зброю, што выкарыстоўвалі і нашы асочнікі ды паляўнічыя, — ашчэп.**

З цягам часу ашчэпы (і рагаціны) ужываліся ў паляваннях усё радзей, хутчэй для нагонкі звера, чым уласна як зброя апошняга ўдару. Але на даволі вядомай карціне Юліяна Фалата «Ашчэпнікі» (1890), створанай на матэрыяле нясвіжскіх паляванняў Радзівілаў канца 1880-х, мы яшчэ бачым апошнія акорды даўняй традыцыі.



Драматычны момант паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». **Пры паляванні на мядзведзя ў Тадэвуша з графам застаецца адзін ашчэп на дваіх.** Міжваенная паштоўка.

## Не адзін паляўнічы зрабіўся на паляваннях ахвярай вострых іклаў дзікоў

У самым канцы стагоддзя складальнік «Старапольскай энцыклапедыі» Зыгмунт Глогер набыў у старога былога асочніка з Белавежскай пушчы для свайго прыватнага збору ў Ежаве на Падляшшы грот ад ашчэпа, якім той, як пахваляўся, забіў некалькі дзясяткаў дзікоў. Але відавочна, што ў гэты час такая зброя ўжо ўспрымалася як чыста музейная экзотыка.

### А ты маўчыш!

Храніст Марцін Бельскі ўспамінае такое здарэнне за панаваннем Жыгімонта Старога, у 1527 годзе. У каралеўскім звярынцы зладзілі паляванне на мядзведзя, прывезенага аднекуль з літоўскіх лясоў. На звера, ужо акружанага сабакамі і паляўнічымі, кінуўся з ашчэпам Габрыэль Турла, кракаўскі крайчы, але мядзведзь здолеў выдраць ашчэп з яго рук. Ён напэўна задушыў бы Турлу, але таварышы па паляванні здолелі яго адбіць.
Раз'юшаны мядзведзь кінуўся ў той бок, дзе на кані сядзела цяжарная каралева Бона. Конь кінуўся наўцёкі, спатыкнуўся, Бона зляцела з каня, атрымала траўмы і пачала заўчасна нараджаць. Неданошаны сын, які ў яе нарадзіўся, памёр у той жа дзень, і болей мець дзяцей яна ўжо не змагла.
Мядзведзь жа пасля Боны накінуўся на каня, на якім сядзеў каралеўскі блазан Станчык, паваліў яго, так што Станчык моцна парваў сваё адзенне, але досыць спрытна здолеў уцячы. Засмучаны гэтым фіяска кароль, шукаючы, на кім спагнаць злосць, пасля вяртання з палявання сказаў Станчыку: «Ты сябе сёння паводзіў не як шляхціч, а як блазан».
Той імгненна парыраваў: «Яшчэ невядома, хто большы блазан: той, хто, маючы звера на ланцугу, выпускае яго на людзей, ці той, хто ратуе ад яго сваё жыццё». — «Але ж мядзведзь здзёр з цябе вопратку, а ты маўчыш!» — «А ў цябе нядаўна забралі Смаленск, а ты маўчыш!» (намёк на страту Смаленска ў 1514 годзе).

# СРЭБНЫЯ ЛЫЖКІ
## *з нясвіжскага музея*

**На вырабах вядомай нямецкай фабрыкі можна пабачыць знакаміты шляхецкі герб «Трубы», піша малодшы навуковы супрацоўнік музея-запаведнік «Нясвіж» Людміла Жук.**



У зборах музея-запаведніка «Нясвіж» захоўваюцца дзве срэбныя сталовыя лыжкі, перададзеныя ў 2011 годзе з Дзяржаўнага сховішча каштоўнасцяў Міністэрства фінансаў Беларусі.

Час вырабу і вытворца лыжак вызначаюцца лёгка, бо на іх хваставіках прастаўленыя адразу некалькі клеймаў: гандлёвай маркі *«B&C»*; фірменны знак вытворцы — выява вазы на ножцы; лічба 800; імперскі знак гарантыі — паўмесяц і карона.

Клеймы сведчаць, што лыжкі выробленыя са срэбра 800 пробы ў канцы XIX стагоддзя на нямецкай фабрыцы срэбных вырабаў *Koch&Bergfeld*.

Верагодна, аднолькавыя па дызайне прадметы былі часткай аднаго набору. Абедзве лыжкі маюць авальныя чарпалы і вузкія дзяржанні з паступова пашыранымі ды закругленымі тронкамі. Хваставікі дэкараваныя аваламі, ахопленымі стужкамі, на версе якіх — выявы трохпялёсткавых лісткоў, а на нізе — бутоны цюльпанаў.

У цэнтры кожнага авала знаходзіцца гравіроўка: тры трубы, злучаныя муштукамі пад графскай каронай. Гэта схематычнае адлюстраванне шляхецкага герба «Трубы», што дазваляе паразважаць на тэму, хто б мог быць іх уладальнікам.

Ці маглі належаць гэтыя лыжкі Радзівілам, колішнім уладальнікам Нясвіжа? Нібыта наяўнасць шляхецкага герба «Трубы», якім карыстаўся гэты род, на гэта намякае. Але Радзівілы былі князямі, а на гравіроўцы карона графская. Таму гэтыя прадметы наўрад ці радзівілаўскія. Увогуле ж, «Трубы» часта сустракаюцца на прыватнаўласніцкіх гербах Вялікага Княства Літоўскага, імі карысталіся ажно 186 родаў. Хоць, натуральна, далёка не ўсе яны былі князямі і графамі.

З графскіх родаў, на фамільных гербах якіх у XIX стагоддзі прысутнічалі «Трубы», можна прыгадаць роды Развадоўскіх і Войнаў. Абодва яны — асабліва Войны — мелі пэўныя гістарычныя повязі з Беларуссю, але ў той час іх галоўныя сямейныя гнёзды ўжо месціліся за яе межамі: Развадоўскіх — у Польшчы пад уладай Расіі, а Войнаў — у падаўстрыйскай Галіцыі. Ці быў уладальнікам лыжак хтосьці з іх, належыць высветліць будучым даследчыкам. ◆






**Герб графаў Войнаў —** аднаго з магчымых уладальнікаў лыжак з нясвіжскага музея.

### Koch&Bergfeld

адна з найбольш старых і вядомых нямецкіх фабрык, якія спецыялізуюцца на вырабах са срэбра. Вытворчасць заснаваў у 1829 годзе ў Брэмене Готфрыд Кох, а з 1835-га з ім пачаў працаваць гравёр Людвіг Бергфельд. На фабрыцы працавалі таксама вядомыя нямецкія дызайнеры Вільгельм Вагенфельд, Густаў Эльзас, Альбіна Мюлер і Генры ван дэ Вельд. У архівах фабрыкі захавалася 250 чарцяжоў, зробленых гэтымі і іншымі майстрамі. Пад назвай *Koch&Bergfeld* кампанія пачала працаваць у 1856 годзе і дзейнічае па сённяшні дзень.





VIII Усебеларускі з'езд саветаў, 1927 год.

ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

# Вялікі правакатар Аляксандр Ульянаў

## *Беларускі дыпламат, які адыграў змрочную ролю*

**Да яго звярталіся па грошы — і ён знаходзіў. Да яго прыходзілі, каб хутчэй атрымаць савецкую візу, — і ён садзейнічаў. Але дапамагаў супрацоўнік Народнага камісарыята замежных спраў (НКЗС) Аляксандр Ульянаў нацыянальным дзеячам не проста так. Пра здольнага дыпламата, які высока ўзляцеў, але балюча ўпаў, піша вядучы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Павел Каралёў.**

Калектыўны фотаздымак VIII Усебеларускага з’езда саветаў, 1927 год. Позірк лёгка выхоплівае паўусмешлівага Янку Купалу. А далей спыняецца на яго суседзе злева, што дазваляе сабе нефармальны жэст — прыабняць мэтра за плячо. Міжволі складваецца ўражанне, што побач з Купалам знаходзіцца сябар або нехта, хто хоча ўвайсці ў давер. Ці так гэта? І хто гэта ўвогуле такі?

### «Свой чалавек»

Аляксандр Ульянаў дасягнуў імклівага кар’ернага росту ў ведамствах БССР, якія займаліся справамі знешніх адносін. Спачатку ён наладжваў гандаль Беларусі з іншымі савецкімі рэспублікамі, а з 1925-га перайшоў на сапраўдную дыпламатычную службу. Першым ягоным месцам працы стала Латвія, а пасля Польшча. У гэты час прыярытэтным кірункам дзейнасці ЦК КП(б)Б было ўзмацненне прасавецкіх сілаў у беларускіх асяродках і аслабленне праціўнікаў савецкай улады.

Ульянаў меў дыпламатычны такт і талент апэратыўна прымаць рашэнні, валодаў майстэрствам зносін з людзьмі і ўмеў слухаць суразмоўцу. Вядомая беларуская дзеячка Паўліна Мядзёлка, якая працавала тады ў беларускай гімназіі ў Дзвінску (цяпер латвійскі Даўгаўпілс), прыгадвала, што пазнаёмілася з ім у Рызе ў паўпрэдстве СССР. Яе тады збіраліся выслаць з Латвіі, і Ульянаў даў ёй грошай на дарогу. Таксама ён дапамог Мядзёлцы хутка атрымаць савецкае грамадзянства і паспрыяў у атрыманні савецкай візы для яе маці з Заходняй Беларусі.

## Ульянаў умеў слухаць суразмоўцу

Адно з самых гучных вяртанняў у БССР (а затым і арышт з высылкай) звязанае з іменем Францішка Аляхновіча. Да яго таксама прыклаў сваю руку наш герой, пра што драматург сам згадваў у аўтабіяграфічнай аповесці «У кіпцюрох ГПУ». Калі зайшла гаворка пра магчымасць пераезду Аляхновіча ў Савецкую Беларусь, ягоныя сябры з прасавецкай Беларускай сялянска-работніцкай грамады сказалі яму, што «ў паўпрэдстве ў Варшаве ёсць свой чалавек, беларус, “саветнік” Ульянаў. Ён табе гэта наладзіць». І той сапраўды ўсё наладзіў як мае быць.

Інтэлігенцыя Мінска і Заходняй Беларусі лічыла Ульянава сваім, давярала яму, не баялася выказаць пры ім сваю думку. Калі за тым жа Аляхновічам у Менску адкрыта сачылі супрацоўнікі ГПУ, то ён кінуўся па падтрымку менавіта да Ульянава — той якраз быў у горадзе праездам. А чакаючы яго з цырульні, сярод візіцёраў Аляхновіч сустрэў там і паэта Уладзіміра Жылку, які таксама незадоўга да таго пераехаў у БССР з Чэхаславакіі.

Але дапамога Ульянава беларускім дзеячам тычылася толькі справы прыезду ў БССР, а далей яны пакідаліся на волю карных органаў. Хоць арыштаваны Францішак Аляхновіч наіўна думаў у камеры: «Ульянаў выручыць! Каб толькі яны даведаліся». Калі ж маці драматурга паведаміла, што дыпламат нічым яму дапамагаць і не збіраўся, Аляхновіч быў шакаваны. Далей у яго была дарога ў лагер на Салаўкі. Высылка ў халодныя краі, на верную смерць, чакала і хворага на сухоты Жылку.

### Поспехі ў расколе і драбленні

Дыпламатычная служба Ульянава не абмяжоўвалася выманьваннем на савецкую радзіму нацыянальных дзеячаў. У 1931-м ужо былы аташэ ў адным са сваіх лістоў у партыйныя органы дакладваў: «Па сваёй ранейшай працы за мяжой мне даводзілася сустракацца па даручэнні ЦК з бээнэраўскай і да т. п. публікай, і ў кола маёй сапраўднай працы і тут уваходзіла інфармаванне аб настроях усёй гэтай публікі, пра яе размовы і г. д., — на мяне легла задача інфармаваць ЦК пра настроі т. зв. “беларускай інтэлігенцыі”».

Тут Ульянаў занадта сціпла ацэньвае сваю працу ў Польшчы. Бо ягонай задачай было не толькі банальнае інфармаванне. Ён прыклаў вялікія намаганні і для забеспячэння самароспуску ўрада БНР: спачатку адсячэння ў ім антысавецкага крыла і ўмацавання левай часткі, а пасля і ўвогуле ліквідацыі.

Рашэнне аб самароспуску ўрада БНР, перадачы яго паўнамоцтваў ураду БССР і прызнанні Мінска адзіным беларускім культурным і палітычным цэнтрам было праведзена ў кастрычніку 1925 года на адмыслова скліканай II Беларускай канферэнцыі ў Берліне.

Тагачасны кіраўнік урада БНР Аляксандр Цвікевіч прыгадваў у сваіх паказаннях, дадзеных у 1930 годзе органам ГПУ пасля свайго арышту па справе «Саюза вызвалення Беларусі»: «Больш рэальна гэтыя перамовы [аб роспуску БНР] пачаліся пасля прыезду ў Коўна летам 1925 года т. А. Ульянава... Тады ж было вырашана склікаць Берлінскую канферэнцыю для ліквідацыі БНР. На неабходнасці фармальнай, поўнай ліквідацыі ўрада БНР настойваў я, а таксама, наколькі памятаю, тав. Ульянаў».

Вынік быў атрыманы. І хоць Прэзідыум Рады БНР не прызнаў рашэння канферэнцыі, тым не менш у пастанове ЦК КП(б)Б адзначалася: «т. Ульянаў выканаў цалкам і поўнасцю дырэктыву Бюро ЦК КПБ(б) у справе правядзення канферэнцыі». На той час таленавітаму правакатару было ўсяго 24 гады.

### Правакатарам назваў Купала

Дзейнасць Ульянава не абмяжоўвалася замежжам. Актыўна ён «працаваў» і ў самой БССР. Каб палегчыць яму задачу інфармаваць ЦК пра настроі сярод беларускіх пісьменнікаў, яго нават уладкавалі ў рэдакцыю часопіса «Полымя», хоць у спісе членаў рэдакцыі ён не пазначаўся. ▸

Не раз сустракала Ульянава ў доме Купалаў Паўліна Мядзёлка. Яна пасля напіша ва ўспамінах: «У гасцінным пакоі на пісьмовым стале стаялі фатаграфіі членаў ЦК і ўрада БССР, якія бывалі гасцямі ў доме Купалы, але са зменай іх Уладка мяняла і іх партрэты. Так, знікла са стала фота Язэпа Адамовіча, пасля Прышчэпава і інш. На іх месцы паяўляліся новыя. Стаяла там фота і Алеся Ульянава, прадстаўніка Мін-ва замежных спраў СССР пры ўрадзе БССР.

Аднойчы (здаецца, гэта было ў 1929 годзе) Янка, паказваючы на партрэт Ал. Ульянава, кажа:

— Вялікі правакатар.

Я здзівілася.

— Чаму? — пытаю.

— А як жа, перш дапамог Тарашкевічу арганізаваць Грамаду, а пасля памог палякам разагнаць яе.

— Няўжо гэта праўда?

— А як ты думала? Гэта яго работа.

— Чаму ж ты не зменіш са стала яго партрэта, калі гэта так?

— Гм... Яшчэ рана. Яшчэ ён важная шышка».

Купала не памыляўся адносна сутнасці Аляксандра Ульянава, але не змог адразу гэта зразумець. Што тычыцца згаданага Браніслава Тарашкевіча (аднаго з лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Заходняй Беларусі), то Ульянаў сапраўды меў на яго непасрэдны ўплыў. Многія дзеянні Тарашкевіча ў сярэдзіне 1920-х вяліся пад наглядам і з дапамогай камуністаў. А калі ў 1930-х гадах Тарашкевіч працаваў у Маскве ў Камінтэрне, то ён нават нейкі час жыў на кватэры і, пэўна ж, пад палітычным наглядам, як піша Мядзёлка, «свайго прыяцеля Алеся Ульянава».

Ульянаў быў каштоўны не толькі для ЦК КПБ(б), але




**Маска П’еро**

«Неўзабаве з’явіўся чаканы дыпламат. Увайшоў з ручніком, павязаным навакол шыі, з тварам, густа пасыпаным пудрай. Быў гэта малады яшчэ чалавек з выглядам сухотніка, бландзін, з бародкай. “Каб не гэтая бародка, — думаў Попутчік, — дык гэты белы напудраны твар меў бы шмат супольнага з маскай П’еро”», — гэтак апісваў Аляксандра Ульянава ў пазнейшай аповесці «У кіпцюрох ГПУ» Францішак Аляхновіч.

і для Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ГПУ, пазнейшае Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай бяспекі НКВД), бо вёў агентурную працу.

### Чый верш?

У 1929 годзе Аляксандр Ульянаў атрымаў адказнае даручэнне — дазнацца, хто аўтар верша «Пасеклі край наш папалам», які нелегальна перадаваўся сярод беларускіх паэтаў і меў неймаверна моцны для таго часу антымаскоўскі змест. Былі ў творы наступныя радкі:

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапах,
Нью-Ёрку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.
…
Не смеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Без нас ўсё робяць махляры
Ды міжнародныя падлізы.
…
Распаўся б камень ад жальбы
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З велікапольскімі панамі.

Ульянаў атрымаў даручэнне ад самога Рамана Піляра, старшыні ГПУ БССР. У ГПУ была ўжо версія пра аўтарства, але яе трэба было праверыць. Ульянаў пазней пахваліцца чыстай работай: «І калі я звярнуўся да Купалы пры найбліжэйшай сустрэчы — з дакорам — што ён, маўляў, аўтар абуральных антысавецкіх вершаў, той пакрыўдзіўся, заявіўшы, што ён можа быць незадаволеным тым і іншым, але такіх рэчаў ён не робіць, і зразу ж назваў аўтара — А. Дудара».

У 1929 годзе яшчэ не думалася, што за нейкі адзін верш могуць арыштаваць і выслаць. Масавыя арышты пачаліся толькі ў наступным годзе.

Дарэчы, згаданы паэт Алесь Дудар у сваіх паказаннях ГПУ сярод іншага адзначаў, што Ульянаў — гэта «прыяцель Чарота, які і звёў яго з Купалам». Атрымліваецца, што «вялікі правакатар» быў добрым сябрам ужо тром беларускім дзеячам: Міхасю Чароту, Янку Купалу і Браніславу Тарашкевічу. Яму даволі лёгка ўдавалася ўвайсці ў давер і быць сваім сярод цвету беларускай нацыі. Прытым падыходы былі вельмі хітрыя. Паўліна Мядзёлка ўспамінала, што яе брат Зыгмусь «даваў урокі беларускай мовы жонцы Ульянава». Тым самым забіваліся адразу два зайцы. Па-першае, дэманстравалася прыхільнасць сям’і дыпламата да беларушчыны, а па-другое, пасля словы Зыгмуся,



А гэта ўжо турэмнае фота.



**Аляксандр Фёдаравіч Ульянаў** нарадзіўся 7 красавіка 1901 года ў Мінску ў сям'і земскага лекара. Адукацыю меў няскончаную вышэйшую. У 1917–1922 гадах быў у партыі расійскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З 1922 года намеснік упаўнаважанага маскоўскага Наркамзнешгандлю пры ўрадзе БССР. З 1925-га — аташэ, пазней дарадца паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы. Нейкі час нават выконваў абавязкі пасла. З 1928 па 1931 год — упаўнаважаны НКЗС пры СНК БССР. Напрыканцы сваёй кар'еры працаваў у Маскве ў Наркамаце знешняга гандлю СССР і гандлёвым прадстаўніком у Чэхаславакіі.

сказаныя падчас тых урокаў пра іншых, Ульянаў прыводзіў у сваіх справаздачах для ГПУ.

## «І прасіў суд аб міласэрнасці»

Аднак «сваім» ён быў толькі да моманту, пакуль і над ім не навісла пагроза рэпрэсій. Мядзёлка прыгадвае, як пасля вяртання з казанскай высылкі ў 1932 годзе яна адважылася прасіць Ульянава, каб дапамог некуды ўладкавацца: «Калі падышла да яго стала, ён зрабіў выгляд, што не пазнаў мяне, нават не прыпадняўся з крэсла, не адказаў на “дзень добры”. Не ўзнімаючы вачэй на мяне, суха сказаў, што нічым не можа мне дапамагчы».

Відаць, гэта было эфектам перажытага страху. Бо падчас разгрому беларускай інтэлігенцыі ў пачатку 1930-х Ульянаў таксама ледзь не трапіў пад той каток. Яго абвінавацілі, што ён «паслужыў аб'ектыўна прыкрыццём, за якім нацдэмаўская інтэлігенцыя праводзіла і мела магчымасць хаваць контррэвалюцыйныя справы». За гэта «вялікі правакатар» атрымаў строгую вымову па партыйнай лініі і запіс аб «немагчымасці далейшага выкарыстання на працы па лініі НКЗС». Ульянава папракалі ў «празмерным знанні з нацдэмаўскай інтэлігенцыяй у такой форме, якая не выклікалася ніякай неабходнасцю (бытавая спайка і зрошчванне з ёй, п'янства)». Сакратар парткалегіі ЦК КП(б)Б Арон Рыскін запытаўся ў яго: «Няўжо гэта было так неабходна, такое збліжэнне?» На што Ульянаў адказаў, што без гэтага нікуды — такая тэхніка працы.

Але тады арышт яго абмінуў, хоць пагроза вісела і надалей. А рэалізавалася яна 20 мая 1937 года, калі па ўсім СССР разгарнулася чарговая хваля бальшавіцкага Вялікага тэрору. Ужо ў зняволенні Ульянаў зрабіў савецкай уладзе апошнюю паслугу, даўшы паказанні супраць Змітра Жылуновіча, Антона Баліцкага, Браніслава Тарашкевіча і дзясятка іншых асоб, уключаючы самога сябе. Пра народнага паэта, якога ▶

## «Нам, беларусам, трэба быць гатовымі на ўсякі выпадак...»

Пра метады працы Ульянава з беларускімі дзеячамі за мяжой засталося сведчанне ва ўспамінах аднаго з лідараў БСРГ Юрыя Сабалеўскага, якога ў 1927–1928 гадах, пасля разгрому Грамады польскімі ўладамі, таксама ўгаворвалі выехаць у СССР, але ён — як аказалася, на сваё шчасце, — вырашыў застацца ў Польшчы. Ульянаў тут па прозвішчы не называецца, але па апісанні падобны:
«А ў той жа самы час адбываецца ў мяне “прыпадковае” спатканне і гутарка на тэму аб настроях Заходняй Беларусі ў прысутнасці савецкага адказнага прадстаўніка, майго былога добрага знаёмага па працы ў менскім земстве перад прыходам бальшавікоў. Былы эсэр, сёння камуніст, чалавек культурны, з грунтоўнаю асветаю, адказны савецкі дыпламат. Ціхачом шэпча на вуха многа каму па старой прыязні, што савецкі рэжым “ужо” выдыхаецца і ў генеральным адступе ад сваіх папярэдніх поглядаў, і нам, беларусам, трэба быць гатовымі на ўсякі выпадак, бо Заходняя Беларусь будзе паклікана падзеямі да вельмі адказнае ролі…»

прыабдымаў на здымку, ён засведчыў: «На кватэры ў Купалы пастаянна бывалі ўдзельнікі арганізацыі, і, па сутнасці, у перыяд 1929 года і часткова 1930 года гэтая кватэра стала штаб-кватэрай антысавецкіх зборышчаў». Рыкашэтам пратаколы допытаў Ульянава ўдарылі і па іншых дзеячах. Яны былі размножаныя ў 10-ці экзэмплярах, адзін з якіх накіраваны ў Саратаў, дзе мясцовыя супрацоўнікі НКВД 20 жніўня 1937 года арыштавалі Вацлава Ластоўскага.

Зрэшты, не зусім правільна называць паказанні Ульянава ягонымі асабістымі сведчаннямі. Тэкст пратаколаў быў падрыхтаваны следчымі загадзя, а Ульянаву заставалася фактычна толькі іх падпісаць. Чалавек, які шмат год працаваў на ГПУ/НКВД, не меў сілаў адмовіцца, таму браў у фабрыкацыі сваёй крымінальнай справы непасрэдны ўдзел. Пра гэта сведчаць ягоныя ўласныя праўкі ў арыгінале пратаколаў. Відаць, гэтым самым ён спрабаваў выратаваць сабе жыццё.

Пратаколы допытаў Ульянава — прыклад таго, як у 1937 годзе ў БССР падводзілася «гістарычная факталагічная база» пад так званае Аб'яднанае антысавецкае падполле. Нездарма і выдадзеная Мікалаем Ількевічам і Расціславам Платонавым у 1997 годзе кніга, у якой публікаваліся пратаколы допытаў Ульянава, мела падзагаловак «Фальсіфікацыя органамі НКВД крымінальных спраў у 1937–1938 гадах».

Самога ж Ульянава ягонае супрацоўніцтва са следствам не выратавала. 26 лістапада 1937 года на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага суда СССР ён як «удзельнік нацыяналістычнай арганізацыі» і «агент польскай разведкі» быў прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання. Віну сваю прызнаў і прасіў суд аб міласэрнасці. Судовы працэс, як тады звычайна вялося, доўжыўся ўсяго 15 хвілін, і ў той жа дзень прысуд быў прыведзены ў выкананне ў Маскве на Данскіх могілках. А жонцы Ульянава Цэцыліі Ульянавай-Блатман паведамілі, што муж адбывае пакаранне ў мясцінах пазбаўлення волі і памёр там жа 15 верасня 1938-га.

Ульянаў памёр, а пратаколы ягоных паказанняў засталіся. Праз два месяцы пасля расстрэлу Ульянава на іх аснове быў асуджаны да смерці Вацлаў Ластоўскі. Канвеер смерці працягваў сваю працу. ◆

## Ульянаў як беларускі Радэк

На агульнасаюзным узроўні падобнай гатоўнасцю ў спрыянні следчым НКВД у фабрыкаванні ўласнай справы адзначыўся ў той жа самы час вядомы камуністычны дзеяч Карл Радэк. Высокапастаўлены чэкіст-«невяртанец», ураджэнец Бабруйска Аляксандр Арлоў (Фельдбін) пісаў у сваёй выдадзенай у 1950-я гады на Захадзе кнізе «Тайная гісторыя сталінскіх злачынстваў»:

«Радэка прывялі ў кабінет [следчага] Кедрава, дзе яго чакаў ужо загадзя падрыхтаваны пратакол допыту. Ён уважліва прачытаў паказанні, напісаныя за яго, і нечакана, узяўшы аловак, пачаў рабіць папраўкі, не звяртаючы ўвагі на пратэсты Кедрава. Нарэшце яму, відаць, надакучыў гэты занятак, і ён аб'явіў: "Гэта не тое, што трэба. Дайце мне паперу і ручку, і я напішу сам!"

Радэк накідаў пратакол допыту, які прывёў следчых у захапленне. У ім ён сам задаваў сабе пытанні, сам жа і адказваў на іх. Кіраўнікі НКВД не рызыкнулі зрабіць у пісаннях Радэка аніякіх папраўак».

Пасля, ужо падчас паказальнага Маскоўскага працэсу ў студзені 1937 года, дзе на лаве падсудных сядзелі, акрамя Радэка, такія вядомыя савецкія дзеячы, як Георгій Пятакоў, Леанід Серабракоў і Грыгорый Сакольнікаў, гэты чалавек актыўна спрыяў сваімі выступамі яго паспяховаму правядзенню. У падзяку за што атрымаў не смяротны прысуд, а 10 гадоў турмы. Зрэшты, гэта толькі крыху адцягнула ягоны канец: 19 мая 1939 года НКВД арганізавала ягонае забойства ў турме — рукамі іншых зняволеных.


ПРОТОКОЛ №67

закрытого заседания Бюро Ц.К. КП/б/Б от 22 октября 1925 года.

Присутствовали: т.т. Криницкий, Чернышов, Адамович, Гессен, Голодед, Игнатовский, Калинин, Медведь, Левин, Славинский, Козера, Ульянов, Ноак, Грузель.

СЛУШАЛИ:

1. Информация тов. УЛЬЯНОВА о конференции в Берлине.

ПОСТАНОВИЛИ:

1. Признать что:
а/ Исход конференции подтвердил правильность позиции Бюро ЦК КП/б/Б занятой им в этом вопросе.
б/ Тов. Ульянов выполнил целиком и полностью директивы Бюро Ц.К. КП/б/Б в деле проведения конференции.
2. В связи с запрещением Головинскому въезда в Литву, временно во главе Белорусского национального Комитета в Ковно оставить ЛЮДВИКА, ГУЗНЕЯ и ВАЛЬЮВИЧА.
3. Признать целесообразным опубликование резолюций, принятых на конференции в Берлине, как в нашей, так и в заграничной прессе.
~~Поручить тов. Ульянову окончательно этот вопрос согласовать с НКИД.~~
4. Признать целесообразным ~~резолюций конференции в Берлине~~, выступления т.т. АДАМОВИЧА и ЧЕРНЫШОВА на заседании Витебского Горсовета.
5. Оказать поддержку Головинскому и Цвикевичу по 400 долларов.
6. Разрешить въезд в БССР Головинскому, Цвикевичу, Прокулевичу и Зайцу.

2. Заявление тов. СЛАВИНСКОГО о дальнейшей работе тов. УЛЬЯНОВА.

Признать необходимым оставить тов. УЛЬЯНОВА Советником ~~нашего~~ Полпредства в Варшаве.

3. О запросе Правительству на предстоящ. Сессии ЦИК'а об угнетении польским Правительством Белорусского населения в Зап. Белоруссии.

Поручить тов. УЛЬЯНОВУ ~~в Москве~~ составить запрос и ответ и согласовать с НКИД.

4. Об отпуске тов. УЛЬЯНОВУ.

Предоставить тов. УЛЬЯНОВУ необходимый отпуск. Секретариату определить срок и условия лечения.

СЕКРЕТАРЬ ЦК КП/б/Б. /А.КРИНИЦКИЙ/

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Пратакол ЦК КПБ пра раскол Рады БНР** і ролю Аляксандра Ульянава.



# Авіяцыя БНР

**У Беларускай Народнай Рэспубліцы магла з'явіцца свая авіяцыя. Пра адзін цікавы нерэалізаваны праект піша Ілля Вярбіла.**




**Самалёт *Humber-Sommer*.**

Новыя дзяржавы, якія ўтварыліся пасля Першай сусветнай вайны на руінах Расійскай імперыі, баранілі сваю незалежнасць. Выкарыстоўвалі яны ў сваім змаганні самую розную зброю, у тым ліку і такую перадавую, асабліва для таго часу, як авіяцыя. Самалёты былі ў літоўцаў, мела іх і Украінская Народная Рэспубліка. А што Беларусь?

Здавалася б, якая там авіяцыя, калі БНР нават звычайнае войска не паспела арганізаваць? Але планы стварэння авіяцыі беларускай рэспублікі ўсё ж існавалі, прычым яшчэ да яе стварэння — у 1917 годзе. Існавала і патэнцыйная магчымасць ажыццяўлення гэтых смелых праектаў, бо распрацоўваў іх кіраўнік аднаго з авіяцыйных паркаў войска Расійскай імперыі. І ён прапаноўваў выкарыстаць той авіяпарк, якім сам камандаваў.

## Нацыянальнае войска

Беларускія арганізацыі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года распачалі агітацыйную работу сярод вайскоўцаў-беларусаў на розных франтах Першай сусветнай вайны. Іх прадстаўнікі высылаліся ў розныя вайсковыя часці, ствараліся камітэты беларускіх вайскоўцаў, арганізоўваліся сходы і канферэнцыі. У лістападзе 1917-га для каардынацыі ўсіх гэтых спраў была створана нават асобная арганізацыя — Цэнтральная беларуская вайсковая рада.

У фондзе № 325 Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь захоўваецца некалькі спраў, у якіх сабраныя розныя дакументы, датычныя спробаў арганізацыі беларускага нацыянальнага войска. Сярод іх ёсць і дакумент, які можна лічыць першай, хоць і нерэалізаванай спробай закласці падмурак беларускай вайсковай авіяцыі. «Праект арганізацыі беларускіх авіяцыйных войскаў», напісаны штабс-капітанам Барысам Паўлавым, быў датаваны 9 лістапада 1917 года.

31-гадовы лётчык лічыў, што настала пара ствараць нацыянальныя вайсковыя часці, у тым ліку і лётныя.

## Авіяцыйныя атрады

Уяўленні, як павінна быць арганізаваная вайсковая авіяцыя, Паўлаў грунтаваў на ўласным досведзе службы ў войску Расійскай імперыі. Аднак з тэксту бачна, што Барыс Паўлаў быў знаёмы і з замежнай літаратурай па гэтай тэме. Ён не проста капіраваў арганізацыю паветранага флоту ў Расійскай імперыі, а рабіў прапановы з улікам яе крытыкі. Апісанне структуры будучай авіяцыі ён нават пачаў словамі: «Улічваючы недахопы Рускай авіяцыі, можна стварыць моцную Беларускую авіяцыю».

Паводле Паўлава, усе беларускія паветраныя сілы мусілі быць замацаваныя за вайсковымі карпусамі ў якасці авіяцыйных атрадаў, каб дапамагаць весці баявыя дзеянні кожны ўласнаму корпусу. Прыкладна такая ж практыка існавала і ў тагачасным расійскім войску.

Авіяцыйныя атрады меркавалася мець трох відаў: атрад далёкай разведкі (у часы Першай сусветнай вайны гэта была першапачатковая і галоўная функцыя вайсковай авіяцыі), атрад бамбавозаў і атрад знішчальнікаў. ▶

## Лётчык-беларус

Барыс Паўлаў нарадзіўся 24 чэрвеня 1886 года ў сям'і калежскага асэсара ў Магілёве. Там жа скончыў мужчынскую гімназію, пасля пачаў рабіць кар'еру прафесійнага вайскоўца. У 1908 годзе Паўлаў скончыў Аляксееўскае вайсковае вучылішча ў Маскве і паступіў на службу ў 2-гі Туркестанскі стралковы полк. Далей жыццёвы шлях занёс Барыса ў Грузію: у 1909 годзе ён ужо служыць у 259-м пяхотным Гарыйскім палку ў чыне падпаручніка. Якраз у той час у Расійскай імперыі пачалі ствараць афіцэрскія школы для падрыхтоўкі лётчыкаў. Вайсковае камандаванне пачало ўсведамляць перспектывы выкарыстання самалётаў у будучых войнах, адпаведна, спатрэбіліся людзі, якія будуць імі кіраваць. Першую школу для авіятараў адкрылі ў ваколіцах Санкт-Пецярбурга, другую — у Севастопалі, а працаваць яны пачалі з 1910 года.

Паўлаў навучаўся менавіта ў Севастопальскай школе, у якую быў залічаны ў 1911 годзе, а скончыў яе праз год, увайшоўшы ў другі выпуск авіятараў Расійскай імперыі. Да пачатку Першай сусветнай вайны служыў у Новагеоргіеўскім крапасным авіяцыйным атрадзе — гэта цяперашні польскі Модлін у ваколіцах Варшавы. Цікава, што той вайсковы аэрадром там функцыянаваў да 2000 года, пасля чаго яго перарабілі ў «мірны» аэрапорт, адтуль лётае кампанія-лаўкостар «Раянэйр».

За месяц да пачатку вайны, у чэрвені 1914 года, наш зямляк перажыў крушэнне самалёта і праляжаў у шпіталі больш за паўтара года, аж да снежня 1915-га. Такім чынам, яму не давялося паўдзельнічаць у абароне Новагеоргіеўскай крэпасці, якая доўжылася ўсяго чатыры дні і скончылася здачай у нямецкі палон 83 000 расійскіх салдат і афіцэраў.

Пасля паляпшэння здароўя штабс-капітан Барыс Паўлаў быў прыпісаны да 2-га авіяпарка, які знаходзіўся ў Смаленску. Там ён і служыў да 1917 года. У той час у вайсковых часцях на фронце і ў тыле ўжо пачыналася агітацыя за стварэнне беларускіх нацыянальных вайсковых атрадаў і беларусізацыю тых, ужо дзейных, дзе беларусы складалі большасць. Відаць, на лётчыка Паўлава паўплывала гэтая агітацыя. А можа, ён ужо і сам раней задумваўся пра стварэнне авіяцыі для беларускага краю.

У кожным разе ў прадмове да свайго праекта Барыс Паўлаў перакanana даводзіў, што Беларусь павінна мець свае войска і авіяцыю.




**Будынак магілёўскай мужчынскай гімназіі**, якую скончыў Паўлаў.


(Бѣлыя для офицерск. чиновъ). На прибывшихъ. 204

Фамилія ПАВЛОВЪ
Имя Борисъ
Отчество Петровичъ
Чинъ Штабсъ-Капитанъ
Воинская часть 2-й Авіаціонный паркъ Западнаго фронта
Боленъ (чѣмъ) [illegible]
Раненъ (куда)
Время и мѣсто сраженія
Названіе и подробный адресъ лазарета, сообщающаго свѣдѣнія (штемпель)
Георгіевскій госпиталь №3



**Картка хворага** ў лазарэце Смаленска.

▶ Але, улічваючы цяжкую сітуацыю на фронце, недахоп тэхнікі і пілотаў, на першы час аўтар прапануе на кожны беларускі вайсковы корпус мець па два авіяцыйныя атрады.

Першы атрад разведвальны, па сутнасці, асноўны. Гэта вочы арміі. Атрад спалучае ў сабе функцыі карэкціроўкі артылерыі, фатаграфавання варожых пазіцый, бамбардзіравання, а таксама сувязі.

Другі атрад знішчальны, неабходны для суправаджэння разведвальных самалётаў, абароны іх ад варожых знішчальнікаў і перахопу чужых разведчыкаў. Падпарадкоўвацца камандзіры авіяатрадаў павінны былі начальнікам сваіх вайсковых карпусоў, а таксама кіраўніку ўсёй беларускай авіяцыі — інспектару авіяцыі беларускага войска.

Адсутнасць трэцяга віду авіяцыйных атрадаў у праекце беларускага войска можа тлумачыцца невялікай колькасцю бамбавозаў у тагачаснай расійскай авіяцыі, а таксама адсутнасцю іх у авіяпарку Барыса Паўлава.

Меліся ў авіятара-беларуса і думкі наконт практычнага боку

ажыццяўлення беларусізацыі існуючых у расійскай арміі авіяцыйных баявых адзінак. Ён адзначае, што нейкая колькасць беларусаў ужо служыць у авіяцыйных атрадах, а каб зрабіць іх цалкам беларускімі, дастаткова паступова дакамплектаваць іх салдатамі і афіцэрамі-беларусамі.

### Абслугоўванне самалётаў

Функцыянаванне паветраных войскаў мусіла падтрымліваць авіяцыйная база, якая б забяспечвала рамонт і выраб запчастак. Аўтар лічыў, што адным з галоўных момантаў, на якія спатрэбіцца звярнуць увагу, з'яўляецца падбор рамонтнікаў належнай кваліфікацыі для авіяцыйнай базы, прычым «якасць павінна перавышаць колькасць».

Галоўнай адметнасцю гэтай патэнцыйнай базы была яе мабільнасць, здольнасць хутка перадыслакавацца на іншае месца па чыгунцы. Якасць павінна была перавышаць колькасць у тым ліку з-за недахопу месца ў вагонах для шматлікага персаналу базы.

Увогуле, Паўлаў бачыў беларускі авіяпарк у выглядзе невялікага мабільнага завода. Стаўка на мабільнасць і незалежнасць выглядае слушнай ва ўмовах магчымай акупацыі ворагам беларускіх гарадоў.

Далей Паўлаў зноў зрабіў рэмарку наконт практычнага ажыццяўлення ягоных планаў. Ён гаворыць, што пры ягоным 2-м авіяпарку ў Смаленску ўжо арганізаваная такая мабільная база і што зараз на фронце яна не патрэбная. Таму яе можна б было зрабіць падмуркам будучай беларускай авіяцыі, зразумела, «пры энергічным клопаце». Але, на жаль, менавіта энергіі беларускаму нацыянальнаму руху тады бракавала.

У праекце падрабязна распісаная ўнутраная структура авіяпарка, спіс неабходных для яго аддзелаў. Сярод іншага, у ім меліся быць чарцёжны кабінет (для працы над паляпшэннем якасці самалётаў і іх запасных частак), майстэрня для рамонту дакладных вымяральных прыбораў, уласная электрастанцыя, метэастанцыя і г. д.

Авіяпарк, па задуме Паўлава, меў быць цалкам самастойнай і незалежнай баявой адзінкай. Спачатку ён нават мог бы выконваць функцыі авіяцыйнага завода і самастойна будаваць новыя самалёты для беларускай рэспублікі. Прычым аўтар, выдатна разумеючы цяжкасць стварэння фактычна ледзь не цэлай фабрыкі, катэгарычна настойваў на яе важнасці як для абараназдольнасці маладой дзяржавы, так і для фармавання яе будучага тэхнічнага падмурка.

### Для мірнага часу

Праект Барыса Паўлава па арганізацыі беларускай нацыянальнай авіяцыі, складзены ў тыя часы, калі сама ідэя аб незалежнасці Беларусі яшчэ нават да канца не сфарміравалася, сам па сабе варты ўвагі. Яшчэ больш адметным гэты праект робіць тое, што яго аўтар не абмяжоўваўся ў сваіх прапановах па выкарыстанні самалётаў выключна вайсковымі патрэбамі. Штабс-капітан меў шмат ідэй, як скарыстаць беларускую вайсковую авіяцыю і яе тэхнічную базу пасля заканчэння вайны на карысць звычайным людзям.

**Паўлаў меў шмат ідэй, як скарыстаць беларускую вайсковую авіяцыю пасля вайны**

Дзеля гэтага Паўлаў прапаноўваў стварыць школу для падрыхтоўкі «інструктараў сельскагаспадарчых тэхнікаў», якія маглі б весці прапаганду і дапамагаць сялянам выкарыстоўваць розныя машыны. Пры гэтай авіяцыйна-сельскагаспадарчай навучальнай установе мог бы выходзіць тэхнічны часопіс ▶



**Лётнае поле Севастопальскай авіяшколы.** Тут у пачатку 1910-х вучыўся на лётчыка Барыс Паўлаў.

АВИАРУ.РФ




**Магілёўскі вакзал і палі за ім**, на якіх Паўлаў прапаноўваў зрабіць аэрадром для авіяцыйнай базы.

з апісаннем апошніх вынаходак па механізацыі, у тым ліку ў сельскай гаспадарцы.

## Родны Магілёў

Штабс-капітан Барыс Паўлаў быў патрыётам не толькі агульнабеларускім, але і мясцовым. Месцам дыслакацыі авіябазы ён бачыў свой родны Магілёў, які «па сваіх атмасферных і тапаграфічных умовах цалкам адпавядае патрабаванням парка».

Для патрэбаў парка Паўлаў збіраўся выкарыстаць казармы, пабудаваныя перад вайной каля магілёўскага чыгуначнага вакзала. Побач з казармамі тады знаходзіліся вялізныя палі, якія Паўлаў прапанаваў выкарыстаць у якасці аэрадрома.

## Не лёс

Але начальніку 2-га авіяцыйнага парка штабс-капітану Барысу Паўлаву не выпала стаць заснавальнікам беларускай нацыянальнай авіяцыі. Праца па беларусізацыі часцей расійскага войска пачалася запозна.

Неўзабаве пасля кастрычніцкага перавароту 1917-га фармаванне атрадаў па нацыянальнай прыкмеце было забаронена. Бальшавікі бачылі ў гэтым небяспеку.

Зрэшты, лётчык Барыс Паўлаў пад сцягі ўлады саветаў усё адно не стаў. У верасні 1918 года ён ужо знаходзіўся на Доне і служыў начальнікам авіяпарка ў хутка арганізаванай авіяцыі Усевялікага Войска Данскога. Цікава, што асоба Паўлава ўзгадваецца ў сувязі з прыбыццём на Дон цягніка з 44 вагонаў з самалётамі, бомбамі, аўтамабілямі і ўсім неабходным для пачатку дзейнасці вайсковай авіяцыі.

Можна выказаць здагадку, што гэта і быў той самы мабільны авіяпарк, які па задуме лётчыка з Магілёва меўся быць беларускім. Але лёс склаўся зусім інакш.

Самому Барысу Паўлаву пабачыць радзіму было ўжо не суджана. Пасля паражэння белых у расійскай грамадзянскай вайне ён у 1920 годзе выехаў на эміграцыю, жыў у Турцыі, Югаславіі, Францыі. А памёр 22 лютага 1934 года ў Парыжы. ◆

**Мацук, Андрэй. Грамадска-палітычнае жыццё Вялікага Княства Літоўскага ў часы бескаралеўя 1733–1735 гг.** — Мінск: Беларуская навука, 2020. — 366 с.




У кнізе аналізуецца палітычная барацьба падчас абрання караля Рэчы Паспалітай у 1733 годзе, пазіцыя ў ёй шляхты ВКЛ, адлюстроўваецца роля розных магнацкіх груповак у княстве, паказваецца пазіцыя павятовых соймікаў ВКЛ у пытанні выбару будучага караля, вызначаюцца інтарэсы замежных дзяржаў і зробленыя імі крокі па рэалізацыі гэтых інтарэсаў. Таксама выяўляюцца кола прыхільнікаў прэтэндэнта на каралеўскі трон Станіслава Ляшчынскага ў ВКЛ і іх дзейнасць у яго падтрымку.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**» (пр. Незалежнасці, д. 72).

**Волкаў, Мікола. Замкі і фартэцыі Радзівілаў на беларускіх землях у XVI – пачатку XVIII ст.** — Мінск: Беларуская навука, 2020. — 215 с.




Радзівілы, якія лічацца адным з самых уплывовых магнацкіх родаў у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, мелі значную колькасць замкаў і фартэцый. З іх 16 знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі — самымі вядомымі з'яўляюцца Мір, Нясвіж і Слуцк. У новай кнізе Міколы Волкава на аснове аналізу абарончай архітэктуры, узбраення і гарнізонаў даследуецца іх ваенны патэнцыял. Першасная ўвага нададзена раскрыццю прычын будаўніцтва і ўмоў функцыянавання ўмацаваных рэзідэнцый Радзівілаў.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**» (пр. Незалежнасці, д. 72).

# «На жаль, у нас не водзяцца гэтыя звяркі...»

SHUTTERSTOCK.COM, BY SERGEY TORONTO

## Якая армія прынесла ў Беларусь тараканаў?

**Руды таракан, альбо прусак.** Яго радзімай з'яўляецца паўднёвая Азія. У XVIII стагоддзі яго завезлі адтуль у Еўропу і Паўночную Амерыку.

**Пашырана меркаванне, што рудыя тараканы-прусакі паходзяць з Прусіі. Таму і назва ў іх такая. Аднак на самай справе не ўсё так проста, піша краязнавец і пісьменнік з Ліды Леанід Лаўрэш.**

Пачну здалёк. Вядома, што расійскі цар Пётр І ніколі не ўваходзіў у памяшканне, пакуль нехта з яго слуг не агледзіць усе пакоі і не ўпэўніцца ў тым, што ў доме няма розных гнюсных насякомых. Расказваюць, што аднойчы цара частаваў у сваім доме нейкі афіцэр. Калі госці селі за стол і пачалі баляванне, Пётр падазрона спытаў у гаспадара:

— Ці чысты твой дом ад тараканаў?

— Амаль што, — адказаў гаспадар, — а каб мне зусім ад іх пазбавіцца, я аднаго тут прыбіў жыўцом.

І ён паказаў на сцяну, дзе яшчэ перабірала лапкамі і варушыла вусамі прыбітая цвіком казурка. Убачыўшы насякомае, цар здрыгануўся і ўскочыў з-за стала, потым даў гаспадару добрую поўху і ўцёк. Падобнага кшталту гісторыі пра Пятра І перақазваюць розныя расійскія аўтары.

### «Ва ўсёй Літве не водзяцца гэтыя звяркі»

А вось на нашай радзіме ў тыя часы, калі ў Расіі кіраваў Пётр І, пра тараканаў, як выглядае, яшчэ калі і ведалі, то толькі па чутках. Гісторык Юстын Нарбут (1773–1845) знайшоў і захаваў, а ў сярэдзіне XIX стагоддзя Адам Кіркор апрацаваў і надрукаваў успаміны пра знаходжанне расійскага цара падчас Паўночнай вайны ў Лідскім павеце.

Дзеянне адбывалася ў маёнтку Трабушкі, які месціўся паміж Эйшышкамі і Радуняю. Яго гаспадаром быў лідскі шляхціч Леў Ільцэвіч. У гэтым маёнтку Пётр гасцяваў тры дні ў пачатку верасня 1705 года. Відаць, што перад друкам успаміны былі моцна адрэдагаваныя, каб паказаць веліч, добрасумленнасць і шляхетнасць гэтага цара. Які ў рэальнасці, як вядома, меў няўстойлівую псіхіку, што правакавала не заўсёды адэкватныя паводзіны. Але ёсць у іх і кавалкі тэксту, якія падаюцца аўтэнтычнымі.

Паводле мемуарыста, аднойчы на маёнтак Ільцэвіча наляцела шмат расійскіх вайскоўцаў, якія выселілі самога гаспадара ў стадолу, а жылое памяшканне ўладкавалі па-царску: сцены пакрылі парчой, а падлогу ▶



**Рыначная плошча Ліды** на пачатку XX стагоддзя.

LIDANEWS.BY

▶ выслалі дыванамі. Пад вечар да дома пад'ехала запрэжаная шасцю коньмі карэта, з якой выйшлі двое мужчын: адзін высокага росту з вусамі, а другі сярэдняга росту, тоўсты і старэйшы за першага. Гэта былі цар Пётр I і ягоны фаварыт Пётр Шафіраў. Аўтар успамінаў згадваў:

«Толькі яны ўвайшлі ў дом, як загадалі паклікаць гаспадара... Высокі мужчына гучна запытаў:

— Як цябе завуць?

— Бедны шляхціч Леў Ільцэвіч да вашых паслуг.

— Ці ёсць у тваім доме тараканы?

Такое пытанне Ільцэвіч раней чуў ужо некалькі разоў і, не ведаючы, навошта ім патрэбныя гэтыя брыдкія істоты, адказаў:

— На жаль, ні ў нас, ні ва ўсёй Літве не водзяцца гэтыя звяркі...

Засмяяўшыся, высокі спадар сказаў:

— Але ж гэта, сябра мой, не звяры, а агідныя і шкодныя чорныя жукі.

Ільцэвіч адказаў:

— Можа быць, але мы іх не ведаем...»

Як бачым, на пачатку XVIII стагоддзя ў нас нават не ведалі пра існаванне гэткіх непрыемных казурак — прытым не толькі рудых прусакоў, але і чорных тараканаў, якія былі за іх раней.

## З Прусіі ці Расіі?

У Расіі здаўна распаўсюджаная легенда, што рудых тараканаў-прусакоў занеслі з Прусіі расійскія салдаты, вяртаючыся з Сямігадовай вайны (1756–1763 гады), а да таго, маўляў, гэтых казурак там не было.

Але з другога боку думалі акурат наадварот. Вось што, напрыклад, занатаваў у дзённіку ў лістападзе 1822 года адзін візітатар каталіцкіх парафій у Беларусі, правінцыял ордэна дамініканцаў, імя якога, на жаль, невядомае:

### Тараканы

адны з найбольш старажытных істот на Зямлі, вядомыя з часоў карбону (палеазойская эра) — больш за 350 млн гадоў таму. У прыродзе яны жывуць у асноўным у тропіках і субтропіках, іх існуюць тысячы відаў. Але некаторыя віды сінантропныя, то-бок прыстасаваныя жыць побач з чалавекам. З-за гэтага яны распаўсюдзіліся практычна па цэлым свеце. У нашым рэгіёне вядомыя ў асноўным два віды гэтых насякомых — чорны таракан і руды таракан, які часта завецца прусаком.



Чорны таракан (*Blatta orientalis*) — адносна вялікае (даўжыня цела да 3 см, а ў пэўных выпадках можа дасягаць нават і 5-ці) цёмна-карычневае альбо чорнае бліскучае насякомае. Прусак (*Blattella germanica*) прыкметна меншы за свайго суродзіча (да 1,5 см), афарбоўка ў яго светла-рудая ці цёмна-рудая.

Нягледзячы на перавагу ў памерах, чорныя тараканы, якія пасяліліся побач з чалавекам раней за прусакоў, звычайна прайграюць апошнім змаганне за жыццёвую прастору. Звязана гэта з асаблівасцямі размнажэння. Самкі абодвух відаў адкладаюць яйкі ў спецыяльныя хітонавыя капсулы (аатэкі), але калі прусачыха пастаянна носіць яе з сабой, то самка чорнага таракана — не, таму ейная капсула больш залежная ад знешніх абставін. Да таго ж чорныя тараканы менш пладавітыя, а іх лічынкам патрабуецца больш часу, каб вырасці ў дарослую асобіну.

Тараканы, асабліва калі іх многа, прыносяць чалавеку шмат клопату. Яны пераносяць на лапках і ў кішэчніку розныя хваробатворныя бактэрыі і яйкі глістоў, некаторыя людзі маюць алергію на іх сухія парэшткі і экскрэменты. Акрамя таго, гэтыя казуркі ядуць і забруджваюць прадукты, псуюць папяровыя і скураныя вырабы, а таксама могуць выклікаць пашкоджанні бытавой тэхнікі, у якой робяць свае гнёзды.




Чалавек цэлыя стагоддзі змагаўся з экспансіяй тараканаў, хоць не сказаць, каб быў у гэтым надта паспяховы. Прымянялася і вымарожванне (тараканы не выжываюць пры тэмпературы, ніжэйшай за –5ºC), і атрута, і іншыя формы ўздзеяння. Аднак поспехі калі і былі, то хутчэй лакальныя. У цэлым жа папуляцыя захоўвала вялікую колькасць і ўсюдыіснасць. Але з пачатку XXI стагоддзя колькасць тараканаў у кватэрах і іншых чалавечых будынках стала рэзка скарачацца сама сабой, аж да таго, што цяпер гэтыя насякомыя ў Беларусі ўжо дастаткова рэдкія.

Прычыны сучаснай дэпапуляцыі тараканаў да канца незразумелыя, у якасці тлумачэння гэтага феномена высоўваюцца самыя розныя версіі. Адныя тлумачаць гэта агульным паляпшэннем санітарнага стану памяшканняў, іншыя — удасканаленнем атрутных сродкаў з іх уздзеяннем не толькі на непасрэдных спажыўцоў, але і на генетычную якасць іх нашчадкаў і г. д. Сур'ёзна абмяркоўваецца нават такая версія, што згубнымі для тараканаў магло стаць распаўсюджанне высокачастотнай сотавай сувязі. У кожным разе сучасныя маладыя беларусы, як і лідскі шляхціч пачатку XVIII стагоддзя Леў Ільцэвіч, ужо, бадай што, збольшага і не сутыкаліся асабіста з гэтымі «брыдкімі жывёламі».

«Ліда засталася па правай руцэ. Начавалі мы ў карчме ксяндзоў-піяраў. Карчма была б цалкам зручнай, калі б не прусакі — казуркі, *занесеныя з глыбіні Расіі ў Літву*. Гэтыя казуркі завуцца прусакамі таму, што яны тут з’явіліся гэткім чынам: былі *прынесеныя азіяцкімі ордамі падчас паходу рускіх на Прусію* ў валадаранне царыцы Лізаветы».

Такім чынам, у адрозненне ад пачатку XVIII стагоддзя, праз сто гадоў прусакі ў нас былі ўжо добра вядомыя і моцна дапякалі жыхарам гістарычнай Літвы. Але з’яўленне іх мясцовыя людзі атаясамліваюць не з Прусіяй, як рускія, а з Расіяй. Прытым так было не толькі тут, але і далей на захад. Нездарма ж у Германіі і Чэхіі рудых тараканаў-прусакоў і дагэтуль называюць «рускімі» (па-нямецку: *russen*, па-чэшску: *rus*).

## Імя ворага

Але цікава пры гэтым, што як «рускіх» гэтых насякомых успрымаюць толькі ўсходнія немцы, а на захадзе Германіі пашыраная іншая яго назва: *franzose* (француз). І ўсё гэта наводзіць на думку, што ў розных, часам узаемавыключальных назвах наўрад ці адлюстроўваецца рэальнае, а не легендарнае паходжанне казурак. Бо сёння добра вядома, што насамрэч тараканы-прусакі былі занесеныя ў Еўропу (у тым ліку і ў германскую Прусію) у XVIII стагоддзі з паўднёвай Азіі.

А тлумачэнне можа быць такое. Пранікаючы ў Еўропу living рознымі шляхамі, насякомыя маглі з’яўляцца ў розных краінах практычна адначасова, а паколькі тады ж ішлі і войны з перамяшчэннем вялікіх масаў людзей, то з гэтым іх з’яўленне ў людскіх уяўленнях і асацыявалася: у немцаў — з прыходам рускіх, у рускіх — з вяртаннем сваіх салдат з Прусіі. Паколькі казурка гэтая непрыемная, бескарысная і нават шкодная, то цалкам лагічна, што на яе пераносілася непрыязнасць, адчуваная да суседніх народаў, што былі гістарычнымі супернікамі. І гэта знайшло сваё адлюстраванне ў мове ды фальклоры. ◆


WIKIMEDIA COMMONS

**Рускі цар Пётр I** мог не баяцца тараканаў на Літве: у яго час іх тут яшчэ не было.


SHUTTERSTOCK.COM, BY OLEKSANDR KOSTIUCHENKO

**А гэта чорны таракан, які жыў у Еўропе яшчэ да прыходу прусака.** Тыя ж немцы і чэхі, якія прусака звязваюць з Расіяй, чорнага таракана называюць швабскім (нямецкае *schwaben*, па-чэшску *švábi*). Са з’яўленнем прусака папуляцыя чорнага таракана ў Еўропе значна скарацілася.

**Родэвальд, Штэфан. Пра Полацкую Венецыю. Калектыўныя дзеянні сацыяльных груп горада паміж Усходняй і Цэнтральнай Еўропай (Сярэднявечча, ранні Новы час, XIX ст. — да 1914 г.) /** Пераклад з нямецкай М. Патоцкі, С. Паўлавіцкі, Г. Скакун**.** — Мінск: Лімарыус, 2020. — 632 с.

Даследаванне вядомага швейцарскага гісторыка выйшла ў серыі бібліятэкі часопіса «Беларускі гістарычны агляд». Навуковым рэдактарам кнігі з’яўляецца галоўны рэдактар гэтага часопіса, вядомы беларускі гісторык Генадзь Сагановіч. Кніга прысвечана тысячагадовай гісторыі Полацка, якая разглядаецца ў шырокім кантэксце гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. У цэнтры ўвагі аўтара — формы сацыяльнай арганізацыі і калектыўных дзеянняў жыхароў шматэтнічнага і поліканфесійнага горада. Разглядаюцца як пераўтварэнні, так і з'явы, якія захоўваліся ў жыцці полацкага грамадства на працягу доўгага часу, у розныя гістарычныя эпохі і перыяды.
Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72), інтэрнэт-кнігарнях **knihanosha.by** і **kniger.by**.



# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ

## ПАЎСТАННЕ ЗАБЫТЫХ

ЧАСТКА 2

Кароткі змест папярэдніх частак:

У СуперБеларусі пачынае адбывацца нешта нетлумачальнае – пасля моцнага энергетычнага збою падчас выпрабавання новых прыладаў з незразумелых прычынаў яе жыхары пачалі губляць жыццёвыя сілы. З гэтае нагоды Усяслаў звязаўся з Максімам, які заўважыў, што ўвесь Усяслаў офіс акутаны нечым кшталту бура-шэрых «каранёў», відавочна жывых і нябачных нікому, акрамя Максіма. Каб высветліць, адкуль растуць гэтыя «карані», жыхары СуперБеларусі вырашаюць тэлепартаваць Максіма ў свой свет, бо ён – звычайны чалавек – як высветлілася, адзіны іх бачыць і можа заўважыць крыніцу іх распаўсюджвання. З дапамогай Кастуся Каліноўскага і Францыска Скарыны Максім без цяжкасцяў тэлепартуецца ў СуперБеларусь. Падчас палёту над СуперПолацкам разам з Усяславам, Алаізай, Кастусём і Рагнедай Максім заўважае, што «карані» распаўсюджваюцца літаральна паўсюль з мясцінаў, што знаходзяцца за Гедымінавымі слупамі і, як сказала Рагнеда, носяць назву «Барысфеніда», а жывуць там – «Забытыя»...

ЗАБЫТЫЯ... А ХТО ЯНЫ? ЧАМУ МЕНАВІТА ТАК?




ЯНЫ ЖЫЛІ ТУТ ЯШЧЭ ДА СУПЕРБЕЛАРУСІ. НЕЎРЫ, АНТЫ...







КАЛІ МЫ З'ЯВІЛІСЯ ТУТ І ПАЧАЛІ СТВАРАЦЬ СУПЕРБЕЛАРУСЬ, МЫ ПРАПАНАВАЛІ ІМ ДАЛУЧЫЦЦА...


... АЛЕ ЯНЫ ЗАНАДТА СТАРАЖЫТНЫЯ, КАБ РАЗУМЕЦЬ ГЭТЫ СВЕТ.


НІЧОГА НЕ АТРЫМАЛАСЯ...
МАРАЗМ, КАРАЦЕЙ! ШМАТТЫСЯЧАГАДОВЫ...


НУ, ТО ПАЛЯЦЕЛІ ДА ІХ! НЯМА ЧАГО СВЕТ НАШ ЗАПАСКУДЖВАЦЬ! ПАГАВОРЫМ З ІМІ...
МЫ З ТАБОЙ І ПАГАВОРЫМ, ШУГАНЁМ ІХ...


ШУГАЛЬШЧЫКІ ЗНАЙШЛІСЯ! ВЫ ЎВОГУЛЕ РАЗУМЕЕЦЕ, ХТО ЯНЫ І ШТО ЯНЫ? А КАЛІ ЯНЫ ВАС ШУГАНУЦЬ?


Я ПАСПРАБУЮ!
ТЫМ БОЛЕЙ ШТО Я З ІМІ ЗНАЁМЫ... ТРОХІ...
АДКУЛЬ ГЭТА ЗНАЁМЫ?


НУ, БАЧЫЛІСЯ... НЯВАЖНА!
ЧАКАЙ, ПРАЎНУЧАК! Я БУДУ ГАВАРЫЦЬ!


НАПЕРАД, ЗА ГЕДЫМІНАВЫ СЛУПЫ!


ЛЯ ЎВАХОДУ Ў ГОРАД ЗАБЫТЫХ...
РАННІ ФЕАДАЛІЗМ! ТЫПОВЫ!
НЕЧАКАНА... АЛЕ КАРАНІ ЯКРАЗ АДТУЛЬ ІДУЦЬ!


ТАК, НАС
ЎЖО ЧАКАЮЦЬ...
ГЭЙ, ЁСЦЬ
ТУТ ХТО?


ЁСЦЬ...
ВОСЬ І ЯНЫ,
ГАСПАДАРЫ ТУТЭЙШЫЯ...


ДОБРЫ
ДЗЕНЬ!


ЯК КАМУ!..
НА
КАЛЕНІ!


ШТО ЎСЁ ГЭТА
ЗНАЧЫЦЬ?.. МЫ Ж
З ВАМІ
ДАМОВІЛІСЯ!..
БАГІ НЕ ДАМАЎЛЯЮЦЦА!
У ІХ СВАЕ ДАРОГІ!


АПОМНІЦЕСЯ!
ВЫ - НЕ БАГІ!
ВАШЫЯ
НАРОДЫ
ЗНІКЛІ!


МЫ ЗМУСІМ
ПАВЕРЫЦЬ У НАС
ЗНОЎ!
УСІХ
ВАС!


КАСА, ТАРЧ!!!
ЧАС СПЫНІЦЬ
ГЭТУЮ КЛАЎНАДУ!
АЛАІЗА, ДАПАМАГАЙ!
ЧАКАЙЦЕ!!!


ПАЧАКАЙЦЕ, ГОСЦЕЙКІ ДАРАГІЯ!




ШТО ГЭТА ТАКОЕ?!
ПЕРУНОВА СЯКЕРА! ПРА МОЛАТ ТОРА ЧУЎ? ТОЕ САМАЕ! СТРАШЭННАЙ СІЛЫ АРТЭФАКТ!


...АДКУЛЬ ЯНА Ў ІХ, УСЯСЛАЎ?
НУ, ТАК. НЕКАЛІ Я ПРЫНЁС ЯЕ ІМ У АХВЯРУ... КАБ АДЧАПІЛІСЯ І НЕ ПЕРАШКАДЖАЛІ. ЧЫМ БЫ ДЗІЦЯ НІ ЦЕШЫЛАСЯ... ГЭТА БЫЛА ПРОСТА ЦАЦКА, НЕ ЗАРАДЖАНАЯ...
ЯНА ЛЯЖАЛА ТЫСЯЧУ ГОД, А ЦЯПЕР МЫ ЗНАЙШЛІ СПОСАБ ЯЕ ЗАРАДЗІЦЬ, ДЗЯКУЮЧЫ НАШЫМ НОВЫМ СЯБРАМ З ТАГАСВЕТУ!
СЯБРАМ? ВЫ ПАКЛІКАЛІ ВІРУС, ЯКІ ВАНДРУЕ МІЖ ВЫМЯРЭННЯМІ!
І ШТО? ГЭТА ВЫ АД ЯГО СЛАБЕЕЦЕ, А МЫ – НЕ!


А МОЖНА МНЕ СКАЗАЦЬ?
ЧАЛАВЕК? ТРЫ ТЫСЯЧЫ ГОД НЕ БАЧЫЎ! КАЖЫ, НІКЧЭМНЫ!


ПАДОБНА, Я АДЗІНЫ ТУТ БАЧУ ГЭТЫЯ КАРАНІ, ШТО ВІРУС РАСПАЎСЮДЖВАЕ. ДЫК ВОСЬ, У ВАШЫМ ГОРАДЗЕ ЯНЫ ВЫГЛЯДАЮЦЬ НЕ ТАК, ЯК У СУПЕРБЕЛАРУСІ. ЯНЫ НЕ АГОЛЕНЫЯ, А НІБЫТА З КАРОЙ... ЦІ З ІЗАЛЯЦЫЯЙ. МАГЧЫМА, ТАМУ НЕ ЎЗДЗЕЙНІЧАЮЦЬ НА ВАС...


І ТАК, НА КАРЫ ГЭТАЙ МЕСЦАМІ ПУХІРЫ НЕЙКІЯ РАСТУЦЬ... І ПУЛЬСУЮЦЬ, БЫ Ў ІХ УНУТРЫ...


НЕШТА ЖЫВОЕ!

**У наш час з’явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць расслабіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## «Беларуская фракцыя» ў кампартыі

Журналіст **Дзмітры Гурневіч** дзеліцца са сваімі падпісчыкамі ўражаннем ад кнігі Наталлі Голубевай «Кирилл Мазуров. О чём молчало время...». Журналіст тлумачыць, што зацікавіўся кніжнай навінкай, бо асоба Мазурава яго інтрыгавала яшчэ са школы, калі ён вычытаў, што той неяк раззлаваў Хрушчова выступам па-беларуску.

«Насамрэч, — піша Гурневіч, — кніга атрымалася панегірыкам пра ідэальнага чалавека, які, напрыклад, толькі ў 80-я гады дазнаўся, што на яго дзядзьку напісаў данос сусед, і не мог паверыць: як, сусед, Божа, што ж гэта былі за часы, што за подласць. Хаця ў тыя часы яму было ўжо 24 і ён працаваў камсамольскім лідарам.

Пра Мазурава магла б атрымацца шыкоўная кніга, але на больш як 400 старонках я часта ўсміхаўся, як пасля такіх радкоў: “В 1939 году в БССР влилось 4,5 млн человек с очень сложными социально-экономическими проблемами. Ситуация в Западной Беларуси была драматичная, люди там бедствовали”.

Але ў кніжцы поўна цікавых момантаў, не датычных Мазурава, якія аўтарка цытуе з дакументаў. Пра аб'ёмы трафейнага абсталявання з пасляваеннай Нямеччыны ў Беларусь. Да пачатку 1947 года на менскія прадпрыемствы прывезлі 5666 вагонаў з тэхнікай. Пра тое, як менскія заводы абсталёўваліся станкамі *Siemens* і *Telefunken*. Пра 105 тысяч нямецкіх ваеннапалонных, якія аднаўлялі беларускую прамысловасць і адбудоўвалі Акадэмію навук, Галоўпаштамт, Трактарны завод, Тэатр оперы і балета».

Самым інтрыгоўным момантам кнігі Дзмітры Гурневіч лічыць паслядоўныя згадкі пра «беларускую фракцыю» ў кампартыі — беларускіх камуністаў, якія нібыта свядома раскручвалі Маскву на грошы і іншыя прэферэнцыі для Беларускай ССР.

«Напрыклад, НПЗ у Наваполацку збудавалі менавіта дзякуючы такім інтрыгам, бо Хрушчоў намагаўся адкрыць гэты НПЗ ва Украіне. Фактычна ўсе беларускія гіганты — заслуга Мазурава. Або анкалагічны шпіталь. Каб яго пабудаваць, міністр замежных спраў БССР Кісялёў пайшоў на понт. Ён сказаў з трыбуны ААН, што шпіталь ужо будуецца, і запрасіў кіраўніка ААН прыехаць і самому паглядзець. Маскве нічога не заставалася, каб даць грошы на гэты шпіталь. Тое самае было і з мемарыялам у Хатыні, які быў заяўлены як памятны знак. ...

З-за такіх паводзінаў камуністаў з БССР у Маскве называлі нібыта беларускімі партызанамі, якія дабіваліся ўсяго хітрыкамі. Менавіта таму Мазурава не ўзлюбілі. Пра “беларускую фракцыю” Брэжневу даносіў нават Андропаў. Таму Леанід Ільіч і адправіў Мазурава на пенсію. Афіцыйна: па стане здароўя. Але сям'я Мазурава была перакананая, што лекары наўмысна прапісвалі яму лекі, каб абнізіць сілу і энергію да працы. Бо пасля сыходу на пенсію і спынення прымання лекаў у яго зніклі ўсе праблемы».




Дзмітры задаецца пытаннем: «Ці была “беларуская фракцыя” міфам, прыдуманым КГБ, каб аслабіць Мазурава і адправіць на пенсію? У 2016 годзе ЦРУ рассакрэціла некаторыя дакументы. Сярод іх ёсць і справаздача пра “беларускую фракцыю” ў кампартыі».

Верагоднасць існавання патаемнага беларускага зямляцтва ў кампартыі дапусцілі некалькі каментатараў пад допісам Гурневіча. У якасці аргументаў называлі і тое, што Мінск па блаце атрымаў званне горада-героя, і тое, што ў розны час беларусы займалі ў Маскве высокія пасады. Напрыклад, пісьменнік **Вінцэсь Мудроў** прыгадаў, што «ў сямідзясятых гадах два беларусы былі міністрамі СССР: Іван Паўлоўскі (з Сенненскага раёна) — шляхоў зносінаў і Яўген Казлоўскі (з Доўску) — геалогіі».

Але ідэю катэгарычна раскрытыкаваў калега аўтара допісу па працы на Радыё Свабода, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі **Сяргей Навумчык**: «Ніякай “беларускай партыі” ў Маскве не было, гэта такі ж міф, як і тое, што Брэжнеў хацеў зрабіць Машэрава старшынёй Саўміна СССР. Так, у Маскве была пэўная колькасць выхадцаў з Беларусі на высокіх пасадах, але яны, як толькі траплялі ў Маскву, лічылі за лепшае забыць пра сваё паходжанне — пачынаючы з Грамыкі і заканчваючы Аксёнавым, які пры Гарбачове займаў пасаду старшыні Дзяржтэлерадыё. У лепшым выпадку маглі паспрыяць выдзяленню нейкіх лімітаў на нейкае будаўніцтва — і ўсё. Адно з пацвярджэнняў адсутнасці “беларускай партыі” — ніхто з іх ніколі не правёў у Маскву нікога са сваіх землякоў, што рабілі ўкраінцы, грузіны, азербайджанцы, і нават расейскія рэгіяналы. Гэта вельмі важны паказчык. Ды і паміж сабой яны практычна не кантактавалі».

Падсумоўваючы дыскусію, Сяргей Навумчык дадаў яшчэ адзін важны каментар: «Цяпер я запытаўся ў свайго бацькі, ці памятае ён пра такога міністра Паўлоўскага. "Так". — "А ты ведаеш, што ён родам з Сенненшчыны?" — "Першы раз чую".

Бацька з 1969 быў сакратаром Віцебскага гаркама, з 1978 па 1991 — сакратаром Віцебскага абкама партыі, ведаў пра ўсіх, хто не інкогніта прыязджаў з Масквы ў Віцебск ці ў вобласць (такіх людзей, канечне, падключалі да нейкай дапамогі), сам ездзіў у Маскву, як і ўсе рэгіяналы, абіваў высокія кабінеты. І ўжо, безумоўна, ведаў бы, што член ЦК КПСС (гэта на першым месцы) і міністр (на другім) шляхоў зносін СССР мае сентымент да Віцебшчыны, да Беларусі — калі б ён выяўляўся не ў слязе падчас "Александрыны" "Песняроў", а ў нечым хоць крыху практычным.

Між іншым, на тэрыторыі Віцебскай вобласці знаходзіцца найбуйнейшы ў СССР чыгуначны цэнтр — Орша. Вось ужо дзе быў аргумент, каб міністр-зямляк пралабіраваў жыллёвае будаўніцтва, сацыялку, новыя школы, бальніцы і г. д. І ніхто б слова папроку міністру не сказаў. Але ж не.

На гэтым тэму пра "беларускую партыю" ў Маскве можна, думаю, лічыць завершанай».

## Прымчаўся на трамваі

Гісторык **Паўліна Скурко**, якая сама нядаўна стала маці, у сваім фэйсбуку піша пра цяжарнасць сваёй бабулі Тамары Бабінай (у дзявоцтве Астроўскай). Было гэта ў 1966 годзе:

«Бабуля была цяжарная маім татам, і ў іх была дамоўленасць з мужам, маім дзедам, што як толькі — дык адразу яна яму паведаміць. І вось, адчуўшы першыя схопкі, бабуля пайшла ад свайго дома (на месцы Гістарычнага архіва на Крапоткіна) да тэлефона-аўтамата. Калі апісваць у цяперашніх рэаліях, то ёй



трэба было дайсці да Машэрава-Варвашэні, перайсці вуліцу і прайсці пад аркай "Тэхнабанка". Не даходзячы да Кісялёва, прыкладна на месцы латкоў з фруктамі, стаяў той адзіны ў раёне Старажоўка тэлефон-аўтамат.

Бабуля дашкандыбала, вызваніла дзеда-інжынера на Маторным заводзе. А дзед быў страшэнна дысцыплінаваны работнік, я сама яшчэ помню, як уставаў на світанку на той ММЗ. Ён выслухаў жонку і кажа з прасіцельнай такой інтанацыяй: "Слухай, а можа, ты як-небудзь пацярпіш да вечара?"

"Я як пачую — ды як кіну трубку! — кажа мая спакойная бабуля. — Аж так раззлавалася!"

Па-мойму, гэтая рэакцыя напужала дзеда куды больш за пачатак родаў. Прымчаўся ён, як мог, хутка, на трамваі.

Я ад бабулі ўсё дабівалася, нашто дзед быў ёй патрэбны: партнёрскія роды і блізка ж тады не практыкаваліся, і ў раддом забірала хуткая, а не муж вёз. Яе маё пытанне паставіла ў тупік. Яна кажа: "Ну як нашто — для падтрымкі!"

Яны пражылі вельмі шчаслівае, гарманічнае жыццё, наколькі я магу меркаваць. Дзеда няма з намі ўжо 14 гадоў, а баба Тома — мая неацэнная карміцелька, сяброўчка і крыніца старажоўскага натхнення.

На фота дзень іх вяселля. Старажоўскія агароды — самы жывапісны фон, а бабуля ў аранжавай сукенцы».

## Невядомыя малюнкі Яна Дамеля

Знакаміты мастак Ян Дамель (1780–1840), выпускнік Віленскага ўніверсітэта, вучань Францішка Смуглевіча і Яна Рустэма, апошнія дні свайго жыцця правёў у Мінску. Тут ён памёр і быў пахаваны на Кальварыйскіх могілках.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захавалася яго прыватная перапіска з мастаком і скульптарам Ігнаціем Цэйзікам. Дасціпныя лісты мастака ўтрымліваюць ягоныя вершы і малюнкі!

Усе адшуканыя і практычна невядомыя малюнкі майстра прадстаўленыя на падрыхтаванай супрацоўнікамі архіва **Дзмітрыем Монічам** і **Уладзімірам Дзянісавым** віртуальнай выставе «Ян Дамель: невядомыя малюнкі. Да 240-годдзя з дня нараджэння мастака». ◆





# **ТРЫМАЙСЯ ГОДНА!**
# ВЫКОНВАЙ ПРОСТЫЯ ПАРАДЫ



**Рэгулярна мый рукі** з мылам пад праточнай вадой не менш за 20 секунд. Трэба мыць не толькі далоні, але і вонкавыя бакі, а таксама прамываць пад пазногцямі. Апрацоўвай рукі антысептыкам і дэзынфікуй паверхні спіртам.



**Не чапай твар** і не дакранайся рукамі да носа, рота і вачэй. Пры чханні затуляй нос і рот згінам локця ці сурвэткай. Сурвэтку трэба выкінуць пасля выкарыстання.




**Вытрымлівай дыстанцыю** не менш за адзін метр у грамадскіх месцах, пазбягай поціскаў рукі, пацалункаў і абдымкаў.



**Насі маску,** калі чхаеш, кашляеш ці калі аказваеш дапамогу чалавеку з падазрэннем на інфекцыю COVID-19.



Звярні ўвагу! Людзям ва ўзросце за 60 гадоў патрэбная адмысловая абарона!
**Заставайся дома.** Пазбягай паездак у грамадскім транспарце, паходаў у крамы і аптэкі. Не наведвай паліклінікі, пры кепскім самаадчуванні выклікай лекара. Не саромейся прасіць дапамогі. Прасі сваякоў, сацыяльныя службы, валанцёраў дапамагчы з дастаўкай ежы, лекаў, аплатай камунальных паслуг.

Сачы за новай інфармацыяй пра COVID-19. Выконвай рэкамендацыі адмыслоўцаў аховы здароўя.




hodna.by